Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

VIII год выданьня
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

НАША НІВА

14 сьнежня 1998 г.

№23 (120)

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# КЛЯСЫЧНЫ ПРАВАПІС АГУЛЬНАПРЫНЯТЫ

**5-6 сьнежня ў Празе прайшла навукова-практычная канфэрэнцыя «Праблемы нармалізацыі клясычнага беларускага правапісу». Галоўнаю мэтаю збору навукоўцаў было абмеркаваць праект «Правапіс. Спроба сучаснай нармалізацыі», падрыхтаваны В.Вячоркам. Праект гэты быў апублікаваны ў часопісе «Спадчына» ў 1995 годзе, а таксама папраўлены й разасланы навукоўцам і практыкам. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел (фактычна або карэспандэнцыйна) П.Сьцяцко (Горадня), З.Паўлавец (Гомель), У.Арлоў, В.Вячорка, Ю.Бушлякоў, П.Садоўскі, З.Санько, З.Саўка, В.Сакалоўская (Менск), «Наша Ніва» (Менск-Вільня), Л.Юрэвіч (Нью-Ёрк), В.Пашкевіч (Таронта), Я.Запруднік (Нью-Джэрсі), В.Станкевіч, С.Шупа, Я.Максімюк (Прага). Гасьцямі канфэрэнцыі былі журналісты Беларускае службы Радыё Свабода. Удзельнікі рэкамэндавалі карыстальнікам тарашкевіцы на Бацькаўшчыне й на эміграцыі трымацца ўніфікаваных правілаў правапісу, пераважная бальшыня якіх грунтуецца на Тарашкевічавай традыцыі й на практыцы клясычнага правапісу апошніх гадоў.**

**Прысутны**

P.S. Сёньня, 14 сьнежня, у Вышэйшым гаспадарчым судзе РБ (Менск, Валадарскага 8, п. 413) узнаўляецца працэс у справе клясычнага беларускага правапісу і права газэты «Наша Ніва» гэтым правапісам карыстацца.




*Здымак Алены Адамчык*

У Вільні, у будынку Літоўскае Тэлевізіі адкрылася выстава беларускай фотамастачкі, сталае аўтаркі «НН» Алены Адамчык. Выставу адкрыў аўтарытэтны літоўскі культуроляг Скірмунтас Валюліс. Зьвяртаючыся да Алены, ён сказаў:

«Мне радасна, што аўтарка вяртаецца ў горад свайго дзяцінства. Гэта не адзіны выпадак у гісторыі фатаграфіі. Я прыгадваю Яна Булгака, які вярнуўся ў Вільню, тут атабарыўся, стаў лепшым фотографам Вільні ў гісторыі фатаграфіі...

Мне спадабаліся здымкі, дзе Вільня паказаная ў нязвыклым выглядзе: Вільня рамантуецца, будынкі пакрытыя, гленд-арт. У Бэрліне было прадстаўленьне такога мастацтва – дарэчы, вельмі дарагога – калі Рэйхстаг накрылі адмысловай матэрыяй, і йшлі гледачы, каб пабачыць... Аказваецца, такое можна зрабіць і без усялякіх грошай.

Нацюрморты цікавыя тым, што гэта ўжо не каляровая, а колеравая фатаграфія. Колер выкарыстоўваецца мэтанакіравана, з высокім густам, з увагай. Новая літоўская фатаграфія толькі выходзіць на сьцяжыну такіх пошукаў. Напэўна, літоўская фатаграфія атрымала ўрок ад вашае творчасьці. Пасьля папярэдняй вашай выставы яны сталі болей здымаць у колеры...

Практычнае выкарыстаньне такой каляровай фатаграфіі мае вялікую будучыню. Будзем глядзець у будучыню».

P.S. Два тыдні таму ў інтэрнэце адкрылася афіцыйная старонка Алены Адамчык, дзе зьмешчаная інфармацыя пра аўтара і віртуальная фотагалерэя. Адрас старонкі: http://www.a-photo.org.by




# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

**Павал Севярынец**

*Гэта трэба адчуць. Чым больш я ўслухоўваюся ў тры мэлядычныя склады Яе імя, чым глыбей рассмакоўваю гэтыя сем гукаў, спрабуючы напрыканцы ўлавіць няісны, апошні, самы пранізьлівы, а ён усё прападае з празрыстай літарай; чым даўжэй любуюся гэтым хвалюючым, белым-белым з гарачай чырваньню сьцягам — тым больш* ***веру****. У мяне пачынае буйней біцца сэрца й кружыцца галава. Хочацца ціха заплюшчыць вочы й малітоўна, урачыста шаптаць пра сябе: Магутны Божа! Бязьмежная мудрасьць Твая, непамерная ласка Твая! ДЗЯКУЮ Табе за тое, што я нарадзіўся менавіта ў ГЭТАЙ КРАІНЕ!..*

*У гэтай краіне ахвяраў, войнаў і катастрофаў, сярод народу геніяў і сьвятых. Сярод найвялікшых могільнікаў чалавечай гісторыі. У Імпэрыі Культуры, важнейшым духоўным цэнтры між Расеяй і Эўропай. Бо я веру, што Беларусь — гэта нешта намнога больш значнае, чым прынята думаць.*

## 1. Імпэрыі Духу

Пачнем з таго, што менавіта ў гэтай краіне Расейская й Савецкая імпэрыі ракавым чынам атрымалі сьмяротныя прабоіны. Сто гадоў таму тут упершыню сабралася партыя расейскіх рэвалюцыянэраў, якая потым з паражальнай хуткасьцю стварыла на 1/6 сушы найвялікшую за ўсе часы чалавецтва таталітарную сыстэму. У лютым 1917-га адсюль, са стаўкі ў Магілеве, тэрмінова выехаў у Петраград цар Мікалай II, і дарогаю ў чыгуначным вагоне выракся прастолу. Назаўтра Расея выбухнула ў трэскі. Потым быў правальны Берасьцейскі мір. Потым пакт Молатава-Рыбэнтропа. Нарэшце, у канцы 1991 г. СССР рухнуў, і здарылася гэта ў Белавескай пушчы. Заўважце, парэшткі Саюзу незалежныя дзяржавы цырымонна пахавалі ў тым жа Менску. Але на гэтым гісторыя ня скончылася: тут жа з магілы на поўны рост падняўся прывід Імпэрыі зла. Усё з такой убойнай пасьлядоўнасьцю клінам сыходзіцца на Беларусі, што міжволі, як дрыжыкі, прабірае падазрэньне: праўда.

Дзякуй Богу, геаграфічныя імпэрыі ўсё-ткі разваліваюцца.

У свой час паў і ***Рым***, грандыёзная праэўрапейская мэтраполія. Не засталося й сьледу ад граніцаў, крэпасьцяў, жалезных легіёнаў. Але з разбурэньнем фізычнага цела імпэрыі праз хрысьціянства вызваліліся аграмадныя духовыя сілы, і вось ужо самі пераможцы, гаспадары Сярэднявечча, схіляюцца перад уладаю рымскай цывілізацыі. Антычная культура й каталіцызм, лаціна й рымскае права, сыстэмнасьць і камунікацыі ахапляюць палову зямнога шара. Цэзару й ня мроіліся такія заваёвы.

Пакуль мы яшчэ ня здольныя ў поўнай меры асэнсаваць спадчыну Савецкага Саюзу, але ўжо зараз ясна: наколькі бездухоўным і платаядным быў сам СССР, настолькі ўбогім будзе ягоны ўнёсак у чалавечую гісторыю. Зрэшты, ужо сёньня, на нашых вачох, на дымныя глыбы развальваецца Расея, і мы можам назіраць гэтае відовішча ў прамым тэлеэфіры.

А вось ***Ірляндыя*** ніколі нікога не акупавала, не спусташала й не абвяшчала тысячагадовых рэйхаў. Маленькая зялёненькая выспа ў Атлянтыцы, зь якой жыхары ратаваліся куды далей. Сёньня Стары й Новы сьвет моляцца на яе. Скрозь ірляндзкія тэмы ў кіно, ірляндзкі тон у кнігах, ірляндзкі рок у навушніках. Найвялікшы раман усіх часоў і народаў родам з Дубліну. Вось так, уявіце сабе: не з Парыжу, Лёндану ці Нью-Ёрку — з Дубліну. Шэсьць нобэлеўскіх літаратараў. Знакамітае О з апострафам у прозьвішчах, быццам бы з коскай перад нулямі гіганцкае лічбы, знакуе сусьветнае захапленьне: О!.. Ірляндыя, якая нават згубіла сваю мову, сталася Культуровай імпэрыяй, Імпэрыяй Духу. А гэта навечна.

Зьместам Імпэрыі Культуры ёсьць ня культ мяжы, не ксэнафобія, не фізіялягічнае паглынаньне народаў ды тэрыторыяў — а наадварот, духовая бязьмежнасьць у суіснаваньні, у імкненьні зрабіць сьвет больш дасканалым. Гэта не элемэнтарная функцыя захопленых квадратных кілямэтраў, а інтэграл куды вышэйшага парадку.

*Працяг на старонцы 2*

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!

Вельмі ўзрадавалі нечаканай аб'ектыўнасьцяй заключэньне камісіі Інстытуту мовазнаўства і той інтарэс да моўнае тэматыкі, што ўзьняўся з прычыны чыноўніцкае мітусьні вакол «НН». Такога інтарэсу ня памятаю з часоў працы камісіі Н. Гілевіча й ганебнага рэфэрэндуму 1995 году. Шкада, што гэты інтарэс паступова аціхае й ня выліўся ў шырокую дыскусію мовазнаўцаў аб магчымых кірунках дасканаленьня правапісу й тэрміналёгіі, хаця б на старонках «НН». Што тычыцца тэрміналёгіі, то хацелася б, каб на старонках газэты зьявіўся «Слоўнік «Нашай Нівы», дзе чытачы й мовазнаўцы маглі б выказваць свае меркаваньні пра ўжываньне й правапіс асобных словаў ня толькі агульнаўжывальнае, але й адмысловае лексыкі.

**Віталь Якшэвіч, Менск**

Добры дзень, «Наша Ніва»!

Насьпела жаданьне ізноўку выказаць пэўныя разважаньні, рэфлексіі на сучасную беларускую сытуацыю. Па-першае, цалкам падзяляю стыль газэты, што да ППРБ. Сапраўды, дзеяць справу прасоўваньня беларускага стылю жыцьця можна ня толькі праз выкрываньне антыбеларускасьці, савецкасьці гэтага чалавека ды створаную на пяску ягоную сыстэму жыцьця, а і праз такое простае стаўленьне да гэтага, як у «Нашай Нівы». Я маю на ўвазе цудоўныя словы паляка Робэрта Ляшчынскага ў нумары № 21 «НН» – «... у ім няма Лукашэнкі». У стылі жыцьця, які стварае газэта, няма месца ні ППРБ, ні ягонай сыстэме. Дакладна азначана – «Паралельная Беларусь». Бо сёньня ўсім зразумела, што гэтая сыстэма на пяску ўжо ў стадыі развалу. І трэба сьпяшацца будаваць іншае, што будзе на гэтым месцы, бо мы ведаем, што прырода ня цярпіць пустэчы. І тут вельмі істотна, каб новая сыстэма не ўзьнялася на развалінах былое. Таму лічу, што сёньняшні стратэгічны курс газэты, як і напачатку стагодзьдзя, абраны слушна. Другім трапным стрэлам газэты сталася моўнае пытаньне. Немагчыма будаваць новы Беларускі Дом у Эўропе, калі ў ім будзе гучаць савецкая беларуская мова, мова, зь якой нібы выцягнутыя кроў, душа народу, ягоная шматвяковая спадчына. Мы ведаем – безь мінуўшчыны няма будучыні, дык навошта нам мова, у якой гэтая повязь адсутнічае. Любая нацыя пры разьвіцьці мае апірышчам найперш нацыянальную традыцыю, культуру, перанятую ад продкаў – а галоўны носьбіт гэтага менавіта мова дзядоў, менавіта дзядоў, а не наркамаў. У зьвязе з гэтым, чаму «Нашай Ніве» не зрабіцца тым ядром, вакол якога будуць гуртавацца менавіта беларускія па духу мовазнаўцы? Чаму нарэшце не правесьці ўнармаваньне (толькі наадварот ад бальшавікоў) беларускае мовы на працах мовазнаўцаў тых часоў, новых рупліўцаў роднага слова. Нельга толькі браць на гэтую сьвятую працу «наркамаўку» – бо гэта сапраўды ня мова, а расейска-беларускае «наречие». Трэцяе меркаваньне да дзён без чужога слова. Такія акцыі трэ' было праводзіць з самага пачатку адраджэньня 90-х гадоў. Бо тутака пытаньне псыхалёгіі. Калі ты адзін паслугоўваесься беларускаю моваю, ня маючы інфармацыі пра іншых сваіх аднадумцаў, вельмі хутка прахалоджваесься ў душы ад гэтай пустэчы вакол. Зараз я асабіста, ведаючы, што са мною і 2-га лістапада, і 2-га сьнежня размаўляюць ва ўнісон тысячы беларусаў, адчуваю еднасьць, гонар, нейкую ўзьнёсласьць, калі хочаце. Менавіта праз гэтыя пачуваньні нараджаецца нацыянальная ідэя ды ідэалёгія. Гэта й ёсьць тым, чаго не хапае беларускай, апазыцыі – менавіта ідэі. У гэтыя дні, размаўляючы зь людзьмі на працы, на вуліцах, у крамах, цікава было сачыць за іхнымі рэакцыямі. Ня ведаю, як іншым, але мне ў гэтыя дні не сустрэлася ніводнага апазыцыянэра беларускае мовы. Людзі імкнуліся таксама размаўляць са мною па-беларуску, часам гэта выглядала камічна (я маю на ўвазе словы, якія яны прамаўлялі, ня маючы слоўнае базы ды практыкі ў вымаўленьні), але гэта ўжо нешта, калі параўноўваць з былымі гадамі. Магчыма, гэта выклікана апазыцыяй мовы і ППРБ, бо, як вядома, шмат незадаволеных ППРБ ня ведаюць мовы, а тут мова робіцца кодам – «Мы з табою супраць сыстэмы». Але самае цікавае – гэта паводзіны тых, хто ня ўмее размаўляць па-беларуску – спачатку нейкая разгубленасьць, потым пачуцьцё віны, і напрыканцы –камення выраз твару. Заўважце, раней усё сканчалася крыкам, абразамі, незадаволенасьцю, а зараз толькі каменным тварам. Мажліва, гэта эвалюцыя нацыі, а мо й вядомая беларуская апатыя. Такія вось назіраньні першых двух дзён, і, як мне падаецца, досыць аптымістычныя. Чаго і жадаю ўсім чытачам «Нашае Нівы». Будзем выхоўваць беларускасьць у сабе –выхаваем цэлую нацыю.

**Аніськевіч Уладзімер, Баранавічы**

Дзень добры, шаноўная рэдакцыя!

Вам піша Бандарэнка Андрэй з Гомеля. Вельмі добра, што ў барацьбе за свабоднае ўжываньне тарашкевіцы вас падтрымалі мовазнаўцы. Цяпер я і ўсе чытачы вашай газэты жадаюць і чакаюць перамогі ў судзе. Бо ваша перамога – гэта шанец беларушчыны на будучыню і ўрок, што забароны й затоптваньне беларушчыны зьяўляецца дарэмнай і бруднай працай.

Вялікі дзякуй вам за «10 памятак беларускага правапісу» і новую аповесьць Васіля Быкава «Ваўчыная яма». Гэтая аповесьць чытаецца больш цікава, чым іншыя творы пісьменьніка. Напэўна, таму, што яна напісаная ў Фінляндыі і на новую для Быкава чарнобыльскую тэму. Шкада толькі, што ў суседняй Швэцыі нобэлеўскім лаўрэатам абралі не беларуса, а партугальца.

Надыходзіць новы 1999 год. Для вас гэта новыя пляны й праекты. Апошнім часам шмат хто з чытачоў і журналістаў уздымалі пытаньне аб друкаваньні газэт ды часопісаў на беларускай лаціне. Зь ёй я пазнаёміўся два гады таму на старонках вашай газэты ў рубрыцы «Каляндар» і з таго часу я пачаў яе вывучаць. Мне вельмі хочацца, каб у новым годзе вы аддалі адну-дзьве старонкі «Нашай Нівы» для артыкулаў, вершаў і прозы на беллацінцы (няхай адзін раз на квартал). Або выдавалі б спэцыяльны дадатак да вашай газэты. Я ўпэўнены, што ў будучыні вольна зьявяцца ў шапіках лацінкабеларускамоўныя газэты (кшталту «***Biełaruskaj Krynicy***») ды часопісы (няхай нават «Penthouse»). І прымоўкнуць галасы тых, хто называюць беларускую мову «деревенской». Як будзе называцца беларуская лацінка – вось пытаньне для іх!

*Usiaho vam dobraha i da sustrečy!*

**Bandarenka Andrej, Homiel**

*Shanounaja redakcyja,*

*nadta padtrymlivaju tyx, xto vystupaje za pashyrennie sfery ughytku bielaruskaj lacinki. Tady b nie bylo pytannia pra narkamauku-tarashkevicu, nie stajala b kryxy shyzafrenichnaja patreba «rabic' bielaruskuju movu jak maha miensh padobnaj da rasiejskaje». Heta radykal'na addzialila b nas ad kirylichnaha absiahu. Nia tre' bylo b dakazvac', jakaja kul'tura bol'sh eurapiejskaja.*

*Jasna, shto pravapis nie pamianiajesh za adzin hod abo rashenniem zvierxu. Napachatku chastka bielaruskix litaratarau mahla b pierajsci na lacinku, paslia za imi — inshyja sfery kultury. Tol'ki kab gha palityki nashy z BNF nie zachapilisia za hetuju ideju, a to jany liubiac' pisac' uliotki takoj movaj, shto tol'ki sami j razbirajuc', a pra prostaha chalavieka nia dumajuc'.*

*Ja sam u asabistyx zapisax starajusia karystacca lacinkaj. Lacinka — heta taki praryu! A shto pravily niedaskanalyja, dyk xaj liudzi dasylajuc' svaje prapanovy, listy. Praz hod movaznaucy pabachac' i vybieruc', jaki varyjant najliepshy, najprasciejshy dlia zasvajennia i dastupny pry zvychajnaj kamputarnaj klavijatury (usie zhodnyja, ja miarkuju, shto klasychny varyjant pravapisu treba xoc' troxi zmianic, bo jon nia usiudy lahichny i nie nadajecca pad bielaruskuju movu).*

*Mnie zdajecca, u niadaunix numarax «NN» pisali dosyc' lahichnym varyjantam. Maju tol'ki adno da jaho pryncypovaje udakladniennie» niel'ha pieradavac' «ж» jak «zh», bo vyxodzic' blytanina: **«жук»/»згук», «жадаць»/ «згадаць»** —niedapushchalnaja dlia pravapisnaj systemy. Raz usie shypiachyja my pieradajem spaluchenniem dzviux litarau, to dlia «ж» moghna bylo b ughyvac' «gh», shto ja j rabliu. Abo jashche moghna bylo b pisac' prosta «g», a vybuxny «г» pisac' zvyklym «h», pahatou, shto tak dahetul' robiac' u kirylicy.*

*Z pavahaj,*

**Ihar Valasiuk, Bierasc'**

*Vielmišanoūnaja Naša Niva!*

*Tre' mović, spakojna čytaū artykuł Alesia Kačana. Kali adkinuć abahulnieńni dy zakidy, dyk zbolšaha jahonyja varunki zrazumiełyja — internetaūskija hulni. Karcić ubłytacca ū pavučyńnie Internetu pa-biełarusku, až klavijatura — anhielskaja. Anhielskim alfabetam pisać biełaruskija teksty jošć spravaj novaju, vynachodlivaju — voś i zdavieryūsia pan Aleś hetaj stychiji.*

*Ale ž jakoje chalery Andreju Dyńko sobiła praciahnuć hetyja hulni — niemaviedama. Čym jamu nie dahadziła nieeksperymentalnaja łacinka? Ci znoūku zvadziła stychija? Tekst musić zrokava hladziecca dy rožnicca ad inšamoūnych. Biełaruskaja łacinka adrazu paznajecca dy zrokava rožnicca nia toje što ad anhelskaje ci francuskaje — ad polskaje dy českaje (na jakuju, peūna, najbolš padobnaja). Kačanova ž łacinka robić niejkaje hidlivaje ūražańnie. Užytak uziatych z anhielskaje «ch», «sh», «zh», «x» anijak nie padmacavany ani histaryčna, ani racyjanalna, ani sensava. Zrešty, mnie taksama nia ūsio padabajecca ū našaj łacincy. Prykładam, mnie niedaspadoby ryska ū sposabie pieradačy ćviordaha «ł». Jana padajecca mnie nienaturalnaj, niby nie prymaje jaje našaja łacinka. Ale jak pieradavać miakkaść «l» naprykancy słova ci pierad zyčnym — nie mahu daūmiecca. Bo apostraf, mnie padajecca, słuhuje da raździaleńnia hukaū i ū biełaruskaj łacincy niepatrebny.*

*Ale hałoūnaje ū jinšym. Aleś Kačan zaklikaje ūbłytacca ū Eūropu z novaj łacinkaj dy pakinuć staryja rujiny. Pa-pieršaje, nia ūsim našaja minuūščyna jošć rujinami. A pa-druhoje, mienavita tamu, što my majem ščaście mieć tyja «rujiny», my majem i prava zvacca eūrapiejskaj nacyjaj. Kab davieści daskanałaść, zručnaść, admietnaść dy prystasavanaść da čaho-chacia našaje łacinki stanie adnaje racyji — biełaruskaja (mienavita biełaruskaja) łacinka žyvie dy daskanalicca ūžo daūžej ad stahodździa. To peūna j adzinaja racyja, jakoj my musim trymacca. Nia treba vynachodzić rovar — jaho daūno vynajšli našyja prodki.*

*Iź vialikaj pašanaj dy roūnaj uchvałaj vašaha mužnaha dy šlachotnaha vydavieckaha čynu vaš stały čytač ad pačatku —*

**Aleś Šed, Miensk**

*P.S. U padobnym stanie — amal što ūsie łacinki, aproč anhielskaje, ale kali citły nad litarami stavić niemahčyma, dyk novych spałučeńniaū anichto nie vynachodzić, a prosta citły nia staviacca. Jak heta robić i «Naša Niva», paznačajučy pravaruč ad nazovu hazety svoj kamputarny adras: http://members.xoom.com/Nasa_Niva.*

АДКРЫТЫ ЛІСТ

23 лістапада 1998 г.

Дарагі Ойча Пётар Гушча!

Віншую Вас і цешуся, што Вы ўжо на свабодзе, г. зн. фізычна вольны, але ж духоўна надалей у няволі ў руках таталітарнай сыстэмы. Асабліва варожай для тых, каму Беларусь і яе свабода так блізкія сэрцу, як Вам і Вашым судумнікам.

Расейская Праваслаўная Царква была і ёсьць асновай і абаронцай расейскага нацыяналізму і імпэрыялізму. Відаць, Мітрапаліт Філарэт, падобна як і Лукашэнка, перакананы ў тым, што беларуская мова залішне бедная і малазразумелая для Бога. Цікава, на якой мове моляцца ў Афрыцы ці Новай Гвінэі, і ці Бог іх слухае? Калі ў 1942 годзе аднавілася Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква, Масква адразу аб'явіла яе некананічнай. Пасьля выезду зь Беларусі на эміграцыю япіскапаў, а іх было пяць, яны хутка далучыліся да Расейскай Замежнай Царквы і зараз жа агаласілі БАПЦ некананічнай. Я не спэцыяліст па царкоўных канонах, але добра памятаю зь Бібліі словы Хрыста: «Дзе двух ці трох зьбяруцца ў імя Маё, там Я з вамі». І гэта ёсьць царква. Каноны стварылі людзі, я лічу, што мы тут, у вольным сьвеце, павінны падтрымліваць Вас і Вашыя высілкі ў стварэньні Беларускай Нацыянальнай Царквы. Я заклікаю нашых япіскапаў і вернікаў дапамагчы Вам, дарагі Ойча, у Вашых сызыфавых высілках разгарнуць высілкі замацаваньня Вашай Царквы і дапамагчы Вам усімі магчымымі сродкамі. Не забывайцеся, што «дзе двух ці трох зьбяруцца ў імя Маё, Я там буду зь імі».

Заклікаю стварыць камітэт дапамогі для Беларускай Нацыянальнай Царквы ў Рэспубліцы Беларусь.

**Барыс Рагуля, Канада**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

*Працяг са старонкі 1*

Яшчэ адна Імпэрыя Духу ў нас пад нагамі. І мы, няўдзячныя, топчам яе штодня, дасадліва азіраючы далягляды ў пошуках свае ўласнае Ідэі.

## 2. Гісторыя Беларусі. Стары Запавет

Старым Запаветам гісторыі Беларусі быў залаты век Полацку й Вялікага Княства Літоўскага. Гэта сапраўды легенда. Эра мудрых, эра праведных войнаў, герояў і волатаў, раскошных палацаў, яна дайшла да нас у велізарных пыльных кнігах, якія яшчэ чытаць і перачытваць.

Краіна, якая потым стане Беларусьсю, нараджалася на стратэгічным стыку цывілізацыяў, земляробчай Эўропы й качавое Азіі. Гэткім жа чынам сышоўся ў трох кантынэнтах Блізкі Ўсход, прарадзіма трох глябальных рэлігіяў. Так падымаецца вяршыня сьвету, Тыбэт з Гімалаямі, дзе сутыкнуліся ўсходнія гіганты, Кітай і Індыя. Важнейшае геапалітычнае скрыжаваньне — гэта гістарычны крыж Беларусі яшчэ з часоў Усяслава Чарадзея. Увесь час мы аказваліся то між варагаў і грэкаў, то між Кіевам і Ноўгарадам, то між Русьсю й Эўропай.

Менавіта тут, у Эўрапейскай Сарматыі, канцэнтравалася супрацьстаяньне двух сьветаў. У ракавым 13-м стагодзьдзі настаў вырашальны час: у глыбіні дзікіх стэпаў Азіі зарадзілася аграмадная мангольская Арда Тамэрлана, і рушыла на Захад, зьмятаючы на сваім шляху царствы й ханствы... Увадначасьсе зь ёй увабраўся ў сілу браняваны Ордэн нямецкіх крыжакоў, і памкнуў на Ўсход, разрубаючы Польшчу, Прусію, Лівонію... Дзьве першародныя плянэтарныя стыхіі, такія сугучныя, няўмольна накатвалі насустрач адна адной, каб сысьціся ў двубоі. І ў Міжмор'і, у самай гарлавіне Ўсходняй Эўропы, дзе магло захлынуцца крывёю ў катастрафічным пабаявішчы ўсё сярэднявечнае чалавецтва — раптам, дзіўным чынам, узьнікае магутная дзяржава, Вялікае Княства Літоўскае. І спыняе сусьветнае сутыкненьне. Стагодзьдзе — і перад уладным полем спакою асядае Арда. Яшчэ стагодзьдзе — і ў прах рассыпаецца Ордэн.

Што дзіўна: на гэтай зямлі ўва ўсе часы шукалі, намацвалі тую самую ***мяжу*** Эўропы з Азіяй: ці то па Дняпры, ці па Бугу, па Вялікім водападзеле, па Менскім мэрыдыяне... Але важна зразумець: граніцы няма й ня можа быць у прынцыпе. У дрымучай Беларусі зьнікаюць межы. Усё расплываецца ў прывідным сутоньні, перад якім з сумневам спыняюцца ўсе заваёўнікі.

Урэшце, Вялікае Княства становіцца лідэрам агульнаславянскага ***Рэнэсансу***. Беларускія Бібліі, друкі й шрыфты, Рэфармацыя і ўніяцтва, віленскае барока і ўнікальныя рамёствы 16-17 ст. абудзілі магутныя сілы духу ў нашых блізкіх і далёкіх суседзяў. Вялікае Княства Статуту, тэрыторыя парадку — сярод маскоўскае апрычніны, запароскае казаччыны, каталіцкае інквізыцыі й тэўтонскага вераломства. І, што самае дзіўнае, на раздарожжы рэлігіяў, сярод бяздоннага іх памяшаньня, у эру варфаламееўскіх начэй — Княства верацярпімасьці. Ува ўсёй Эўропе катавалі, палілі, вешалі зусім па-жыцейску, а на гэтай зямлі цэлыя стагодзьдзі падобнае было выключэньнем. Сюды натоўпамі сьцягваліся іншаверцы, навукоўцы й гнаныя праведнікі.

Вельмі паказальна, што развяліла ВКЛ менавіта міжканфэсійнае пытаньне. Калі сілу ***веры*** канчаткова спараліжавалі царкоўна-касьцёльныя разборкі, калі велічная раскоша пачала па-фарысэйску папахваць разбэшчанасьцю, гэтая краіна ўжо выканала сваю задачу. Эўропа стаяла на парозе прамысловых рэвалюцыяў; Азія трансфармавалася ў Расейскую й Асманскую імпэрыі.

Эпоха Старога Запавету канула ў Лету. З Рагвалодам і Рагнедаю, зь легендаю пра Палямона, з мудрымі Саламонамі, гарадзенскім Давыдам, са спрадвечнай славай, тысячай казак, якіх больш ніколі ня будзе. Час прыціх.

Сапраўды, геаграфічныя імпэрыі развальваюцца. І шкадаваць ВКЛ ня мае сэнсу. Таму што гісторыя Беларусі пачынаецца зноў — з Новага Запавету.

## 3. Гісторыя Беларусі. Новы Запавет

Такім чынам, Хрыстос прызямліўся ў Гародні.

Для Беларусі настала ***новая эра***. Прабіў час прымружвацца й падстаўляць для ўдару шчокі. Час палюбіць бліжняга свайго ўсім сэрцам, як самога сябе. Час аддаваць.

Мы аддавалі ўсё. Да астатняга таленту, да апошняга слова, так, што самім анічога не заставалася на расплод. Польская асыміляцыя ў Рэчы Паспалітай спраквакавала цэлы фаервэрк фэномэнаў беларускага паходжаньня. Мы далі Польшчы найвышэйшыя,

# ДЗЕНЬ БЯЗ МОВЫ

Часам здараецца ў жыцьці, што пра нешта вельмі йстотнае забываесься. Наагул, гэткая зьява, як забываньне, мае месца досыць часта. Але звычайна забываньне ня тычыцца ні пільных справаў, ані нейкіх важных сустрэчаў. Калі ж і здараюцца гэткага кшталту непрыемнасьці, дык успрымаеш іх як наканаваньне, ня ўсё ж у гэтым сьвеце роўна: паласа белая, паласа чорная. Я б ніколі не здагадаўся, якую пастку мне падкладзе лёс у другі дзень зімы. Прачнуўся, як зазвычай – уставаць не хацелася, ды мусіў. Потым пайшоў на сэмінар у IREX, думаю: «Мо што цікавае й пачую». Перш-наперш, я даведаўся, што вучыць жыцьцю нас будзе амэрыканец па-расейску. Ну, добра, хай сабе. Але ж і я мусіў зь ім размаўляць па-расейску, бо дзядзька іншае мовы, акрамя хіба яшчэ свае ангельскае, не разумеў. У гэтым годзе я меў «шанец» двойчы размаўляць па-расейску, дый тое, зь немцам ды шатляндцам. Што было яшчэ рабіць зь імі – ня зьдзекавацца ж ды прымушаць бегчы ў букініст па «Граматыку» Браніслава Адамавіча Тарашкевіча? Затое як прыемна было глядзець на аблічча крамніцы ўва «Ўзвышшы», што насупраць КГБ, якая гэтак і ня здолела зразумець без дапамогі нейкага добразычлівага перакладчыка майго запытаньня: «Ці не маглі б мне пакінуць гэты квіточак?» Няма мазгоў – лічы калека. А сёньня, як вада зь вядра, на галаву абвалілася расейшчына, якое літаральна ў роце не трымаў зь незапомных часоў. Ды йшчэ так нечакана, што мусіў не абазнанаму ў беларускай мове амэрыканцу ператлумачваць зь неверагоднымі патугамі тое, што ўжо даўно прадумаў ды прагаварыў у галаве па-наску. І ня я адзін, відовішча было фантастычнае: сядзяць беларусы ды спрабуюць амэрыканцу «изъясниться по-русски», густа пераплятаючы расейшчыну беларускімі словамі ды непаўторным сакавітым акцэнтам. А пасьля яшчэ ўсчалася дыскусія на тэму «Ці лёгка думаць па-беларуску й перакладаць сынхронна на расейскую?»

Калі надыйшоў перапынак на каву, нехта прыгадаў: «Сёньня ж Дзень мовы!» Хто мог здагадвацца пра гэта? Мароз на вуліцы не дае спакою сваімі нечаканымі выбрыкамі, нават «чэлавечаскіх яіц» у крамах няма – а ў гэты час надыходзіць чарговы Дзень мовы. У мяне атрымалася ўсё наадварот таму, што плянавалася. Штодзень у мяне Дзень мовы, ды цягнецца ён здаўна, а скончыцца хіба толькі ў дзень сьмерці. А тут праз увесь дзень змушаны быў «чикать» ды «рикать». Атрымалася, што калі ў мяне Дзень мовы трыста з гакам содняў на год, дык у астатніх у галаве й на языках «русский порядок», калі ж у іх Дзень мовы, у мяне... Я ўсё ж пашкадаваў, што не скарыстаў добрае магчымасьці праінфармаваць амэрыканца пра табу, накладзенае на расейшчыну ў штодругі дзень месяца, ён нават не запярэчыў бы, каб даведаўся пра незвычайнае нацыянальнае сьвята.

На IREXаўскім сэмінары назіралася яшчэ адна цікавая карціна. Расейская мова ўпершыню на маёй памяці споўніла сваю непасрэдную місію «мовы міжнацыянальных стасункаў», калі жыць паводле Канстытуцыі'94. Амэрыканец і беларусы, карыстаючыся няроднаю для ўсіх расейскаю, надзіва дакладна ўвасаблялі ідэальнае моўнае аблічча Краіны. Узровень абазнанасьці ў гаворцы ўсходняга суседа быў аднолькавым ува ўсіх – як з аднога, гэтак і з другога боку. Праўда, ніхто не сумняецца, што грамадзяне сяброўскіх нам заходніх дзяржаваў у будучыні не забудуцца перад набыцьцём квітка на самалёт кампаніі «Белавія» ў бок Менску, прачытаць у інтэрнэце «Граматыку» Тарашкевіча, а гэтаксама ўсе тэрміналягічныя слоўнікі, выдадзеныя «нацдэмамі» зь Інбелкульту ў дваццатыя гады.

**Віктар Мухін**

# МАЛАДЫ ФРОНТ ПАДТРЫМАЎ АКЦЫЮ «НН»

2 сьнежня на некалькіх пікетах, дзе маладыя трымалі плякаты ў 20-градусны мароз, людзі даведваліся, што ў Беларусі абвешчаны дзённы моўны пост. Так здарылася, што менавіта ў гэты дзень была адмененая шматтысячная акцыя пратэсту супраць палітыкі рэжыму – прафсаюзы папросту здалі працоўных. І ў гэты ж самы дзень са спэцпрыёмніка-разьмеркавальніка выходзілі на волю з 15 сутак адсідкі два палітвязьні – «Хросны бацька» Маладога Фронту Вячаслаў Сіўчык і старшыня Партызанскай рады МФ Вадзім Канапацкі. Іх сустракалі духавым аркестрам (ад трубаў валіла пара), абдымкамі й, натуральна, роднай мовай.

А назаўтра, 3 сьнежня, у расейскамоўнай апазыцыйнай газэце «Имя» выйшаў вялікі артыкул «Попробуй без языка» – аб тым, як перайсьці на беларускую мову. Артыкул быў узяты з маладафронтаўскіх «Збораў Беларушчыны».

Увечары 3 сьнежня мы апыталі маладафронтаўцаў, якія сабраліся на сваё штачацьвяравае паседжаньне: якія ўражаньні пакінуў Дзень? Прапануем вашай увазе найбольш характэрныя адказы:

Зьміцер, 17 гадоў:

– Другога сьнежня? Ды на беларускай трэба кожны дзень размаўляць! Пастаянна, няспынна, і я заўсёды так раблю. У мяне, можна сказаць, усё жыцьцё скрозь без чужога слова, і нічога – жывы. Увогуле, кожны маладафронтавец проста павінны быць цьвёрда беларускамоўным, прычым увесь час. Зараз гэта асабліва неабходна.

Павал, 21 год:

– Зайшлі мы зь сябрам у вакзальную залю чаканьня, сталі ля прылаўка буфэту і, як сьлед, па-беларуску, пачалі абмяркоўваць зьмесьціва вітрыны. Два міліцыянты, якія стаялі побач, ня вытрымалі такое дзёрзкасьці й цынізму і, па складах разабраўшы надпіс на значку, зьедліва запыталі, што гэта за такі фронт і чаму на вуліцах малавата маладых людзей з такой мовай і гэткай сымболікай. Я адказаў: «Малавата, але хопіць. Вось зараз нас двое на вас дваіх». Рэакцыя была імгненнай: «А ў мяне шаснаццаць патронаў!..»

Нічога, мы й без патронаў абыдземся. Мы здольныя й словам забіваць. Напавал.

Яўген, 22 гады:

– Другога сьнежня, каюся, ужыў багата дрэнных расейскіх словаў. Справа ў тым, што даводзілася размаўляць зь міліцыянтамі, а гэты «электарат» разумее толькі так. Лічу, што ня трэба пэцкаць нашае чыстае мовы ў стасунках з тымі, хто сьпярша мент, а потым ужо чалавек.

Алег, 27 гадоў:

– Я не зьяўляюся сябрам Маладога Фронту, БНФ ці ТБМ, але заўсёды ў курсе апазыцыйных справаў, чытаю незалежніцкія газэты. Яшчэ зь вечара 1-га я растлумачыў жонцы й цешчы, як сябе трэба паводзіць заўтра. І, хаця сам толькі час ад часу пераходжу на беларускую, Дзень без чужога слова, я лічу, вытрымаў. Нічога страшнага. Людзі, якія мяне ведаюць, трохі зьдзіўляліся – але варта было патлумачыць, што «Наша Ніва» аб'явіла такі Дзень, і ўсе пачыналі казаць: «Правільна, трэба хаця б раз на месяц...»

Мікола, 20 гадоў:

– Да гэтага дня я лічыў, што ведаю на сваім факультэце ўсіх беларускамоўных – іх было чалавек пяць-шэсьць. Але 2 сьнежня падыходжу да ганку – бац, стаіць купка першакурсьнікаў, і нейкі незнаёмы хлапчук так і шпарыць, так і шпарыць, а ўсе кругам сталі й слухаюць. Я ледзь не пасьлізнуўся, думаю, трэба з малым перагаварыць, падтрымаць хоць як... А потым разважыў – ну і што, беларуская мова... Нічога незвычайнага, працэс пайшоў. Толькі калі дамоў сыходзіў, да мяне дайшло – сёньня ж Дзень без чужога слова!

**Падрыхтаваў П.С.**

# Шклянка гарбаты

Ня здолеўшы вытрымаць свой моўны пост месячнай даўніны, бо знаходзіўся тады сярод сваіх літоўскіх сяброў, я наважыўся адкласьці яго да вяртаньня дадому.

І сваё ўзыходжаньне на борт вагона Беларускай Чыгункі, як на родны бераг, я вырашыў адзначыць ветлівым замаўленьнем шклянкі гарбаты. Мяне ня столькі зьбянтэжыла тое, што маладая правадніца мяне не зразумела, колькі яе рэакцыя на саму наяўнасьць беларускіх гукаў у роце маладога пана ў капелюшы. Парушыўшы пост, я паўтарыў сваю замову па-ангельску, але гэта яшчэ больш раззадорыла дзяўчыну. Нахабна і з усьмешкаю гледзячы ў мае вочы, яна пераможна сказала фразу, што пасьпела ўжо мне парадкам надакучыць за тыя гады, што я пражыў у сувэрэннай Беларусі. «Говорите нормально». Колькі разоў мне прыходзілася «заговаривать нормально», я ня памятаю. Пра ўсё, што зьвязана з уласным прыніжэньнем, стараесься хутчэй забыцца. «Ты еще транспорант разверни». Гэтым яна мяне завяла. Гарбаты ды яшчэ з цукрам захацелася мацней. Варыянтаў было няшмат. Альбо наладзіць экскурс у багацьці роднае мовы, альбо знайсьці перакладчыка. Я выбраў другое. Накіраваўшыся да начальніка цягніка.

Я знайшоў яго праз тры вагоны. Сярод эСВэшных выгодаў вальяжна аблёгся малады клясычны жыд. Масыўны, чарнавокі кабальера з бакенбардамі.

– Дзень добры, я журналіст зь Літвы, вельмі люблю вашую краіну, – пачаў я, падключыўшы «няруські» акцэнт ды выняўшы сваю акрэдытацыйную картку. Пульхная, лянівая рука запрапанавала прысесьці. «Вось, паспрачаўся зь сябрамі на энную суму, што ў вашай краіне буду размаўляць толькі па-беларуску і абыйдуся без праблем. Ды не пасьпеў сесьці ў цягнік, як пачаліся праблемы». Густое брыво начальніка цягніка зацікаўлена прыўзьнялося. Пасьля майго кароткага аповеду ён асабіста захацеў выступіць у ролі перакладчыка і ўзьняўся з канапы. Ідучы праз тры вагоны, ён, відаць, яшчэ больш прасякнуўся маёй моўнай праблематыкай.

Далей я толькі стаяў і насалоджваўся якасьцю перакладу, які гэты жыдоўскі чалавек наладзіў, як высьветлілася, для тыповай расейкі. І з экскурсам у закон аб мовах, і з камэнтарамі пра гонар Беларускай чыгункі, ды іншымі «вачыма зарубежных гасьцей». Паабяцаўшы ёй працягнуць урок пасля рэйсу, начальнік выпаліў вядомую кіношную фразу: «Гарбаты гэтаму чалавеку. Я сказаў, гарбаты». Цікава, што гэтая гарбата была адзінаю, хто прадстаўляў у канфлікце ўласна беларускі этнічны бок.

Быў не другі дзень месяца. Але патрапіўшы ў чалавечы вір менскага вакзалу, я слыхам абсалютна міжволі ўлаўліваў фразы, на якія хацелася абарочвацца. «Міхась, пачакай», – некаму крыкнуў хлопец з гітараю. «Ці няма «Беларускай делавой?» –запытаўся ў кіяскёркі прэзэнтабэльны чалавек у залатых акулярах. «Чуеш, я ўжо на вакзале!» – крычыць некаму дзяўчына ў тэлефонную слухаўку. Адно шкада, што ня мне.

Можа, сапраўды, ня я адзін адкрыў сакрэт, што ніякі гэта ня Дзень мовы, а дзень барацьбы з хамствам. Наколькі нечаканы паводле сцэнара, настолькі ж вясёлы паводле вынікаў. З хамствам, зь якім, як і з курэньнем, змагацца раз на месяц бескарысна. А самае галоўнае, не цікава.

**Зьміцер Бартосік**

найсьвяцейшыя імёны — Касьцюшку, Агінскага, Міцкевіча, Манюшку, Сянкевіча... Захоп вялікалітоўскіх земляў і хваля перасяленцаў на Ўсход выбухнулі неймаверным узьлётам расейскай літаратуры й музыкі 19-20 ст., а гэта, паміж іншага, адна з самых грандыёзных зьяваў у культуровай гісторыі чалавецтва. Беларусы для Расеі зьдзейсьнілі пераварот у сьветаўспрыманьні: Глінка (расейскі гімн!), Барадзін, Шастаковіч, Стравінскі... Грыбаедаў, Дастаеўскі, Бунін, Твардоўскі, Алеша, Грын, Еўтушэнка, Высоцкі. Прарокі, апосталы, як на падбор. Уявіце сабе, якая павінна быць духовая сіла, каб узьняць Польскую Карону да ***Польшчы***, Расейскую імпэрыю да ***Расеі***! І ўсё гэта хворая, нямоглая, абрабаваная Беларусь, так-так, тая самая, з каўтуном у валасох. Падумаць, дык яна зрабіла нашмат болей, чым здолела Вялікае Княства. Яна не падначальвала, не насаджала — яна прапаведвала й ачышчала. Яна сваім целам, сваёй крывёю пераўтварала самыя пачварныя дэспатыі. Увогуле, цяжка пазбавіцца думкі, што вышэйшая місія Беларусі — гэта прасьвета, ўратаваньне велізарнай грэшнай Расеі: вось так, праз сябе, праз сваю пакуту й боль. Старавойтава й Чубайс, Станкевіч і Маневіч, Кавалёў і Навадворская родам зь Беларусі — якія яшчэ імёны патрэбныя, каб гэта зразумець?

Аддалі Вільню. Тым лепш. Хоць захавалі ўласны Ерусалім.

Беларусь судзілі, рвалі на часткі й раскрыжоўвалі межамі. Нашым друкарам ламалі косьці на дыбе; нашы паэты на чужыне харкалі крывёй; нашыя лепшыя галовы лопаліся ад рэвальвэрнага стрэлу ў патыліцу. Пётар I рэзаў, Карл XII паліў, Мураўёў вешаў, Сувораў пароў штыхамі, а Напалеон навальваў груды гарматнага мяса; Сталін расстрэльваў, Гітлер труціў газамі. Білі наводмаш, прыпадкамі, шалеючы, па-садысцку ўпадаючы ў раж ад яе пакорлівасьці. А Беларусь усё падстаўляла твар, і скрозь сьлёзы ўсьміхалася ім. Яна малілася за іх вуснамі сваіх геніяў. Што яна дазваляла з сабой рабіць! — і любіла... Колькі кахалася тут расейцаў, немцаў, французаў, палякаў — многа, ох як многа. Здавалася б, гэтую краіну, яе назву, мову, дый саму памяць аб ёй выгвалцілі й растапталі насьмерць.

Таму неверагоднае ўваскрашэньне ў пачатку 20 ст. усіх проста агаломшыла. Той нацыянальны рух чысьцейшай вады, які ўзьнік надзіва ймкліва, чарговы раз прымушае нас паверыць у цуды.

І прыслухацца, як прароча, пачынаючы яшчэ з Багушэвіча, гучаць прозьвішчы. Багдановіч. Адамовічы. Данчык.

## 4. Беларусь — гэта сьвятое

Па ўсім былым Саюзе да беларускага й Беларусі пачуцьцё асаблівае, дзіўнае і шчымлівае. Знакаміты працаўнічок трактар, родныя «Песьняры», вайна пабыкаўску — гэта ***сьвятое***, вам скажа кожны савецкі чалавек. Вельмі характэрна ў расейцаў: ім так няёмка, што часам яны стараюцца заглушыць сваю віну перад беларусамі грубым, армейскага кшталту, пакрыкваньнем. Але нават горкая маскоўская інтэлігенцыя раз-пораз, пасьля трэцяе-чацьвертае чаркі, уроніць сьлязу за Беларусь, самую чыстую, самую славянскую, краіну крыніцаў з самай празрыстай у сьвеце мовай.

Гэта вельмі нагадвае мне адзін жыцьцёвы вобраз. Мой сябра, ціхенькі аднакурсьнік, са сьціжмай такіх жа бяскрыўдных, як першыя хрысьціяне, ***братоў***, прапаведваў Біблію ў мэтро й пераходах. Зь яго бязьлітасна кпілі, грэбавалі амаль усе — і трэба было бачыць прыніжэньне гэтых людзей, калі ён шчыра й пакорліва дапамагаў ім у бядзе! Ува ўсіх справах, якія патрабавалі справядлівасьці й сумленьня, аўтарытэтам заўсёды аказваўся ён, самы траваядны, пастаянна крыўджаны.

Штосьці найвышняе ёсьць у гэтай пяшчотнай беларускай цярплівасьці, у гэтай вечна вінаватай усьмешцы. Пасьля усіх зьдзекаў, катастрофаў і кашмарнага генацыду гэта ўражвае, аж да дрыжыкаў. Гэта ня проста забітасьць, і не ***забытасьць***. Гэта нашмат глыбей. Беларус, братка. ***Братні*** народ. Не такія ўжо пустыя словы, як здаецца — ці ня праўда?

«На Беларусі Бог жыве», — сказаў Караткевіч, вялікі прарок. Ягоныя вершы й проза гучаць так узвышана й на першы пагляд крыху наіўна, але ў караткевіцкай простай мудрасьці прадоньне сэнсу. І нават болей: у ім вера. Бель Белай Русі змушае ўспомніць анёлавы крылы.

Гэта праўда: усе канфэсіі, якія прыходзілі ў Беларусь, раптоўна гублялі свой агрэсіўны зарад, і запавольваліся, і нямелі перад гэтай сапраўднай незямной сілай. Для фармальнае рэлігіі ўраз губляліся ўсе арыентыры, і непарушныя догмы дымам распушчаліся ў паветры. Гэта тут юдэі мірна суседзілі з мусульманамі, тут сьсякла магутная плынь кальвінізму, тут загрузла падбрушша праваслаўя, і энэргічныя айцы-езуіты няўцямна блукалі ля тлеючых паганскіх вогнішчаў, спрабуючы ўразумець, у чым жа рэч.

Ня сьмейце казаць, што ў гэтага Народу няма за ду-

*Працяг на старонцы 6*

# ТАМ, ДЗЕ ЦЁМНА Й ХАЛОДНА

У дні, калі сьвет рыхтаваўся адзначыць 50-я ўгодкі Ўсеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека, у Менску адбыўся першы Міжнародны фэстываль праваабарончага кіно, арганізаваны беларускай кінавідэастудыяй «Тацяна» супольна з прадстаўніцтвам ААН у Беларусі, Культурным інстытутам Каралеўства Швэцыя й маскоўскім кінафэстывалем «Сталкер». Нягледзячы на тое, што ў апошні момант дырэкцыя кінатэатраў «Піонер» і «Победа», даведаўшыся пра заяву намесьніка галавы адміністрацыі прэзыдэнта – фэстываль, маўляў, ня плянавае мерапрыемства Мінкультуры, – адмовіла арганізатарам у залях, месцаў у Палацы прафсаюзаў хапіла ўсім ахвотным.

Сапраўды, што ні робіцца – усё да лепшага: прынамсі, ня трэба было бегаць па горадзе, каб паглядзець усю праграму. Праўда, студыі «Тацяна» было няпроста, але, да гонару арганізатараў, яны знайшлі выйсьце, працягнуўшы паказ на два дні. Дзьве кінастужкі, насуперак чаканьням, ня трапілі ў праграму фэстывалю. Гэта фільм Юрыя Хашчавацкага «Звычайны прэзыдэнт», уганараваны прэміяй Міру прэстыжнага Бэрлінскага кінафэстывалю, і фільм Віктара Дашука «Час доўгіх нажоў». Кампраміс з боку арганізатараў дапамог ім без правесьці фэстываль, хоць у ахвяру й былі прынесеныя інтарэсы сваіх жа калегаў-кінематаграфістаў. Ніякіх дывідэндаў не дало фэстывалю і ўключэньне ў праграму фільмаў дырэктра кінастудыі «Беларусьфільм» Лук'янчыкава. Верагодна, з апасеньньняў траціць у апалу з-за тэматыкі фэстывалю, якая не задаволіла адміністрацыю прэзыдэнта, малады чыноўнік у апошні момант запатрабаваў зьняць свае фільмы з праграмы.

Што праўда, адсутнасьці менавіта гэтых фільмаў гледачы й не заўважылі. Іх больш зьдзівіла адсутнасьць «Звычайнага прэзыдэнта», якога ягоны стваральнік прадстаўляў незадоўга перад тым публіцы далёкага Бостану.

Дарэчы будзе сказаць пра жанры. На гэтым фэстывалі, у адрозьненьне ад «Лістапада», усё адпавядала «жанру». Фэстываль атрымаўся такі, якім мусіў быць у гэты час у гэтай краіне. Заля Палаца прафсаюзаў не ацяплялася. Госьці на сцэне, сярод якіх былі «зоркі» расейскага кіно, вядомыя пісьменьнікі й кінематаграфісты, выступалі ў сьціплых строях, ды й тое –толькі на адкрыцьці, астатнія хуталіся ў паліто й шалікі, сядзелі ў шапках, укрыўшы калені пуховымі хусткамі, без чаго немагчыма было вытрываць тры с паловай гадзіны у час прагляду апошняга фільма Марлена Хуціева «Бясконцасць», у якім расейскі рэжысэр, як і ягоны калега з Польшчы Кшыштаф Занусі ў фільме «Галоп», разьвітваўся зь першым стагодзьдзем кіно. У часе каротких перапынкаў кінааматары дзяліліся ўражаньнямі, а некаторыя бавіліся гарбатай альбо кавай з тэрмасаў. Менскія бамжы, якія даведаліся пра бясплатныя кінасэансы, з асалодай грэліся: усё-ткі ў залe плюс дзесяць, а на вуліцы – мінус дваццаць. Але ж і яны гаварылі больш не пра маразы, што сталі рэдкасьцю ў нашых шыротах, але пра кіно. Заўсёднікі – людзі саліднага ўзросту са знаёмымі, здаецца, зь дзяцінства, менскімі тварамі.

На імгненьне твары гледачоў у залі, твары ў фільме «Сустрэчны зыск» Аркадзя Рудэрмана і Юрыя Хашчавацкага, твары з кронікі, выкарыстанай беларускім кінадакумэнталістам Міхаілам Ждануўскім у фільме «Дарога на Курапаты», зьліліся ў адзін сукупны вобраз. Гэта вобраз чалавека, які ў 1988-м, у свае пяцьдзясят пачуў словы «вандэя», а праз дзесяць гадоў, седзячы ў халоднай залі ў цэнтры Менску, з жахам усьвядоміў, наколькі меў рацыю Алесь Адамовіч. Вандэя пачыналася адразу за сьценамі Палацу культуры, на Акцябрскай плошчы, пераможна залітай радаснай ілюмінацыяй.

Здаецца, арганізатары фэстывалю з Масквы гэтага так і не ўсьвядомілі. Яны былі заклапочаныя непрэстыжным узроўнем менскага фэстывалю і нават забыліся пацікавіцца фільмамі сваіх беларускіх калегаў – ніводзін з гасьцей на праглядах гэтых фільмаў заўважаны ня быў. Напэўна, гэтым можна патлумачыць той факт, што ў праграму кінафэстывалю «Сталкер», які ндаўна адбыўся ў Маскве, ня трапілі новыя фільмы беларускіх кінематаграфістаў Міхаіла Ждануўскага «Дарога на Курапаты» і Ўладзімера Коласа «Дамова з Гітлерам».

Згадваецца ўлюбёнае пытаньне высокалобых расейскіх інтэлектуалаў, якое яны звыклі задаваць ямчэ з савецкіх часоў, прыяжджаючы ў якую-небудзь «нацыянальную ўскраіну»: «Ну, за што вы нас так ня любіце?» Сапраўды – за што?

**Алена Лукашэвіч**

# Зямля Сэрца

*Той, хто ня верыць, ніколі не пакіне спробаў зьбіць цябе са шляху тваёй веры.*

(з Карану)

... Менскі вакзал заўжды трохі цісьне на правінцыяла. Хоць насамрэч чагосьці звышсталічнага ў ім няма. Хутчэй наадварот, ён уражвае правінцыйнасьцяй больш высокай ступені. Ствараецца ўражаньне, што вось-вось адбяжыць цягнік ад пэрону і адразу з галавой кунецца ўаднастайнасьць палёў.

Палі, палі... Я вяртаюся дамоў. Я вяртаюся ў Хартлянд.

Далібог, па чыгунцы ў Беларусі неяк зручней ехаць, калі на двары непагадзь. Напэўна таму, што непагадзь настолькі зжылася з намі, настолькі прасякнула ўвесь наш побыт, што застаўся ці не адзіны шанец ад яе схавацца – за вокнамі цягніка. Праз некалькі пяць-шэсьць галзінаў я буду ўдома. Гэта ня можа не натхняць.

Згадваю, як на адной даволі «маштабнай» прыватцы сябра, які, бывшы на добрым падпітку заляцаўся да маладзенькае польскае настаўніцы, запрасіў яе патанчыць пад The Cranberries, фацэтна прамуркатаўшы «бялорусіні а ірляндчыцы — то едэн наруд». Параўнаньне нас з кельтамі апошнім часам сталася нечым звыклым, але насамрэч актуальным яно робіцца, калі едзеш у цёплым утульным цягніку на паснулых абшарах, што абапал дарогі Менск — Хартлянд.

Хартлянд. Некалькі дзясяткаў мястэчак, вёсак і хутароў, што на поўначы Ўэльсу. Зьвесткі пра яго даволі цьмяныя, няпэўныя. Тым ня менш, як той казаў, ён існуе, і з гэтым трэба лічыцца. Як і багата што ў кельтаў, гэтыя зьвесткі больш удаюць на легенды. Легенды канца другога тысячагодзьдзя, легенды ў скрутках Інтэрнэту, легенды ў кніжках ды касэтах, якія невядома хто пазычыў у невядома каго, які прывез іх невядома адкуль ды даў на пару дзён пакарыстацца. Легенды аб хлопцах-вырвусах, якія за адну ноч пераклейваюць усе шыльды ў сваім ляжалю з каляніяльнае мовы на родную, аб сучасным Кубку Грааля з надпісам «Уэльс — тэрыторыя бяз Торы», выпушчаным з нагоды таго, што ніводзін каляніяліст-кансэрватар ня трапіў у Палату Супольнасьцяў ад Уэльсу, аб тым, як фірмы й газэты пераносяць свае канторы з шыкоўных раёнаў партовых гарадоў у хартляндзкія фэрмы й напаўразбураныя замкі. Таньней? Проста сэрца цягне ў Хартлянд. Гэта не хаджэньне ў народ, а нашмат больш натуральны працэс — вяртаньне туды, дзе ўсё так, як трэба, дзе ўсё знаёмае й нішто кепскае з табою ня можа здарыцца — вяртаньне дахаты. Не вяртаньне ў глябальным сэнсе, да каранёў, а падобнае майму сёньняшняму — з працы, са шпацыру, з вандроўкі. Меней клічнікаў, болей косак — будзе натуральней, і «людзі да цябе пацягнуцца».



Людзі ў Хартляндзе, як і ўсюды, вельмі розныя й часьцяком не згараюць ад узаемнага каханьня. Яны могуць абразіць, але гэта — абраза ад сваіх. У Хартляндзе бываюць канфлікты, але ніколі ня будзе вайны. Хартлянд насяляе супольнасьць, якую трэба ўспрымаць, як яна ёсьць.

... Хвалі-складкі зямной паверхні, якія дамінуюць цягам першай паловы майго зваротнага шляху, паволі згладжваюцца. Гэта відаць нават у цемры. Цягнік нібы вэртыкальна буравіць пляскатую, даўней багністую раўніну, спрабуючы дастаца да яе тарфяных нетраў. Пачынаецца Хартлянд.

Хартляндзкія станцыі ды прыпынкі маюць адну дзіўную ўласьцівасьць — на кожным зь іх хочацца сысьці. Пры гэтым нічога спэцыяльнага ў іх няма, апроч уражаньня, што на якім ні сыйдзі — апынесься ўдома. Ёсьць два тлумачэньні гэтаму фэномэну. Па-першае, тут усё знаёмае, бачанае-перабачанае, па-другое, гэта Хартлянд і гэтым усё сказана...

Валійцы — прыхільнікі эўраінтэграцыі. Ня тое каб ім была ўласьцівая «эўрапейскасьць». Кансэрватыўная частка Эўропы часьцяком касавура пагладае на іх, як на людзей, якія падхапілі небясьпечную бацылу сэпаратызму. Не, яны ўдаюць хутчэй на мястэчковых прагматыкаў, якія зь левай адозвы пра Эўропу рэгіёнаў хочуць атрымаць максымум карысьці для сябе. Для сябе й Хартлянду. Яны таксама зьведалі таўро «калхозна-быдлячага народу» й «хамскай мовы». Сытае, мястэчковае, у найлепшым сэнсе мяшчанскае, жыцьцё будзе сьвяраткаю супраць гэтых дробных непрыемнасьцяў. Яны даўна ўжо ведаюць, што іхны Хартлянд не абстракцыя, а рэалія бліжэйшае будучыні, пра што красамоўна сьведчыць магутны эўрапейскі «кэш-флоў». Брытанія за кансэрватыўную эпоху не схацела ашчасьлівіць валійскіх тарнякоў ды сялян, дык Хартлянд зробіць гэта сам з дапамогаю Эўропы. Пры гэтым зусім не абавязкова адасабляцца ад той жа Брытаніі — жыхары Хартлянду ня любяць рабіць лішніх крокаў.

... Перасадка па нядоўгім чаканьні, гадзіна дарогі, і я нарэшце дабраўся. Тут нават паветра інакшае, ня тое што лепшае, а проста я да яго прызвычаіўся. На кожным зь векавых азызлых муроў можна бачыць бігборд з рэклямаю Хартлянду, ладу жыцьця Хартлянду, прадукцыі прадпрыемстваў Хартлянду. Рэклама майго дому.

Я ведаю багата людзей у гэтай краіне, якія таксама маюць свае Хартлянды. У кожнага ён свой і, бадай што, непаўторны. І калі мы хочам зьмяніць нашую Радзіму, дык мусім пачаць кожны са свайго. Хартлянд дае нам непаўторны шанец, дык і мы павінны папрацаваць для яго, каб шанец існаваў і надалей. З чаго пачынаецца Радзіма? Зь Зямлі майго Сэрца.

**Сяргей Пелеса**

P.S. Хартлянд (Heartland) — Зямля Сэрца, тэрыторыя на поўначы Ўэльсу, дзе засталася аўтэнтычная валійская мова і культура.

## НАВІНКІ

**Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва»**

прапануе новыя кнігі:




**Сяргей Ёрш. Вяртаньне БНП: Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі.** – Менск-Слонім, 1998 (Архіў Найноўшае Гісторыі)

Кніга прысьвечаная гісторыі БНП, якая ў 40-х – пачатку 50-х вяла збройную барацьбу супраць савецкага рэжыму. Гэта першае ў Беларусі манаграфічнае дасьледаваньне на дадзеную тэму.

Кошт кнігі – 184.000 руб., паштовая перасылка – 16.000 руб.




**Аляксей Каўка. Будам жыць! Пра тое самае.** – Менск-Масква, 1998 (Архіў Найноўшае Гісторыі)

Аляксей Каўка – беларускі літаратуразнаўца з Масквы, аўтар легендарнага «Письма к русскому другу». Кніга абʼядноўвае тэксты розных пэрыядаў, але іх лучыць адна тэма – беларускае самапазнаньне.

Кошт кнігі – 170.000 руб., паштовая перасылка – 16.000 руб.




**Уладзімер Скрабатун. Глыбокае на старых паштоўках.** – Менск-Глыбокае, 1998

Упершыню пад адной вокладкай сабраныя ўсе вядомыя выявы старажытнага Глыбокага. Паштоўкі выяўленыя ў зборах у самім Глыбокім, у Менску, Рызе, Варшаве.

Кошт кнігі – 250.000 руб., паштовая перасылка – 20.000 руб.

Каб атрымаць кнігу, трэба пазначаную суму плюс грошы за паштовую перасылку пералічыць на рахунак: ***БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поиск» Менск, код 987***

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» ўказаць назву кнігі, Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

Зьвяртацца можна праз пошту: ***а/с 71 Мінск 220123.***

# КІТАЙСКІ ЦМОК

Колькі разоў даваў сабе зарок не купляць нічога кітайскага. Купіў сыну гарнітур у першую клясу – на другі дзень абнова распаўзлася па швох. Купіў чаравікі – і тыдзень не пранасіў. Купіў тушонку – выкінуў, есьці немагчыма. Купіў цацку сыну – зламілася па дарозе з крамы. І вось зараз гэтая кітайская гарбата... А што зробіш, калі самае таннае, на дарагэйшае бракуе грошай.

Неяк задумаўся, чаму робіць гэтак пагана, ды яшчэ экспартуюць у цэлы сьвет? Прадукт сацыялістычнай, што значыць, прымусовай, неэфэктыўнай працы? Але скрозь кажуць пра кітайскі эканамічны прарыў, новую азіяцкую эканамічную палітыку, своеасаблівы кітайскі нэп. Можа, шараговыя кітайцы звыкліся рабіць абы з рук? Але як тады зразумець кітайскі парадак, кармчага Мао Цзэдуна і плошчу Цяньаньмэнь? Ці яны такія хітруны: усё лепшае сабе, а астатняму сьвету – рознае фігню? Цяжка паверыць. Ці такая ў іх культура – аднаразовая: апрануў – выкінуў, апрануў – выкінуў? Таксама ня дам рады, бо на процьму кітайцаў не набярэсься рэсурсаў. Навошта пераводзіць сыравіну? Карацей, адныя загадкі.

Як толькі ў Беларусі робіцца кепска, адразу да нашых межаў набліжаецца Кітай. Бышцам нешта велізарнае – хмара? ледавік? і агіднае, як смак іхнае тушонкі. Цьвеліць сваімі таннымі таварамі, кліча некуды... Ды даўно вядома куды. У свае абдымкі, у Азію. Каб насіць кітайскія драныя гарнітуры, гідзячыся, есьці нешта брыдкае, непадобнае да беларускага сала й цыбулі, і штохвіліны памятаць пра наступствы Цяньаньмэня.

Колькі разоў даваў сабе зарок не купляць нічога кітайскага. Ды вось зноў сяджу на халоднай кухні, п'ю нялюбую кітайскую гарбату і разважаю пра жыцьцё. Нават пасьміхаюся – ці задаволена, ці блазнавата – не зразумець, бо нехта ня мае й таго.

Тут час разважаць, ці ёсьць я ўвогуле. Можа мае рацыю спадар Акудовіч: «Мяне няма»? Вось няма і ўсё. Ёсьць толькі пах цыбулі, перамяшаны з пахам поту й ванітаў у пад'езьдзе. Ні маіх словаў, ні выніку справы. Нічога няма. І ў гэтую пустэчу, дзірку павольна запаўзае кітайскі цмок, як у дупло або пячору. Ён не ведае словаў «няўтульна», «мулка», «халодна», «сьлізка», «агідна», «брыдка», «нязручна». Ён паўсюль як дома. Толькі пасунься, вызвалі месца, схадзі ў тамбур перакурыць, як ён тут як тут. Ён не будзе гідзіцца тваіго сала з цыбуляй. Ён зжарэ нават тую крупу-сечку, якая захоўваецца ў цябе дзявяты год, яшчэ з часоў першых гадоў перабудовы, ляжыць на ўсяляк выпадак, але ты не ўяўляеш, як яе есьці.

Здаецца, усім даўно да лямпачкі: ці ёсьць я, ці няма. Ведома, акрамя самых блізкіх, самых родных. Для ўсіх астатніх... А пра каго клапоціцца ты?

Але не. Я ёсьць. ЁСЬЦЬ. Учора пайшоў у краму набыць цукру і масла. Кажуць, даюць па пашпартох. Узяў сваю чырвонаколерную ячэя сэсэсэраўскіх часоў кніжыцу і пасунуў па дэфіцытныя прадукты. Аказваецца, ёсьць я на гэтым сьвеце. Знайшлі мяне ў сьпісах. Гандлярка знайшла. Пагартала, пагартала такі вялізны агульны сшытак і знайшла. Далібог, і прозьвішча маё, і імя, і нумар дому з нумарам кватэры. Усё супадае.

Вось і сяджу зараз на кухні, п'ю гарбату, ем батон з маслам і чакаю цмока.

**Алесь Аркуш**

### Аляксей Бруй

# ДАРОГА Ў РАЙ

Месяцовае сьвятло паказвала дарогу. Хто хацеў (а хацелі ўсе), дык, кіруючыся на месяц, ішлі ў напрамку рая. Гэта была доўгая дарога, і людзі не спыняліся для таго, каб паесьці. Яны проста зрывалі на хадзе каласкі, якія расьлі на палях уздоўж іхнага шляху і, пацёршы ў далонях, елі зярняты.

Людзі йшлі ланцужком, пачатку й канца якога не было відаць. Але здаралася, што ланцужок гэты перарываўся, калі які-небудзь чалавек адыходзіў убок і пытаўся: «Хто мы? Куды мы ідзем? Што мы знойдзем там?» Але астатнія, ужо амаль машынальна, закрывалі вушы і йшлі далей. Яны – старыя й дзеці, мужчыны, жанчыны розных узростаў – упарта йшлі наперад. Калі ж ім надакучвала слухаць тое, што крычаў гэты адзін, яны закідвалі яго камянямі. І кідалі да таго часу, пакуль той ня падаў мёртвы. Шакалы, якія ўвесь час былі побач, давяршалі гэтую крывавую справу. А людзі ішлі далей.

Але зноў і зноў знаходзіўся нехта, хто адыходзіў убок і крычаў: «Стойце, людзі! Куды вы йдзеце?!» Гэтыя «крыкуны» заўсёды былі маладымі. Бо дзеці нічога не разумелі і йшлі за дарослымі. А дарослыя стаміліся ад усяго... Стаміліся нават думаць.

Яны доўга, з пакаленьня ў пакаленьне, жылі ў лясах, ворагі прыходзілі й білі іх, і яны не маглі абараніцца. Яны толькі цярпелі. Яны жылі, з пакаленьня ў пакаленьне прымнажаючы стомленасьць. Пакуль не прыйшоў Выратавальнік. Ён прыйшоў і сказаў – я знаю дарогу ў рай. Рай знаходзіцца там – за гэтымі гарамі. Ідзіце за мной, тут больш нельга заставацца...

І ўсе пайшлі за ім.

І вось цяпер, калі яны так блізка былі да выратаваньня, хтосьці хацеў іх спыніць. Не! Не атрымаецца. Мы так доўга чакалі.

Чым далей яны йшлі, чым больш згасалі іхныя вочы, тым больш упарта яны йшлі наперад.

І вось першыя з гэтага людзкога ланцужку дайшлі да мэты. Перад імі была бездань, дна якой яны ня бачылі, настолькі яна была глыбокая. І той – першы, адзіны з усіх, у каго сьвяціліся вочы, сказаў: «Гэта тут. Вось ён – рай. Вось дзе наша радзіма». Ён зрабіў крок наперад і зьнік у бездані. А за ім пайшлі астатнія. Яны ішлі і йшлі, і не знайшлося больш нікога, хто б спыніўся.

Моўчкі яны ляцелі ў цемру, у бездань, каб там, на самым дне, знайсьці сваё шчасьце.

### Ганна

# АКНО

Акно. Там велізарны сьвет грукату, агнёў, бясформавых твараў. Там вар'яцтва рэчаў і людзей. Але гэта ўсё там. А тут ты ў сваім сьвеце, ты сам па сабе, у цябе ёсьць свой уласны твар. Ты бачыш канвульсіі Сьвету за шыбай, ды празрысты мур аддзяляе цябе ад Яго, абараняе ад Ягонай агрэсіўнасьці. Але гэта ня можа цягнуцца вечнасьць. Ён ня хоча пакідаць цябе, а таму йрвецца праз шыбу, імкнецца дацягнуцца да цябе. Аднойчы твой мур ня вытрывае, і ты паспрабуеш зьбегчы, зрабіўшы крок у пустэчу, але Ён неўмольна сустрэне цябе асфальтам.

# ТРЫАДЗІНЫ

Сустрэліся тры чалавекі ў гарачай спрэчцы. Першы ўвесь час азіраўся па баках і гучным шэптам казаў пра тое, што жыцьцё ў краіне, дзе няма свабоды – немагчымае. Што ў хуткім часе тут усеператворацца ў нямых служкаў без усялякіх прыкметаў на ўласныя жаданьні. Дый адзіны шлях – бегчы, бегчы адсюль як мага хутчэй, каб захаваць нацыю ды адраджаць яе дзе-небудзь побач. А потым, калі набярэмся моцы – скінуць прыгнёт і квітнець усім на зайздрасьць. Ён запэўніваў, што іншыя шляхі нічога не дадуць.

Другі пярэчыў яму. Ён казаў гучным голасам, заклікаючы усіх узяць зброю ў рукі. А калі няма зброі, то хаця камяні ды яшчэ што, і як мага хутчэй крочыць на ўсеагульную бойку. Усялякія словы ня маюць плёну, толькі рашучыя дзеяньні могуць зьмяніць становішча. Ворагаў трэба зьнішчаць. І тут ня можа быць аніякіх пытаньняў.

Трэці казаў аб нейкіх разумных рашэньнях, аб бессэнсоўнасьці ўцёкаў ці разбурэньняў, бо яны не ствараюць анічога новага. Прапанаваў працаваць, ствараць, выхоўваць...

Ён сядзеў, абхапіўшы рукамі галаву й крыва ўсьміхаючыся праз галаўны боль. Колькі разоў Ён спрабаваў нешта рашыць, Ён аддаў на гэта ўсе сілы сваёй душы, але кожны раз чуў тое самае. Гэта ягоны крыж, ягоны лёс – Трыадзінасьць.

Галасы патроху цішэлі, і ўпершыню прыйшла яснасьць. Адказ, з-за якога было столькі перажыта, быў проста перад ім. І, зьбіраючы апошнія сілы, Ён устаў і цяжка пакрочыў да дзьвярэй.

### Ігар Гатальскі

# ВЕЧНАСЬЦЬ

У ціхую ясную поўнач выйдзі на старую закінутую пустку за месцам і паглядзі ўгару на зьбежышча зор, якія тысячагодзьдзі таму паслалі сваё сьвятло ў прастору. Гэтае рознакаляровае мільгаценьне мірыядаў сьвяцілаў, што здаюцца нам парушынкамі, урынае цябе ў безупынны кругазварот бясконца рухомай, зьменлівай, пераўтваральнай вечнасьці. Вечнасьць... Як ахапіць цябе, вымераць, зразумець? Розум ірвецца туды, увышыню, але, падуладны нейкай сьляпой стыхіі, супыняецца на нейкай вышыні, а потым вяртаецца да цябе, напоўнены шчымлівай трывогай. Табе здаецца: вось яна, вечнасьць, і я – у ёй. Ты адчуваеш, як нябачнымі токамі зямля ўлівае ў цябе сваё цяпло, цяпло тых, хто калісь жыў на ёй, ствараў прыгажосьць і радасьць. Уважліва прыслухайся – і зямля адчыніць табе таямніцы, самыя схаваныя й загадкавыя. І ты зразумееш, чым ёсьць гэтая сіняя вечнасьць перад табою і кім ёсьць ты. Зьнеспадзеўная радасьць быцьця ахопіць цябе і панясе разам з сабою ў гэтыя бясконцыя абшары, у гэтую бясконцую вечнасьць.

### Шамяк Івакін

# ВОРАГ

Нават ня ведаю, чаго я туды папёрся. Чыстая блазнота. Сядзеў там, псаваў людзям настрой. Яны былі ўсе гэткія сур'ёзныя, а я адрываў іх ад працы сваімі сьмешкамі. Хлопцы глядзелі на мяне пагрозьліва, дзяўчаты пазіралі зьдзіўлена й расчаравана –гэтаксама, як і я на іх, дарэчы.

Так, я быў расчараваны. Калі йшоў на паседжаньне гэтай вельмі вядомай зараз дзяржаўнай маладзёвай арганізацыі, дык сваёй мэтай ставіў чыста практычную – прыгледзецца да дзяўчатаў. Можаце лічыць мяне вычварэнцам, але мяне надта ж узбуджала думка зацягнуць у ложак свайго «клясавага ворага». Вось бы дзе я адвёў душу! Такога б жару задаў!

Але я адразу зразумеў, што спалучыць прыемнае з карысным мне не давядзецца: гэткіх дзевак і сапраўды магчыма было адкахаць толькі як клясавых ворагаў – ня болей. Але ў мяне грамадзкае заўсёды было вышэй за асабістае, і я вырашыў адкінуць усялякую эстэтыку ды спалучыць палітыку з простай фізіялёгіяй...

Як вопытны паляўнічы, я пачаў выбіраць ахвяру, што мусіла легчы на алтар палітычнае барацьбы, якая мелася разьвярнуцца ў ложку. Між іншым, я ўбачыў і некалькі знаёмых твараў.

Вось, напрыклад, Ірка. Ну, не – гэта ня мой стыль. Яна, канечне, дзеўка ладная, але зь ёй ужо пераспала амаль усё мужчынскае насельніцтва гораду й наваколься. Гэткі «вораг» і сам можа перамагчы: падорыць якіясь пранцы – вось і ўся палітыка.

Сьветка не падыходзіла таксама, і зноў з прычынаў зусім не палітычных. Дарэчы, як і яе сяброўка Алена. Толькі ў першай быў хлапец, які цягаў штангі ды іншае жалезьзе (хаця я й ведаў, што ў гэткіх дзецюкоў часта замест кахальніка –пытальнік, атрымаць лішнюю дзірку ў галаве ня вельмі хацелася), другая ж – была цалкам вольная. І, здаецца, была б ня супраць азнаёміцца з маімі аргумэнтамі. Прызнацца, я быў бы й ня супраць пацiскаць гэтую пульхную дзеўку з проста неабдымнымі грудзямі, але ведаў, што на наступны ж дзень пра гэта будуць ведаць усе. Мая сьціпласьць не дазваляла пайсьці на гэты крок. Да таго ж каньспірацыя й гэтак далей...

У той дзень я так і сышоў, адклаўшы свой незвычайны сэксуальны экспэрымэнт на пасьля. Нечакана, гэтае «пасьля» надышло ўжо праз некалькі дзён.

Я стаяў зь некалькімі са сваіх сяброў, калі да нас падышла адна іхная знаёмая й сказала, што тая самая арганізацыя прапануе ўсім бясплатную падпіску на мясцовую газэцінку. Мы, вядома, адмовіліся (тая газэта друкавалася на занадта жорсткай паперы), але, як толькі дзяўчына адышла, я запытаў у сяброў пра яе й даведаўся, што яна зьяўляецца восьмым намесьнікам пятага сакратара ў маіх «клясавых ворагаў». Гэта было якраз тым, што патрэбна...

Усё было ня вельмі складана – нашмат прасьцей, чым я думаў. Я дагнаў яе, выказаў сваю «шчырую зацікаўленасьць прапановай», завязаў размову, якая перацякла ў знаёмства, і ўжо прыблізна праз пяць хвілінаў заключыў з самім сабой пары, што «раскручу» яе за тыдзень. І выйграў гэтае пары праз пяць дзён...

Я засыпаў яе пытаньнямі й кампліментамі, прапанаваў прайсьціся, назаўтра зноў міла пагутарыў, потым ішоў «на чай», набыўшы вялізны торт (палітычная барацьба вымагае вялікіх фінансавых выдаткаў), потым запрасіў на дыскатэку, пасьля якой упершыню пакаштаваў яе мякенькіх вуснаў... Урэшце, мы апынуліся ў маёй кватэры, дзе я й ажыцьцявіў свой дзёрзкі плян...

Нельга сказаць, што Наташа была прыгажуняй. Праўда, і пачварынай яе назваць у мяне язык не павернецца. Яна была маленькага расточку (і відавочна з-за гэтага камплексавала), з даўгаватымі валасамі, пафарбаванымі ў нейкі незразумела-руды колер. Амаль заўсёды насіла джынсы, якія закрывалі памылку матулі-прыроды, што крыху перамудрагеліла зь яе нагамі, і падкрэсьлівалі спакусьлівую пульхнасьць яе клубоў...

Спачатку была «абавязковая праграма» – пацалуначкі-абдымачкі. Калі я пачаў песьціць языком яе далікатную шыйку й лоўка расшпільваць гузікі на блузцы, птушачка зразумела, што трапіла ў пастку. Спачатку яна спрабавала адбіць мае атакі, але хутка зразумела, што я быў настроены вельмі рашуча, і палічыла за лепшае здацца на ласку пераможцы. Тут я й зьдзейсьніў сваю заплянаваную палітычную акцыю...

Гэта было поўнай перамогай. Вораг стаяў на каленях і стагнаў пад напорам маёй моцы – ва ўсіх сэнсах. Але літасьці не было: я няўмольна працягваў сваю «чорную справу» і давёў яе да «пераможнага канца»...

Бойцеся мяне, мае клясавыя ворагі!

### Алесь Станкевіч-Троцкі

# SUICIDE

Сяджу на нейкай канструкцыі накшталт зэдліка, драўлянай і бруднай ад мільёнаў дотыкаў тлустых пальцаў. Сяджу й неяк адчуваю сябе ніякавата. Думак няма – галава пустая, як гляк, паліты Мірскай зялёнай глязурай. У гэтым дні было нешта ня так, як заўсёды. Неўзабаве нешта прыцягнула маю ўвагу, я зірнуў уніз. Уніз на сваю нагу. Вялікі палец левай нагі імпульсіўна круціўся, нібы звар'яцелы, ён круціўся сам па сабе – без маёй дапамогі.

Неверагодна, але я не зьдзівіўся, такія незвычайныя рэчы – ня рэдкасьць у нашыя часы. Я адчуў, што ён мне не належыць, як тая дзяўчына, што жыве насупраць. Ён быў жывы, гэта была другая істота. Палец жадаў самастойнасьці, жадаў адарвацца ад мяне, як хвост ад яшчаркі. Але мне непатрэбна было яго траціць, бяз гэтага пальца было б сумна. Але імгненна ўсё скончылася, як быццам бы й не пачыналася. Гэта была благая прыкмета. Пра гэта я чытаў у «Кнізе мёртвых» альбо ў Кнізе абарыгенаў Новага Сьвету, кнізе Мая «Чылам балам» і нават «Папаль Вух». Я зазірнуў у падкуткі вакна, але нічога ня ўбачыў. Там не было ні будынкаў і дрэваў, ні людзей і расьлін. Пустэча. Там была яна. Пустэча гэтага вакна вабіла да сябе. Гэта бясконцая прастора, мора-акіян, прастора акна была дзіўнай і чароўнай, як выхад у адкрыты космас. Гэты неахопны паранармальны сьвет быў чорным, але неўзабаве станавіўся шэра-бура-малінавым, і нават бірузова-пурпуровым; нешта навокал зіхацела, сыпаліся іскры, не палохаючы вока.

Мяне цягнула туды, я непрымусова ў таямніцы сваёй душы жадаў стаць жыхаром, але ня ведаў, як. Я хацеў дакрануцца да яго. Адчыніўшы вакно, я адчуў гэты пах, пах Невядомага, Таемнага. Нешта ёкнула ў грудзях. Сэрца з фазамі экстрасысталаў шалёна закалацілася. Я адчуў нешта! Нутро ныла ад доўгачаканай, наліваючай кроў адрэналінам, жахлівасьці. Я зрабіў крок, я... Там, у гэтым эфіры, унутры гэтага. На імгненьне я адчуў сябе ў выраі, дзе ніхто ня быў. Але ўсё зьнікла, унізе сіні асфальт дарогі, людзі і ўсё наваколье. Я адчуў сябе падманутым, як бабулька, якой паабяцалі добрую пэнсію. Я ляцеў уніз, я ня чуў сьвісту ветру, я не адчуваў сябе ў сваім целе. Я быў не ў сваім маленькім цельцы; я бачыў сябе збоку, назіраў. Цела круцілася ў небе, нібы ў танцы; мне было ўсё роўна, я ж ня быў у ім. Я назіраў зьверху, як маё цела звалілася на зямлю. Вакол стаяў натоўп абывацеляў. Жанчыны жахліва глядзелі на тое, што яшчэ хвіліну таму было жывым арганізмам. А я быў у вышыні. Я зразумеў, што я – душа, бясформавая сьветлая пляма. Час ня граў ніякай ролі ў жыцьці, у існаваньні душы. Час быў адначасова і імгненьнем, і даўжынёй.

... Нешта ламіла ў грудзях, ад болю ныла нага (мабыць, зламалася малабярцовая костка), стукала ў галаве. Вяртацца ў гэтую груду касьцей і мяса было цяжка. Адчуваньне такое, што я ня быў у ёй усе свае васямнаццаць гадоў. Увесь перабінтаваны й напічканы лекамі, я быў жывы. Усё, што адбылося, здавалася нейкай казкай, нечым нерэальным. Тым, чаго не йснуе ўвогуле. Па йлбе каціліся салёныя шарыкі поту. Рукі моцна ўздрыгвалі, пальцы ўхапіліся за белую прасьціну. Ліхаманкава працаваў мозг, аналізуючы тое, што адбылося, тое, што не магло зьмесьціцца ў розуме. Я ляжаў на шпітальным ложку з калёсікамі. Вакол тоўпіліся нейкія йстоты, усе ў белым і з маскамі на твары. Яны разглядалі мяне, абступіўшы з усіх бакоў. Я ня мог зразумець, што адбываецца. Акаляючы сьвет здаваўся мне вельмі маленькім, як тое памяшканьне, у якім я знаходзіўся. Людзі корпаліся ў маім целе, рэзалі яго на кавалкі, нешта вымалі адтуль і нешта сунулі ў нутро. Было б добра, каб чаго-небудзь не пакінулі там лішняга, калі зашыюць. На маніторы, які паказваў работу сэрца, пайшла суцэльная паласа, памяшканьне напоўнілася паганым піскам – гукам сьмерці. Нехта зь іх яўна спалохаўся, камусьці стала блага. Самы рашучы схапіў электрашокер і пачаў прыціскаць да цела. Яно падскоквала ўгору, ваўтузілася па стале. Твары хірургаў зьбялелі, яны нічым не маглі дапамагчы. А мне было ўсё роўна. Я быў вечнажывы і лётаў, як пушынка, над галовамі лекараў. Я адчуў сябе свабодным, птушкай у небе. Было весела й сумна. Сумна ад таго, што звароту назад ужо няма. Скажу адно – у целе было лепш. Куды зьніклі гэтыя фізычныя радасьці, іх ужо няма. Ужо не набудзеш за рогам салодкае марожанае. Не зьясі матуліных клёцкаў, што я так любіў. Ня зьведаеш блізкасьці з каханкай. І наогул неяк крыўдна, ёлкі-палкі. Усё ж такі suicide – гэта вельмі блага.



### Юры Чарнякевіч

# ГІЛЬЯТЫНА

Калі Ты нарадзілася, мы ўзрадаваліся. Мы люлялі Цябе, сьпявалі Табе калыханкі, давалі розныя прысмакі, апраналі ў футры...

У халодныя й галодныя гады Ты не галадала. Мы елі нішчымніцу, аддаўшы Табе свае смачныя думкі, мроі, летуценьні. Калі ж захварэла Ты, мы зь вялікай боязьзю чакалі Тваёй Сьмерці, каторая вулканамі, лавай сьмяротных канвульсіяў зьнішчыць і нас, і нашую справу. Але зёлкі-лекі дапамаглі.

Наша Дзяўчынка, мы бачылі Тваю прыгажосьць і думалі пра хуткі Твой росквіт, спадзяваліся на лепшае й будавалі празрыстыя замкі, у якіх не было гаспадароў. Так, мы верылі ў сваю й Тваю праўды, верылі ў справядлівасьць і парадак, ня вельмі зазіраючы ў рэчаіснасьць і не разважаючы пра тое, што мы можам пасьля зрабіцца вар'ятамі, тыранамі, дыктатарамі...

Так, так, так! Мы не разумелі, што зноўку новыя йдзі перамогуць старыя, зноўку будуць нішчыцца храмы ды паўставаць усялякія веры, а абуджаны, прыгожы, вялікі, разумны натоўп-народ узьнясе на гаспадарскі пасад новага правадыра ды будзе вельмі паслухмяна маліцца новай-старой уладзе, новым законам і новым словам.

Мы ня думалі, што Ты – Малох – ненажэрны й жахлівы ў сваёй пяшчоце – зьясі нашых сыноў і дачок, Тваіх найлепшых рабоў! І мы ня марылі пра тое, што мы самі будзем дзякаваць Табе, хаваючы целы свае ў зразумелую, спазнаную зямельку...

Ты, Наша Белая Сьмерць, будзем любіць кроў, вельмі любіць! Твае ворагі, сябры, бацькі будуць паміраць бяз стогну й з усьмешкаю на вуснах, а астатнія зноў будуць любіць белыя ці чырвоныя сьцягі, імпэрыю бязь межаў – усё тое, што Ты загадаеш любіць.

І, мажліва, зноў і зноў дзьве варожыя, дзьве пазбаўленыя праўды марскія хвалі будуць разьбівацца ў сьляпой барацьбе аб каменьне вострава Дабрыні. Зноў будуць стаяць ля дарог крыжы з расьпятымі людзьмі – ідыётамі – Багамі, зноў зьявяцца й будуць енчыць прарокі, ідалы й вешчуны...

Ты, любая прастытутка, што нараджае волатаў і герояў, брыдотаў і люмпэнаў, а потым з асалодаю забівае і тых, і другіх, зьмяняючы малюнкі далёкіх краявідаў на іншыя, такія ж далёкія й прыгожыя, знаёмыя й абрыдлыя, танныя й спарахнелыя – мы чакаем Твайго надыходу...

# АКТАХ



немли, тое лицо вернути казалом, а за тот выступ, казалом всих трох робят скарать хлостою...» Таксама скардзіўся ў судзе «молодец жидовский Аврама Великого Павлюк на сына мещанина слонимского Олехнова Козчича наймя Тимофея, иж познал в него кожушок свой бараний ноползношоный, который дей в мене вкраден вже две недели будуть...» Суд шукаў вінаватага, а тым часам жыцьцё рушыла па сваіх каляінах. Кагосьці злавілі ў садзе пад час абтрасаньня чужых яблыкаў, хтосьці атрымаў кухталёў за «ловене силом куров».

Дзіця можна было пакараць, аддаць у навуку ці ў заставу. Гэтак слонімскі мешчанін Давыд Падлыткoвіч «зоставил был» чабатару Далбенку сына Максімца за 30 грошаў... А староста Трэйдански Пётр Стаброўскі аддаў пад заруку зямяніну Станіславу Сакалоўскаму хлопцападданага разам з канём у маёнтак Дзеравенскі за 200 коп грошай. Бывала, што падлеткі ўцякалі з новага месца. Ад лучніка слонімскага ўцёк ягоны вучань; пра што апошні падаў скаргу ў суд: «... тот Давыд дал мне на науку з рук своих молодца, которого мел научить луки робить, а тот молодец за науку мел тры годы служить, а естли бы служить за науку не хотел, тогды Давыд за то пять коп грошей дати мел, а ток оного молодца луков робить навчилом,... дей он втек от мене, починивши шкоды...» Два «молодца» Грышка й Ян уцяклі ад сваіх гаспадароў, узяўшы з сабою «хорціцу моруговатую», ручніцу, кажух барані вялікі й кажушок кароткі. Слугі доўга шукалі ўцекачоў «... опыт чынили, многие люди поведили, иж бачыли двух на конях едучы, а за ними хортицу моруговатую бегучи...»

Праходзіў час, і пасталелыя дзеці рабіліся падмогай як у сваіх сем'ях, так і ў чужых, асабліва, калі дзіця было сіратою. Пра гэта пакінуў ліст баярын з Плаўскага Захары Чарнышэвіч –»будучы я чаловеком в летех при старости своей, а не маючы в себе сына лет дорослого, который бы за мене часу потребы военное службу господарскую земскую служыл мале не до живота моего ховал, про то без жадного примушеня, одно по свое доброй воли взял есми в дом свой за сына Павла Игнатовича...» Гэтак жа падданая з Рэпнікаў прыняла ў свой дом «братанича» Івана –»... маючы в себе тепер одного сына пры собе именем Степан лет недорослых, а сама будучы невеста летная, не есть дужа яко повиноватостей королевских сполняти, так и около роботы домовое... приняла до себе в дом за сына того Ивана и тому Ивану часть яко земли, так и дому всего и речей всих рухомых... яко и сыну тому Степану поступила, а так теж Иван мает ее яко матку свою мети и до живота ее ховати, будучи ее послушен во всем...»

Малыя дзеці – малы клопат, вялікія – непамерны. Толькі скрайняя роспач і безнадзейнасьць прымусілі зьвярнуцца ў суд зямянку Раіну Туганоўскую са скаргай на сваіх родных сыноў. У сваім аповедзе жанчына казала, як доўга трывала й шкадавала сваіх недарэчных сыноў, бо «прирожоная милость материнская завжды их передомною заступовала», ня скардзілася на іх нават у малітвах «абы Пан Бог не вылил на них гневу своего справедливого», але нарэшце трываньне скончылася, і няшчасная маці з плачам паведала судзьдзі наступнае: «... з горким плачом моим, в котором я, надзная мать, на неосушаючи очю моих трваю... сама ку ведомости... доношу и оповедаю, иж Андрей, Иван – сынове мои, зъехавши з служб, маючы пры собе по колькoнасту коней и слуг, от часу немалого яко лежни якие при мне лежат, ани маючи и зглядy на Пана Бога самого, матки своей не шанують, учтивости ми не выражають, ... терплю од них, того бы и поганские дети маткам своим не чинили, тоесть мешкаючи при мне, дознавам того, чтого подобно жаден родич от детей своих не показал. Слуг перед очима моими бьют и других слугам своим мородовати кажуть, свовольне с пивницы, з спижарни, з гумна и з оборы быдло, вепри кормные беручи, в маетности моей мене нищат и оную таким свовольством забирают...»

Бацькі ж чакалі ад дзяцей дапамогі з малых гадоў, догляду ў старасьці, прыстойных праводзінаў у апошні шлях. У большасьці тэстамэнтаў таго часу гучыць сапраўдны клопат пра сваіх дзяцей. Шчаслівыя, мусіць, былі тая маці ці бацька, якія ў сваім апошнім наказе выказвалі словы падзякі сваім улюбёным дзецям: «опису и дарую сынам моим двум Стэфану и Федару... побачивши схильность и повинность их ку мне, матце их...» –пісала перад сьмерцю зямянка Федора Рэзанавая і загадвала: «мает сын мой Стэфан грешному телу моему слушный а почтивый погреб вчинить, так теж память и вси доходы церковные отправить мает водле обычая хрестиянского... А хто бы кольвек тую остаточную волю мою мел з детей моих нарушить, так сыны яко и дочки мои розсудятся зо мною перед милостивым створителем Богом нашим...»

Пасьля сьмерці бацькоў дзеці заставаліся сам-насам са сваім жыцьцём. У большасьці зь іх былі апекуны, якія часам выкарыстоўвалі нададзеныя ім правы на сваю карысьць, але, зразумела, былі сярод іх і сумленныя людзі. Падрослыя дзеці атрымлівалі свае часткі маёмасьці й заводзілі свае сем'і (дарэчы, хлопцы лічыліся сталымі ў 18, а дзяўчаты – у 13 гадоў), для меншых жа дзяцей сьмерць бацькоў была сапраўднай трагедыяй. Хіба можна праз дакумэнт 400-гадовай даўнасьці ўявіць пачуцьці падлетка, які стаіць перад ложкам паміраючага бацькі? Але ж мы можам паспрабаваць? «... Пане отче, вижу дей, аж ваша милость есть на воли Божай и на смертельной постели. А если на вашу милость пан Бог раши смерть допустить? Кому мене в опеку поручаеш, а при ком мене зоставуеш? Сынов своих, а братю мою ваша милость поженил и отделил, а я зостатся муша один, жоны не маючи. Хто надомною яко сиротою измилуется и хто мене яко сироту пригорнет?» Паміраючы бацька, возны Слонімскага павету, Матыс Мікалаевіч кажа малодшаму сыну апошні наказ: «Мілы сыну, Пану Богу тебе в опеку поручам..., я уже сынов своих, а братю твою оженивши и поделил и не мают уже они до тебе жадное потребы, тоест до будованя дворного, до избы у которой я лежу... и до светлочки, до свирна, до лазни, бо дей то я своим грошом покупил..., то тобе, сыну, отказую. Одно ж маете уси сполом... землю... на ровные части делить...»

Крымінальны характар гэтых дакумэнтаў высьвятліў тую прастору існаваньня дзяцей у тагачасным сьвеце, якая знаходзіцца як бы «па той бок месяца». Жыцьцё ж паўставала ў розных праявах, прымушаючы душу чалавека трымцець ня толькі ад жаху, але й ад хараства. Навакольны сьвет хаваў столькі таямніц, што на іх адкрыцьцё наўрад ці хапала часу, адведзенага чалавеку на дзяцінства...

«Часам аблокі прадзіруцца, тагды ліне дождж, бы зь вядра, а за ім разам падаюць і кускі аблокаў. Нашыя дзецюкі колькі раз самі находзілі пасьля дажджу гэтыя аблокі...»

Слоўнік старабеларускіх словаў

***выростак*** *– падлетак*
***барбер (бальвер)*** *– лекар, цырульнік*
***лицо*** *– рэчавы доказ, сама ўкрадзеная рэч*
***выступ*** *– злачынства, ліхадзейства*
***братанич*** *– пляменьнік*

**Вольга Бабкова**

У тэксьце выкарастаныя матэрыялы з кнігі «Зямля стаіць пасярод сьвету» кн. 1, укладальнік Ул.Васілевіч, Менск, 1996.

Тэкст напісаны паводле дакумэнтаў з актавых кніг Слонімкага гродзкага і земскага судоў канца XV1 ст., якія захоўваюцца ў Нацыянальным Гістарычным Архіве ў Менску.

Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» засноўвае ў 1999 годзе новую кніжную сэрыю «Чытанка», у якой таксама выйдзе кніга Вольгі Бабковай.

---

проста не здагадваліся. Ёсьць ад чаго здрыгануцца: мэсіянская роля Беларусі прагавораная ў ракавы двухтысячны час, і — увага! —пагроза рэальная, як заўтрашні дзень. Пастаянна варта помніць, што тайна Расейскай імпэрыі заключаецца не ў маскоўскім Крамлі, піцерскім Зімнім ці ніжагародзкім кірмашы. Менавіта ў нашай з вамі Беларусі вырашаецца надта ўжо многае, калі ня ўсё, і нам нікуды ад гэтага ня дзецца.

КГБ тонка падабраў камэртон, на якім рэзананс Ідэі становіцца разбуральным і выклікае цыкляпічныя земляўздрыгі. Усё імгненна становіцца з ног на галаву, гіганцкія піраміды рушацца, і насельніцтва ахоплівае павальная паніка — прыкладна так, як гэта здарылася 17 жніўня ў Расеі. Перайначыць знак на супрацьлеглы аказалася гэтак жа проста, як перавярнуць 1999 год у страшную апакаліптычную лічбу.

А мы з вамі толькі-толькі намацваем нашую ноту, трагічную й высокую, якая павінна ўсё расставіць па сваіх месцах. Нам трэба, чаго б гэта ні каштавала, пацэліць у гэты ірацыянальны пункт, і выклікаць слушны эфэкт.

Зрэшты, Імпэрыя Духу, Імпэрыя Культуры тым і розьніца ад любой звышдзяржавы, што транскантынэнтальныя ракеты тут замяняе ***трансцэндэнтальнае*** мысьленьне. Тут дзейнічаюць катэгорыі, якія не падначальваюцца законам жалезнае лёгікі. Глябальныя эфэкты спрацоўваюць у імя духоўнасьці — так, як гэта неаднойчы ў сусьветнай гісторыі дэманстравала Нацыянальная Ідэя.

## 7. Ідэя

Раз-пораз нават здаецца, што яшчэ сэкунда, і мы вось-вось спасьцігнем, скрышталізуем для сябе гэты момант ісьціны: настолькі празрыстая яго сутнасьць, настолькі ясна пабліскваюць, граюць грані чагосьці ідэальна цэласнага, так працінае — да іскрыстых сьлёзаў, да галюцынацыяў. І я ўвесь час паўтараю пра сябе: Беларусь чакае вялікая будучыня.

— Беларуская Нацыянальная Ідэя — трэба памятаць: гэта ідэя пакутнай і вялікай краіны, у якой мы ***маем гонар*** жыць, краіны, якой пастаянна балюча й якая, хутчэй за ўсё, ніколі ня стане шчасьлівай.

— Беларуская Нацыянальная Ідэя — гэта ідэя Новага Запавету: Веры, Надзеі, Любові. Не ўзбуджэньне гневу, не інквізыцыя супраць маскоўскае ерасі мусіць быць нашым дэвізам. Беларусы —носьбіты ўнікальнага, ***хрысьціянскага*** ў сваім прынцыпе духоўнага ***імпэратыву***, які й ёсьць сэнсам нашае Імпэрыі Культуры. Як гэта ня цяжка, нам трэба ўспрыняць, што краіна, як і чалавек, не павінна жыць ***для сябе***. Яе задача — даць сябе іншым, і праз гэта сьцьвярджаць сваю веліч. Прасьвятляць і настаўляць аграмадную Расею, уздымаць Усходнюю Эўропу — на нашым сумленьні. Так павялося спрадвеку, так будзе й далей.

— Урэшце, Беларуская Нацыянальная Ідэя — гэта ідэя Імпэрыі Культуры, буйнейшага духоўнага цэнтру Ўсходняе Эўропы. Гэтая краіна прызваная лучыць і вучыць увесь кантынэнт, у болях спараджаючы ўсё новыя й новыя хвалі эміграцыяў, драмы й найвышэйшае культуры. Гэта краіна геніяльнага ***Міжмоўя***, дзе чыста беларускі элемэнт выконвае ролю магічнага крышталю, люстранога пачатку каардынатаў. У яго ***фокусе*** сыходзяцца элітарныя культуры й масавыя псыхозы паловы Эўропы. Тэлевізія, інфармацыцыйныя тэхналёгіі й выбух камунікацыяў даюць нам беларускі фокусны сынтэз — той звышэфэкт, дзеля якога робіцца цяперашняя карпатлівая праца «Народнага Альбому», «Маладога Адраджэньня» й сучаснае «Нашай Нівы».

Зь беларускіх лясных шоргатаў і шэптаў, у эфіры бясконцых шумоў, у інфармацыйным сутоньні, з туману трэцяга тысячагодзьдзя насустрач нам узьнікаюць абрысы гэтае аграмаднае культуровае Імпэрыі — як гара сярод аблокаў, яна патыхае халадком абсалютнай ідэі. Масква, Варшава, Кіеў, Вільня — толькі велізарныя фарпосты, краевугольнае крэпасьці яе смутнай магутнасьці.

Няма й ня можа быць сумневаў: Нацыянальная Ідэя ўрэшце пераможа. Ува ўсіх абвостранае адчуваньне, што час працуе на нас. Нам ня трэба баяцца, што гэтая краіна зьнікне з мапаў ці зробіцца каляніяльным захалусьцем. Расея, ды й ніхто іншы, ня ў сілах зьнішчыць ані нашую дзіўную вялікую нацыю, ані яе цудоўную мову. У нас усё атрымаецца. Трэба толькі быць простымі й сумленнымі, ашчаднымі ў гневе й шчодрымі ў любові; трэба шукаць, грукацца ўва ўсе дзьверы, верыць і абавязкова ўсьміхацца.

* * *

А ў астатнім — усё, як у Пазьняка.

# РЫМСКІЯ ІМПРЭСІІ

**Сяргей Абламейка**



Калі вы перасякаеце аўстрыяцка-італьянскую мяжу, дык, на першы пагляд, мала што мяняецца. Тая самая альпійская архітэктура вясковых дамоў, тыя самыя горы, і карункі грандыёзных бэтонных віядукаў над прорвамі паміж імі. Але пасьля вы заўважаеце, што паміж рэйкамі на станцыях шчэбень брудны, зь яго вытыркаюцца калівы пустазельля й невысокага хмызьняку, там-сям валяюцца нейкія іржавыя жалезіны, і ўвогуле – парадку стала менш. Вы ў Італіі. Я сябе адчуў так, нібыта зь Нямеччыны ўехаў на тэрыторыю Польшчы.

У купэ італьянскіх цягнікоў людзі, дастаўшы цукеркі ці яшчэ які прысмак, шчыра і з ахвотай частуюць усіх суседзяў. У Чэхіі ці Нямеччыне гэта немагчыма, і ты адразу разумееш, наколькі малая розьніца паміж каталікамі й праваслаўнымі на ўсходзе й захадзе Эўропы ў параўнаньні з рацыянальным пратэстанцтвам у ейным цэнтры й на поўначы.

У маім купэ, якое пасьля перасячэньня мяжы запоўнілася італьянцамі цалкам, тры чалавекі дасталі й пачалі чытаць... коміксы. Я ўжо быў наважыўся зрабіць нядобрыя высновы пра інтэлектуальны ўзровень гэтага народу, як адзін пасажыр насупраць мяне, даволі інтэлігентны з выгляду чалавек, скончыў праглядаць свой сшытак з малюнкамі, адклаў яго, дастаў з партфэля кніжку й пачаў чытаць. Кніжка называлася «Нэйрафізыялёгія»...

Італьянцы – ня самы высокі народ у Эўропе.

У італьянскіх жанчынаў буйныя твары.

Італьянскія жанчыны любяць насіць чорныя кальготы.

Дзеці італьянцаў падобныя да цыганскіх.

У Менску няма столькі аўто, колькі ў Рыме матаролераў і мапэдаў на вуліцах. Тут свой стыль і свая мода, свая выкшталцонасьць і свая прэтэнзія. Ёсьць матаролеры, даражэйшыя за нямецкія аўто. За рулём гэтых паўматацыклаў часта можна бачыць паважных мужчынаў у гарнітурах і прывабных паненак, апранутых ад Армані і Вэрсачэ. Здаецца, выхадкі зухаў на матаролерах і мапедах пад час руху на рымскіх вуліцах – гэта й ёсьць адна з праяваў італьянскага тэмпэрамэнту й іхнага адчуваньня тэмпу. Напэўна, і адзін з самых распасюджаных тыпаў траўматызму тут – траплянне пад колы аўта на матаролеры.

У Рыме пад колы аўтаў трэба кідацца, інакш яны не дадуць вам перайсьці вуліцу. Калі вы бачыце некага, хто стаіць і чакае, пакуль аўтаў паменее, каб перайсьці – гэта замежнік.

На вуліцах Рыму ці ня кожны трэці аўтамабіль мае глыбокія драпіны і ўвагнутасьці ад сутыкненьняў. Ня ведаю, чаму італьянцы іх не рамантуюць. Можа дорага, а можа й ня мае сэнсу, улічваючы поўны хаос і бязладзьдзе на дарогах і няўрымсьлівы тэмпэрамэнт гэтага паўднёвага народу.

У Рыме больш за 700 храмаў. 400 зь іх – збудаваныя да 17 стагодзьдзя. Многія дзясяткі – антычнай, часта яшчэ паганскай пабудовы... Прычым, некаторыя зь іх так і не былі адаптаваныя хрысьціянамі.

У Рыме шмат форумаў і паганскіх храмаў-ратондаў з калёнамі. Клясычных антычных калёнаў – сотні, калі ня тысячы. Мне падумалася, што каб у нас у Беларусі знайшлі хоць кавалак адной такой калёны... Колькі б гонару было....

Сярод антычных помнікаў Рыму – сваімі памерамі й колькасьцю ўражваюць так званыя «тэрмы», інакш кажучы – лазьні. Чыстаплотнымі людзьмі былі старажытныя лаціны.

Я лічыў сябе знаўцам архітэктурных стыляў. Але тое, што ў Беларусі відавочнае, зусім невідавочнае ў Рыме. Цэлы квартал цудоўна захаваных шматпавярховых дамоў з чырвонай цэглы ля форумаў Траяна і Аўгуста і грандыёзную квадратную абаронную вежу над імі я датаваў 12 стагодзьдзем, а яны аказаліся антычнымі...

Некалі рымляны перавезьлі з Эгіпту і ўсталявалі на плошчах гораду 13 фалічных абэліскаў, якія паходзяць з 2 тысячагодзьдзя да н. э. Усе яны сёньня й стаяць на сваіх месцах...

У Рыме я ўпершыню зазнаў, як чалавеку можа зрабіцца блага ад добрых эмоцыяў. Я хадзіў па Вечным Горадзе. Натыкаўся на сьцяне бруднага дому ў брудным завулку на фрэскі Рафаэля, глядзеў на творы Мікельанджэла ў Саборы Сьвятога Пятра, слухаў шапаценьне вады ля фантанаў, уздымаўся да Капітолія й аглядаў з Капіталійскае выспы Калізэй, стаяў на мосьце 1 ст. да н. э. і на мосьце 2 ст. н. э., глядзеў зь іх на дзівосную па колеры ваду ў Тыбры, сядзеў на мармуровай падлозе ў Пантэоне 27 году да н. э. і спрабаваў даўмецца таямніцы дзіўнай адтуліны ў ягоным купале, мацаў рукамі мазаікі ў антычных базыліках, брыў па антычнай дарозе, забрукаванай гіганцкімі абчасанымі з аднаго боку валунамі... і мне ўрэшце рэшт стала блага. Я перастаў успрымаць убачанае і стаў інакш думаць пра Беларусь. На пераадоленьне шоку спатрэбілася два дні. Пасьля іх я стаў дазаваць сабе рымскую красу... І ўспомніў, што я яшчэ й паломнік.

11 гадоў таму я вучыў у школе дзяцей гісторыі Старажытнага Рыму і, як высьветлілася, абсалютна не ўяўляў сабе, колькі ўсяго засталося ад яго ў Рыме сёньняшнім...

Сабор Сьвятога Пятра – гэта нават не музэй. Гэта – сьвет, прастора, сусьвет. Гэта – найвялікшы помнік Ісусу Хрысту, калі-кольвечы ўзьведзены чалавекам. Боскае, храмавае й мастацкае зьлілося ў ім у фантастычную гармонію сугучча й суладзьдзя Зямлі й Нябёсаў. Веліч пабудовы, веліч імёнаў мастакоў, якія яе ствaралі, і веліч Таго, у Чый гонар пастаўлены Храм, змушаюць цябе не зразумець, але самой істотай адчуць, дзе на зямлі цэнтар Хрысьціянства... Стоячы ў Саборы й каля яго, ты разумееш, што рукою Рафаэля й Мікельанджэла вадзіў ня іхны розум, але Боскі Провід... Экскурсавод завучана паўтарае турыстам: даўжыня Сабору 211 мэтраў, даўжыня цэнтральнага нэфа ўсярэдзіне – 186 мэтраў, унутраная вышыня купалу – 119 мэтраў... і я стаю і думаю, што большы храм ужо ніхто ніколі не пабудуе.

Мне сказалі, што ў Саборы Сьвятога Пятра толькі два маляваныя абразы... Астатняе – мазаікі...

Катэдральны сабор Рымскіх Папаў – зусім не Сабор Сьвятога Пятра. Непадалёк ад цэнтру ёсьць базыліка Сан Джавані – гэта й ёсьць рымская Катэдра. Яна закладзеная ў пачатку 4 стагодзьдзя, а сёньняшні выгляд набыла ў 1735 годзе. Побач зь ёй – славуты Папскі палац – рэзыдэнцыя Папаў да пачатку 14 стагодзьдзя. Праз пляц ад Катэдры – невялікая царкоўка Скала Санта. Дзеля яе я сюды й прыйшоў. Тут захоўваецца Сьвятая Лесьвіца. Гэта – сходы з дому Понтыя Пілата, па якіх арыштаваны Збаўца падняўся да таго, хто загадаў яго ўкрыжаваць... Іх перавезла сюды ў пачатку 4 стагодзьдзя маці імпэратара Канстантына – Алена. Сотні паломнікаў кожную гадзіну ўздымаюцца на каленях па гэтых сьцёртых і патрэсканых сходах... Узьняўся па іх і я...

Я стаяў і маліўся ля магілы Сьвятога Апостала Пятра, ля магілы Сьвятога Апостала Паўла, ля мошчаў Сьвятога Яна Залатавуснага і ля мошчаў Сьвятога Язафата... і думаў, што ніхто з маёй сям'і: ані дзяды, ані прадзеды, ані бацькі – не былі ў гэтых сьвятых месцах, ля гэтых сьвятыняў... і думаў таксама, што й няшмат беларусаў бывае тут, асабліва з тых, каму руліць лёс Беларусі... І таму маліўся й за сябе, і за іх, і за яе...

Я хацеў памаліцца ля цудадзейнай скульптуры Сьвятога Апостала Пятра ў Саборы ягонага імя, але некалькі групаў нямецкіх турыстаў сталі ў даўжэзную чаргу й пачалі «аздараўляцца» дотыкам да сьцёртага за шмат стагодзьдзяў правага ступака Апостала, фатаграфуючы й здымаючы сябе на відэа. Я маліўся, назіраючы гэта, турыстаў прыбывала, і каб таксама дакрануцца да Пятра, я мусіў стаць у іх чаргу... Паломніку ў Рыме цяжка пазбыцца адчуваньня турыста.

Цікава, ці ведаюць праваслаўныя беларусы, што Сьвяты Апостал славянаў Кірыл пахаваны ў Рыме ў базыліцы Сьвятога Клімэнта, і што ягоны брат, Сьвяты Мятод, быў прызначаны Папам архібіскупам Маравіі й пахаваны ў Селеградзе ў Чэхіі? Іншымі словамі (і наўмысна спрашчаючы), ці ведаюць праваслаўныя, што іхныя Апосталы былі каталікамі?

Найбольш нетактоўна ў рымскіх храмах пад час набажэнстваў паводзяць сябе японцы й іншыя турыстымангалоіды з Азіі...

Клімат Італіі я ілюструю так. Пры 20 градусах цяпла я, чалавек з поўначы, абліваўся потам, ходзячы ў адной летняй майцы ў канцы кастрычніка. Італьянцы пры гэтым былі надзетыя ў курткі й плашчы, з-пад якіх часам выглядалі й швэдры. А ў дзень ад'езду пры 18 градусах па Цэльсію я сустрэў мурына ў дублёнцы... Усім адносна...

У Рыме поры дня мяняюцца вельмі хутка. У 18 гадзінаў –сьветла, а ў 18.15 – ужо цёмна. Тут няма прыцемкаў. Напэўна, гэта таксама вызначае іхны тэмп.

У Рыме, які аточаны гарамі й стаіць за 20 кілямэтраў ад мора, надвор'е можа мяняцца два разы на дзень. Калі раніцай вам горача, дык гэта яшчэ не азначае, што ўвечары вы не закалееце ад холаду. Назаўтра сытуацыя можа паўтарыцца, толькі наадварот, і так да бясконцасьці. Адзін рымскі жыхар мне сказаў – холад сыходзіць з гор. У Рыме, у адрозьненьне ад Прагі й Менску, шмат прастытутак-мурынак. Адна зь іх, высокая й прыгожая, мяккім голасам прапаноўвала мне аддацца асалодзе ў 9 раніцы на пляцы паміж Папскай калегіяй, якую скончылі выдатныя беларускія сьвятары, паміж якіх біскуп Часлаў Сіповіч, і рымскай базылікай 5 стагодзьдзя Санта Марыя Маджорэ, на алтар якой у 9 стагодзьдзі Сьвятыя Апосталы славянаў Кірыл і Мятод паклалі толькі што зроблены імі пераклад Сьвятога Пісьма на славянскую мову... Наіўная.

У тутэйшых рэстарацыях турысты замаўляюць піцу нячаста. Напэўна, наеліся ў сваіх краінах, з аднаго боку. А з другога, яна тут і нясмачная. Піцу ў Рыме ня любяць. Яе, аказваецца, прыдумалі ў Нэапалі. А ў Рыме ядуць пасту.

Італьянцы амаль не ядуць супу. На першую страву ў іх – паста (розным спосабам прыгатаваныя макароны). Пасьля ядуць мяса з тушанай гароднінай. Усё гэта запіваецца віном. Пасьля мяса ядуць буйна пакрышаную салату й іншую сьвежую зяляніну, дадаючы ў яе віннага воцату й алею. На дэсэрт у абед –садавіна, а ў вячэру – пудынгі, лёды ці салодкія пірагі. І такі парадак захоўваўся ўсюды, дзе мне давялося абедаць ці вячэраць. Сьняданкі ў іх сымбалічныя. Самая пажыўная ежа –увечары.

Я ў жыцьці ня выпіў столькі сухога віна, колькі за гэтыя 10 дзён у Італіі.

У Рыме прадаюцца толькі салодкія яблыкі. Мая мара. І я думаю, чаму гэта на ўсходзе Эўропы столькі яблыкаў кіслых?

Мне давялося пакаштаваць у Рыме 5-6 гатункаў італьянскае шынкі, і ніводная зь іх не была вэнджанаю як, напрыклад, у чэхаў. Усе – вяленыя. Як у нас.

Супрацоўнікі Беларускай Сэкцыі Радыё Ватыкану блытаюць беларускія словы «сабе» і «сябе».

Малады езуіт-славенец Эшка, зь якім я пазнаёміўся ў Рыме, распавёў мне пра славенскую легенду, паводле якой гэты народ прыйшоў на Балканы зь Беларусі. Эшка сказаў, што нядаўна пытаўся пра яе ў прафэсара-гісторыка зь Любляны, і той легенду пацьвердзіў...

У адным «путеводителе» прачытаў – «церковь римского стиля».

Калі бачыш пэўную занядбанасьць сёньняшняга Рыму і бруд на ягоных вуліцах, няўрымсьлівы тэмпэрамэнт італьянцаў і іх невысокі рост, дык агулам здаецца, што італьянцы – ня самыя лепшыя спадкаемцы старажытных лацінаў... Бачыліся мне ў іх і рысы старажытных лянгабардаў і вандалаў...

Праваслаўны, які наведае Рым, можа й ня стане каталіком. Затое каталік, які тут пабывае, застанецца каталіком назаўжды.

*Прага-Рым-Прага. 21-31 кастрычніка 1998 г.*

# ІМПЭРЫЯ І РАСЕЯ

**Раман Шпарлюк**

Гэтая вялікая імпэрыя, якая прасьціралася ад Балтыкі да Ціхага акіяну, захапіўшы ў Эўропе землі й народы ад Фінляндыі да Бэсарабіі да Крыму, мела глябальныя й палітычныя праблемы з «уласна Расеяй» — праблемы, створаныя тым, што ніхто ня ведаў, дзе тая «ўласна Расея» канчаецца, і дзе пачынаецца імпэрыя.

Расейцы адчувалі, што неабходна ўзаконіць сваю прысутнасьць у Эўропе адпаведна з новымі ідэямі аб нацыянальнасьці. Яны пачалі пісаць гісторыю імпэрыі ды яе папярэднікаў як расейскую нацыянальную гісторыю. У сваім прагненьні стаць «сваімі» сярод эўрапейцаў расейцы стварылі сваю гісторыю (ды перагледзелі свае дачыненьні з Усходам), узяўшы на ўзбраеньне чыста заходнія канцэпцыі. Іхныя гісторыкі XIX ст. навучылі расейцаў глядзець на імпэрыю як на нацыянальную расейскую дзяржаву. Былі створаныя таксама новая філялёгія і этнаграфія, якія вызначылі расейцаў як славянаў ды праваслаўных хрысьціянаў. У працах выдатных расейскіх гісторыкаў XIX ст. гісторыя шматнацыянальнай расейскай імпэрыі стала расейскай гісторыяй. Гэта, у сваю чаргу, спрычыніла вызначэньне неэтнічных расейцаў, у прыватнасьці й тых, якія жылі з этнічнымі расейцамі ў адной краіне стагодзьдзямі, як «іншародцаў» ды «іншаземцаў», словам — расейскіх нізоў, альбо ўвогуле каланізаваных народаў. Гэты падыход прадугледжваў глябальныя адрозьненьні, для якіх знайшоў трапную характарыстыку Джэфры Госкінг: «Брытанія мела імпэрыю, а Расея была імпэрыяй — і, мабыць, дагэтуль ёю застаецца». Як тлумачыць Госкінг, Брытанская імпэрыя была адчужанай ад сваіх тэрыторыяў (Ірляндыя — хутчэй, вынятак), а таму брытанцы добра адрозьнівалі Брытанію ад імпэрыі. «Расейская імпэрыя ж была часткова бацькаўшчынай для ўсіх туземцаў, якія немінуча зьмешваліся з расейцамі на базары, на вуліцах ды ў школах — і фактычна зьмешваюцца дагэтуль».

Відавочна, расейская ідэнтыфікацыя з славянамі й зьмена самавызначэньня краіны ў эўрапейскіх катэгорыях мелі пэўны ўплыў на дачыненьні Масквы з расейскім Усходам. Не для ўсіх адразу стала відавочным, што перанос сталіцы з Масквы ў Санкт-Пецярбург, які наблізіў Расею да Эўропы, зрабіў расейскі Ўсход (Казань і далей) больш іншаземным, больш аддаленым. «Славянская ідэя», якая разбурыла габзбурскі дынастычны прынцып і дапамагла стварыць культурны й духоўны бар'ер паміж славянскімі народамі, з аднога боку, ды раманскімі й германскімі — зь іншага, дала Расеі пачуцьцё галоўнага й найбольш моцнага элемэнту ў сям'і славянскіх народаў, аднак сама гэтая ідэя, калі прыгледзецца больш уважліва, паставіла па-за законам — з этнічнага пункту гледжаньня — прысутнасьць Расеі на ўсходзе, у «Азіі».

Але ўсё гэта стала зразумелым толькі ў XX ст. Напрыканцы XVIII і на працягу амаль усяго XIX ст. мантаваліся складнікі расейскай нацыянальнай гісторыі. Гэтая новая гісторыя рабіла маскоўскую, а потым пецярбурскую Расею непасрэдным пераемнікам Бізантыйскай імпэрыі, а праз яе й старажытнагрэцкай культуры, рабіла Расею галоўным

*Раман Шпарлюк – украінскі эмігрант, гісторык, прафэсар Гарвардзкага ўнівэрсытэту. У 1988 годзе выдаў на ангельскай мове кнігу «Камунізм і нацыяналізм», у 1998 годзе перакладзеную на украінскую. Гэты ўрывак узяты з працы «Распад расейскай імпэрыі», надрукаванай у першым нумары кіеўскага часопіса «Дух і літэра».*

# У ШВЭДАЎ — САЦЫЯЛІЗМ

**Алег Дашкевіч**

У Гётэборгу, альбо на швэдзкі манер – Ёттэборы, смачная вадаправодная вада. Такая ж смачная, як у Менску. А піў я гётэборскую ваду з ласкі БАЖ, якая выправіла мяне й іншых калегаў – незалежных журналістаў паглядзець на швэдзкі сацыялізм. Сьведчу – у швэдаў сацыялізм. З выключна чалавечым тварам.

Крынічнай вадой падабенства Менску і Гётэборга ня скончылася, але гэта было першае сапраўднае ўражаньне. Дарога ад аэрапорту да самага места – роўная, як украінскі стэп: відаць, горад, дзе вырабляюць дзьве маркі легкавых аўтамабіляў SAAB і Volvo, ня можа сабе дазволіць дрэнных дарог. Зрэшты, гэта тое, што не зьдзівіла.

Колькасьць каляровага насельніцтва прымушала задумацца, ці сапраўды Гётэборг самы заходні горад адной з самых паўночных краінаў. Тут амаль траціна імігрантаў, гэта пры тым, што тут – эўрапейскі тупік, далей ехаць няма куды. Але такая карціна назіраецца па ўсёй Швэцыі: з васьмі мільёнаў насельніцтва – мільён шэсьцьсот тысячаў – імігранты. Гэта вынік лібэральных законаў 70-80-ых гадоў, калі швэдзкая эканоміка імкліва разьвівалася, і краіне патрэбная была працоўная сіла. Швэды дастаткова бестурботна ставіліся да гэтае зьявы, пакуль не адбылася трагедыя, якая набыла рэзананс па ўсім сьвеце, – пажар у гётэборскай дыскатэцы ў раёне, дзе жывуць пераважна імігранты.

Знэрваваная паліцыя нічога ўцямнага й канкрэтнага не тлумачыла, адно бубнела, што сьлядоў падпалу ня выяўлена, па месту тым часам кружлялі чуткі пра нейкую падобную да скінхэдаў моладзь, якую быццам бачылі на дыскатэцы, і страшнае для добраўладкаванай Швэцыі пытаньне вісела ў паветры. Да таго ж праверка на пажарную бясьпеку, якая прайшла перад трагедыяй, ня выявіла нічога падазронага. Як бы там ні было, напружаньне паміж карэннымі й імігрантамі адчувалася.

Калі на адной з сустрэчаў я крыху нахабна пацікавіўся, куды глядзеў урад 70-ых, які мусіў лічыць наперад наступствы такой лібэральнай палітыкі натуралізацыі, швэды крыху раздражнёна адказалі, што ў іх дэмакратычная краіна, што іхны ўрад не прымае рашэньняў валявым парадкам, а калегі абвінавацілі ў таталітарным мысьленьні, – маўляў, ты разважаеш па-савецку – урад асобна, народ асобна; калі б урад не задавальняў патрэбаў эканомікі, ён бы перастаў існаваць. Магчыма й так, але... але пажар адбыўся ў імігранцкай дыскатэцы, і паліцыя ўнікала канкрэтных адказаў. Таму я ўсё ж мяркую, што ўрад на тое і ўрад, каб лічыць наперад.

Блукаючы па гётэборскіх вуліцах альбо едучы ў грамадзкім транспарце, ня мог пазбавіцца думкі, што я не за мяжою. Мне было ўтульна ў гэтым горадзе, час тут цёк з той жа хуткасьцяй, што ў Менску. З гэтага гледзішча, напрыклад, Масква –большае замежжа. Да таго ж Гётэборг вонкава падобны на Менск, цэнтар без архітэктурных празьмернасьцяў. Прамысловыя раёны з трубаправодамі, высотнымі кранамі, заводамі. Раёны-спальні з такімі ж дзевяціпавярховымі кубікамі й «хрушчоўкамі». Наконт апошніх аказалася, што Швэцыя мела падобную праблему з недахопам жытла. Прачуўшы пра тое, як вырашалася яна ў СССР, швэды накіраваліся па савецкі досьвед, і хутка ў іх таксама зьявіліся пяціпавярховыя блёкавыя дамы без гарышчаў і з пляскатымі дахамі, якія стаяць да гэтае пары, праўда, адаптаваныя да новых умоваў. У Гётэборгу ўсё адаптавана да новых умоваў: партовыя пабудовы былых вэрфяў – пад карпусы шматлікіх ВНУ й спартовыя залі, плавучыя докі – пад сучасныя гатэлі, самалётная вытворчасьць SAAB – пад аўтамабільную той жа маркі, магутныя партовыя краны – пад атракцыёны...

Швэцыя, калі меркаваць з Гётэборгу, краіна, дзе цалкам вырашаныя пабытовыя праблемы, краіна, пазбаўленая раздражнёнасьці, дзе правам перавагі карыстаецца слабейшы. Уладальнікі аўта саступаюць дарогу пешаходам, аўтобусы й трамваі чакаюць тых, хто не пасьпявае, прадаўцы ўсьміхаюцца пакупнікам, парцье – пастаяльцам. Вам паўсюль стараюцца дапамагчы. Журналістка зь беларускай правінцыі, дзіця дрымучых лясоў, згубіўшыся ў незнаёмым горадзе глыбокім вечарам, падыйшла па паратунак да кіроўцы трамваю й здолела назваць толькі назву гатэлю. Кіроўца зрабіў лішняе кола па маршруце, давез да патрэбнага прыпынку й сказаў два словы на зразумелай мове – мост і направа. Шчасьлівая, яна са сьлязьмі на вачох прыбыла на месца пастою.

Балаты для гэтага кутка Швэцыі, як і для нас, значаць шмат, Гётэборг стаіць на балоце. Ні высотных дамоў, ні мэтро тут нельга будаваць. Але, тым ня менш, людзі на балоце пабудавалі для сябе пабытовую казку, і відаць ужо забылі, што ў ёй жывуць.

У Швэцыі мода на змаганьне з паленьнем, гарэлку набыць даволі складана – у адмысловых крамах, у адмысловы час. Можа, таму п'янога спадара мы спаткалі толькі адзін раз. Позьнім вечарам, на прыпынку трамвая ён, хістаючыся, дапіваў з рыльца пляшку й нешта лапатаў, побач сядзела ягоная сяброўка ў такім самым стане. Раптам мужык падыйшоў да мяне й пачаў нешта гаварыць, узмахваючы рукамі. Я глядзеў і думаў, прычэпіцца ці не. У адказ ён працягнуў сваю п'яную руку, якую я пацісьнуў. Пасьля, зрабіўшы апошні каўток, ён з размаху ляснуў пляшкай аб брук. Мне падалося, п'яны швэд падобны да п'янога беларуса, абодва больш занятыя сваімі праблемамі, чым чужымі.

Зьнешне народ у Гётэборгу ня дужа розьніцца ад менскага, яскравых Кананаў-Барбараў я назіраў няшмат, затое ёсьць сярод этнічных швэдаў чарнявыя й смуглявыя, як нашыя «гракі», што на Гарадзеншчыне ды Берасьцейшчыне. У іх такія завуцца балонамі, што некалі ў сярэднявеччы прыйшлі ў Скандынавію з тэрыторыі Бэльгіі.

Як аўтарытэтна сьцьвярджаў калега, які паезьдзіў па сьвеце – швэды не ядуць супоў. Сапраўды, калі я запатрабаваў суп у нейкай кавярні, афіцыянт ніяк ня мог сьцяміць, чаго мне патрэбна. Я ўжо быў засумаваў бяз супу, як раптам пашанцавала, накармілі смачнай гарохавай пахлёбкай... у турме. Пра розьніцу ва ўтрыманьні зьняволеных у нас і ў іх вядома шмат, скажу толькі, што ў турме, якая прыкладна займае тэрыторыю «Валадаркі», цягнуць свой тэрмін сто дзевяць зэкаў. Асобныя камэры, тэлевізар, радыё, бывае кампутар, санвузел і г.д. Камэры зачыняюцца толькі на ноч. Да таго ж атлетычная заля. Кіруе працэсам шыракакосная казачніца Астрыд, да якой зэкі зьвяртаюцца на ты, і як сьцьвярджаюць, гатовыя адкруціць галаву любому, хто рызыкне яе пакрыўдзіць. Тры швэдыдзецюкі, зь якімі мы размаўлялі, трымаліся разьняволена. На пытаньне, хто вінаваты ў тым, што яны апынуліся тут, у турме, адказалі – як пасьцелеш, так і спаць будзеш. Гэта, відаць, галоўная розьніца паміж ня толькі нашымі й іхнымі зэкамі, а паміж нашым і іхным грамадзтвам. Як заўважыў калега, тут прычыну ўласных няўдач шукаюць у сабе, у нас – у вонкавых абставінах. Я зь ім згодны. Дарэчы, большасьць насельнікаў турмы – імігранты.

Швэды – сацыялісты, столькі размоваў пра прафсаюзную салідарнасьць я ня чуў з часу хваляваньняў на вэрфях і шахтах Польшчы. Дзе б мы ні знаходзіліся, гэтая тэма агучвалася на поўны голас, але каштуе іхны сацыялізм ня танна – сорак працэнтаў заробку. Большасьць швэдаў жыве ў крэдыт, але гэта выгадна і людзям, і дзяржаве. Калі слушнае вызначэньне, што як жывуць старыя, такі сацыяльны ўзровень краіны, то тут у швэдаў парадак. Дамы састарэлых на ўзроўні гатэляў, прынамсі ў тым прадмесьці, што мы наведалі. У гэтым кутку Гётэборга знаходзяцца сацыяльныя ўстановы ня толькі для старых, а таксама для дзяцей і разумова адсталых, якіх, наколькі магчыма, грамадзтва стараецца інтэграваць. Напрыклад, яны працавалі ў кавярні сацыяльнага цэнтру, дзе нас частавалі кавай. Іх не саромеюцца. Адзін зь іх вітаў нас, зь дзіцячым гонарам распавёўшы, чым ён займаецца. Пачуўшы, што мы зь Беларусі, распавёў, што быў у нашай краіне й зьбіраецца наведаць яе яшчэ, разам са сваімі хлопцамі, паразіўшы напавал сваімі дзіцячымі летуценьнямі некаторых з нашай каманды, якія жыва пачалі цікавіцца, дзе й калі ён быў у Беларусі. Кіраўнікі сацыяльнага цэнтру пазіралі са спачуваньнем.

Тое ж і зь дзецьмі. Адзін з цэнтральных гарадзкіх унівэрмагаў. Маці зь дзіцём гадоў трох зайшла па нейкі набытак. Раптам дзіцё ўлеглася на падлогу. Ні падвышэньня голасу, ні, пагатоў, сваркі. Наведнікі спакойна абыходзяць занятае сваімі мроямі дзіцё, маці спакойна чакае. Праз якія дзьве хвіліны дзіцё паднялося й радасна пакрочыла разам з маці далей.

У чым розьніца паміж цярпімасьцю й цярплівасьцю? Відаць, цярпімасьць – якасьць свабоднага і ўпэўненага ў сабе грамадзтва, цярплівасьць – слабога й несвабоднага. Цярпімасьць – сымбаль Эўропы, сымбаль эўрапейскай Швэцыі – каралеўская сям'я.

Нам пашанцавала, мы бачылі Караля і Каралеву, якія прыбылі ў Гётэборг на жалобную імшу з нагоды трагедыі. У катэдральным саборы ўваход быў вольны. Мы стаялі ў некалькіх мэтрах ад сымбаля нацыі, вікінгі з аховы, кінуўшы позірк у наш бок, не чынілі ніякіх перашкодаў.

Пасьля імшы Кароль і Каралева выйшлі з катэдры, селі ў звычайны SAAB мясцовай вытворчасьці з каралеўскім гербам на дзьверцах і паехалі па сваіх каралеўскіх справах. Следам у модным мэрсе рушыла ахова. Непадалёк было відаць некалькі конных паліцэйскіх. І ўсё.

Я думаю, шкада, што Беларусь не Каралеўства, што ня маем мы ні свайго Караля, ні Каралевы. Можа ад таго ніяк мы ня здолеем дацягнуцца да Эўропы. Любая з эўрапейскіх манархіяў – сымбаль прыстойнасьці краіны. Дый калі разважыць, Каралеўства Беларусь гучыць значна лепей, чым РБ, а Беларускі Кароль – чым ППРБ. Можа, варта падумаць і зноў паклікаць «варагаў з-за мора».



Дарэчы, як не хапае Беларусі мора, мусіць таксама, як Караля. Гэта адчуваеш, калі стаіш на верхняй палубе карабліка, што курсуе ў шхерах паміж выспамі, раскіданымі вакол Гётэборгу, там, дзе сыходзяцца Балтыйскае й Паўночнае мора. Марская прастора заўжды правакуе пытаньне: – А што там далей, на тым беразе? – і пазбаўляе комплексу боязі перад незнаёмым.

У аэрапорце афіцэр каралеўскай памежнай варты разлучыў мяне з маім складным кітайскім нажом. Я не спрачаўся зь ім, я падумаў, можа, гэта знак. Можа, дасьць Бог, калісьці я вярнуся ў гэтую пабытовую, створаную людзьмі казку – порт Швэдзкага Каралеўства Гётэборг, ці па-швэдзку – Ёттэборы. Можа, да таго часу мы здолеем зрабіць Беларусь – Каралеўствам, а Менск – казкай, і чужое мора ўжо ня будзе нам чужым.

---

народам у праваслаўным сьвеце.

Шмат хто й дагэтуль верыць, што бізантыйскі ды грэцкі ўплывы мелі вялікае значэньне для фармаваньня расейскай культуры й палітыкі, тымчасам як гарвардзкі гісторык Эдвард А.Кінан лічыць гэта «найбольшай містыфікацыяй за ўсю гісторыю эўрапейскай культуры». «Да другой паловы XVII ст., — піша ён, — наўрад ці можна было знайсьці хоць аднога карэннага маскоўца, які быў бы знаёмы з славутымі грэкамі». Тым ня менш, ідэя «бізантыйскай спадчыны» стварала гістарычную базу імпэрскай расейскай мары пра «адваёву» Канстантынопалю-Царгораду ў мусульман. Іншы міт зьвязваў Маскву зь сярэднявечным Кіевам. Фактычна, маскоўскія расейцы й ня думалі пра тое, што яны ёсьць «працягам» Кіева, пакуль ім пра гэта не сказалі гісторыкі. «Гэтыя людзі нават і ведаць ня ведалі пра Кіеў», — сьцьвярджае Кінан. Толькі пасьля аб'яднаньня Ўкраіны з Расеяй у XVII ст. была спраектаваная сувязь паміж Масквой і Кіевам у сярэднявечным мінулым. Гэтую сувязь сталі зноў падкрэсьліваць пад час падзелу Польшчы, калі большая частка земляў Украіны і ўся Беларусь дасталіся Расеі: кіеўскі міт дапамагаў адхіліць польскія прэтэнзіі, а неўзабаве быў выкарыстаны й для таго, каб адмовіць украінцам у праве называцца асобнаю, незалежнаю ад расейцаў, нацыяй.

Таму ня дзіўна, што пасьля далучэньня Кіева ды Бізантыі да сваёй генэалёгіі, расейцы перайнакшылі адпаведным чынам і свой гістарычны погляд на Ўсход. Міт пра «кіеўска-бізантыйскую спадчыну» быў дапоўнены мітам «мангола-татарскага прыгнёту». Згодна з гэтай схемаю, сярэднявечная Расея стагодзьдзямі пакутавала пад татарскім «ігам», зноў і зноў паўстаючы супраць захопнікаў і паступова дамогшыся вызваленьня. Адным з вынікаў гэтай гістарычнай барацьбы была заваёва хрысьціянскай Расеяй мусульманскай Казані.

Гэтыя ідэалягічныя пабудовы XIX ст. запачаткавалі пэрыяд палемікі, такі знаёмы й любы для расейскіх гісторыкаў. Найбольш вядомымі былі дэбаты славянафілаў ды заходнікаў. Як моцна б ні разыходзіліся іхныя погляды на адносіны паміж Расеяй і Эўропай, усе яны разглядалі Расею з пункту гледжаньня той жа Эўропы. Славянафілы — абаронцы расейскай выключнасьці — разумелі сваю Расею як славянскую ды праваслаўную, не ўлучаючы ў гэтае адзінства татараў. То бок іхнае разуменьне Расеі было сфармаванае цалкам пад уплывам заходніх тэорыяў. Эўразійства, якое абвесьціла, нарэшце, што расейцы і ўсходнія народы належаць да адной супольнасьці, зьявілася толькі ў 1917 годзе. Увогуле, залежнасьць ад тэорыяў была распаўсюджаным расейскім бязладзьдзем.

Расейская пабудова імпэрыі разгортвалася ў двух накірунках: па-першае, Масква, захапіўшы Казань, пачала заваёўваць Усход; трохі пазьней, пасьля далучэньня Ўсходняй Украіны ды Кіева, быў пачаты націск на Захад. Расейская экспансія на ўсход сталася пасьпяховай, нягледзячы на моцныя рэлігійныя й культурныя бар'еры, якія на захадзе, здавалася б, былі значна меншымі. Безумоўна, заваёва Расеяй Каўказу і Цэнтральнай Азіі ў XIX стагодзьдзі былі адкрыта захопніцкімі, каляніяльнымі й мелі такое самае абгрунтаваньне, што й эўрапейскія заморскія заваёвы — напрыклад, акупацыя Францыяй Паўночнай Афрыкі.

**Пераклад з украінскай Надзеі Рагалевіч**



## Аліса

***

Ідзем мы з табою па скверы.
Па скверы імя Купалы.
Па шэрым каменным бруку,
Што зьведаў ужо колькі ног.
Ва ўбраньні асеньняга лісьця
Сквэр выглядае прывабна.
Гуляюць па ім маладыя
Хлопцы, дзяўчаты і панкі...

А мы зайшлі на чытаньні
Звычайныя, паэтычныя,
Паслухаць розных паэтаў
Ды й так – паглядзець на людзей,
Што проста прыходзяць, сьпяваюць,
Усім нам настрой падымаюць.
Чытаюць розныя вершы,
Па большай частцы свае.

## Аліцыя

***

*В.*

Уранку шпацыруем хто куды,
Чакаем на прыпынку свой аўтобус
І, пазяхаючы, ўціскаемся ў паўзмрок.
Гук нашае агульнае хады
Павольна дэфарміруе сьвядомасьць,
І час ад часу мы губляем зрок,
І час ад часу мы губляем слых,
Не заўважаем тое, што ня хочам.
Хаваемся па норах, бы краты.
О, цуд! Сярод вачэй сьляпых і злых
Я сустракаю раптам твае вочы:
Так зьзяюць вочы толькі у сьвятых!

Ты, пэўна, не тутэйшы – паэджанін,
Што выпадкова апынуўся тут.
Я ж бачу: не скарылі шчэ цябе.
А мы даўно зрабіліся цьвікамі
Жалезнымі, каб не цярпець пакут
У хосьпісе, што клічацца РБ.

***

Ты любіш каву –
Я люблю гарбату.
Ты пішаш прозу –
Я складаю вершы.
Ты прынцыповы –
Я – сама упартасьць.
Ты дым ня любіш –
Я палю нясьпешна.
Ты любіш белы –
Я люблю чырвоны.
Ты мкнешся да ўлады –
Я хачу свабоды.
Ты стаў судзьдзём –
Я стала падазронай.
Ты йдзеш уверх –
Я ўніз бягу па сходах.
Ты любіш клясыку –
Я Глебуса чытаю.
Ты у душы падлетак –
Я – амаль жанчына.
Кахаеш ты мяне,
А я цябе кахаю.
Адзіны толькі мы ў адданасьці Айчыне.

## Аляксандар Антончык

РОЗДУМ

Сьпіць тут люба мая мама,
Сьпіць у гэтым доле.
А душа ж яе квітнее
Сіняй кветкай ў полі.

Сіняй кветкай, над якою
Жаўручок сьпявае,
І скрозь хмаркі легкакрылы
Сонца сьвеціць, зьзяе.

Парасьлі вакол магілы
Зарасьці маліны,
Зь якіх льецца ўдзень і ўночку
Посьвіст салаўіны.

Толькі ў мроях часам бачу
З даўніх пор карціну,
Як зьбірала адвячоркам
Мама нас у хаціну.

Пажурыўшы за свавольства
У водах сіняй рэчкі,
Сырадоем частавала
І пульхнай кашай з грэчкі.

Затым сеўшы на канапу,
Вышыванку брала
І пра лёс жаночы сумна
Песеньку сьпявала.

Ужо ня ўбачыць яе тварык
Ў хустачцы старэнькай,
Не пачуць нясьпешных крокаў
Постаці слабенькай.

Усё нявечна ў гэтым сьвеце,
Нават горы й акіяны,
Мы таксама з часам сыдзем
Ў сіняй вечнасьці туманы.

Застануцца ад нас толькі
Думкі, зложаныя ў сказы,
Згусткі формул, гукі песень,
Эпітафій скупы фразы.

## Тацяна Барысава

СКОН

Я ляжу нерухома,
мае думкі здранцьвелі
пад цяжарам бруду
гэтага сьвету...
Мне гідка і млосна
адчуваць сябе.
Што з маёй сьмерці?
Няўжо вечнасьць?
Так. Можна
сьсекчы дрэва,
але хто ведае,
як глыбока
ляжаць яго карані.

## Аляксей Бацюкоў

***

Недзе там, сярод ільдоў
Заблукала мая сьцюжа.
Між цясьнін зямлі пустой
Засыхае ружа.

Чорнай пашчай вораг-цемра
Заглытнула мае зоры.
Сьпёка! А хмяльныя ветры
Не халодзяць болей.

Ўчора мой загінуў сокал
Ў крумкачынай згрэі.
Вольны, сумны, адзінокі
Ў адзінокім краі.

***

Пакладзіце мяне на белае,
знайдзіце ўсе мае раны,
накрыйце далоні ветрам,
дасьпявайце мною нясьпетае,
і лісьце схілёнай вярбы
спакойна ўпадзе ў паветра.

А ты, што чакала сустрэч,
як раніца чакае туману,
ня плач над пакінутым целам,
ня плач, але ружай вырасьці
ля абнятых травою плеч.

І кветка адпусьціць пялёсткі,
і болей ня трэба мілосьці.

## Аляксей Бруй

***

Мне б сьпяваць,
Ды слоў ня маю болей.
Мне б любіць...
Ды ў раны сыплюць солі.

Мне б лятаць...
Ды паламалі крылы.
Мне б кахаць...
Але ня бачу мілай.

Вось і ўсё...
А ты хацеў жыць далей.
Зарасьце
Твая магіла хваляй.

Будзе ноч,
І зноўку прыйдзе дзень.
Толькі воч
Ты не адкрыеш сень.

САМАЗАБОЙЦА

Боль. Гэта ўсё, што засталося мне.
Далоньню сьціскаю брытвы лязо.
К чорту вайна, катастрофы, азон,
Сусьвет – гэта я. Сусьвет ува мне.

Гляджу ў люстэрка. Гэта час разьвітаньня.
Спроба ўсьміхнуцца. Ня трэба больш слоў.
Адзін толькі рух... Вось нарэшце і кроў...
І сьвет сьпыніў сваё існаваньне.

## Тацяна В.

***

Усё, што створана людзкімі думамі,
Збудавана людзкімі рукамі,
Не разбурыцца грознымі бурамі,
Не разьвеецца й пылам ня стане,
Бо да сьлёз, да апошняй крывінкачкі
Хтосьці будзе трываць і марыць,
А як ссохне яго былiначка –
Нехта новы плечы падставіць.
І ланцуг жыцьця
Зноў распаліцца
На зіяючым
Вогнішчы сьмерці:
А хто з полымем
Мужна змагаецца,
Дык такому
Ня страшна й памерці.

## Мікола Канановіч

У БАРЫ

Сьмярдзяць цыгарэты для бедных,
Як зьдзек – непрыклеены фільтр.
У куфлях хаваецца пенных
Мужчын з адзінотаю флірт.

Грыльбары, піўбары – піўнухі
Не адно пахавалі жыцьцёў,
Ад болю ратуючы й скрухі,
Таранячы сэнс на піцьцё.

Тут важнай здаецца сьцябрына,
Ў рэспубліках Піва і Чад,
Дзе кожны насельнік – Мужчына,
Жанчына ж, няйначай, – свой брат.

Людзей аб'ядноўвае піва,
Нібы пасажыраў вакзал,
Зь якіх свой канечны прыпынак
Ніхто яшчэ не праяжджаў.

## Кандрацёнак

АДКАЗ

Не хавайце мяне да пары...
Зазірніце ўпотай у вочы,
дзе маланка паліла кастры,
а цяпер безнадзейнасьць грукоча.

Не сьпяшайцеся вочы закрыць –
ёсьць ў гаючай крыніцы вадзіца.
Бо чужынскай паходняй мігчыць
над усходам краіны зарніца.

Ушаную дзядоўскі наказ,
я – бацькоўскіх шляхоў спадкаемца.
На цнатлівасьць штодзённых абраз
гулка рэха ўначы адкугнецца.

Не хавайце мяне да пары!
Не шукайце спатканьня з тугою.
На кургане ля Лысай гары
мне пакіньце апошнюю мрою.

## Алесь Кветка

***

*Бо не хачу дараваць таму, хто ў нашай справе беларускай можа нешта зрабіць, ды ня хоча.*
Мірон

Немаўля, немаўля... Беларусі дзіця...
Несьціхаючы плач праз стагодзьдзі!
Застаецца часьцінка жыцьця,
Зьберажыце ж яе – у народзе!

Ды калыска пустая сумуе..
А завея віруе, лютуе...
Не знаходзіць Кастусь у ёй сына,
Не гукае дачушка Максіма.

Калыханку матулі забылі,
Навальніцу падчас не спынілі.
А нашчадка пакінулі ў цемры,
Каб і думка пра вольнасьць памерла.

Адраджэньня вялікая сіла!
Ты вярніся да нас, як сьвятыня, –
Абудзіць у народа вялікасьць,
Захаваць у дзіцяці бязьвіннасьць.

Немаўля, немаўля... Беларусі дзіця...
Несьціхаючы плач праз стагодзьдзі!
Застаецца часьцінка жыцьця,
Зьберажом жа яе – у народзе!!!

## Яўхім Корчак

***

Па зямлі ідзе цывілізацыя,
Адукацыя, гуманізацыя.
А у нас, як раней, – рэзэрвацыя:
Ні натоўп, ні народ і ні нацыя.

А казалі – электрыфікацыя.
Дрот калючы цьвіце, як акацыя.
Па кішэнях і сэрцах – інфляцыя,
А ў душы і ў сумленьні – мутацыя.

Вось такая цывілізацыя!

## Браніслаў Пяткевіч

АДНА

Ня будзе шляхоў для тугі,
Як выгляне радасьць з вакна.
Расьсьцелюць прывабнасьць лугі
І вып'еща шчасьце да дна.
Бацькоўскага роду зямля,
Альховы на поплаве куст,
Суглінку, для нівы, ральля
Высокі трымаюць свой густ.
А родная мова! Ого!
Мне лашчыць пяшчотай душу;
Да скону-зьнікненьня свайго
З сабою заўсёды нашу.
І сталасьць юнацтву ўсьлед
Нясець сваю годнасьць за лёс,
Які перадаў родны дзед
З драўляных, скрыпучых калёс.
Спачатку кашулі з радна,
А потым спружыністы шоўк.
А матка-радзіма адна,
Пакуль я для песень ня змоўк.

## Зьміцер Таруліс

***

*Лявону К.*

А будзе так – па сканчэньні бою,
Спрадвечных яго клапот:
Шпурнем мы зь сябрам абрыдлую зброю
Ў ад пылу сівы акоп.

І пойдзем паціху ўздоўж праспэкта
Скрозь шэры яго ампір.
Асфальт у гільзах, блакіт у небе –
Такім сюды прыйдзе мір.

Героям – слава, а вольным – воля.
На грудзі крыжоў не чапляць.
З нас досыць таго, каб ніколі
Ня выпала зноў страляць.

«Ёсьць пляшка з гарэлкай ды трошкі хлеба.
Наладзім сабе «парад»?»
Ты скажаш: «Прабач, адаспацца бы трэба.
Давай гэта заўтра, брат».

## Алёна Шарэпа-Лапіцкая

АСЫПАЕЦЦА ЛІСЬЦЕ КЛЯНОВАЕ

*Дарагому брату Расьціславу*

Асыпаецца лісьце кляновае,
Лісьце жоўтае, лісьце ўзорнае,
Пазалотай у сіняй просіні
Лісьце сыплецца жоўтае восені.

Лісьце жоўтае, лісьце кляновае,
Што нядаўна было шчэ зялёнае,
Што квітнела квітучымі марамі,
Веснавымі павеўнымі чарамі, –

Лісьце гэтае сяньня, ўвядаючы,
Ціха кружыць, у дол ападаючы,
Асыпаецца жоўтай мяцеліцай,
Па зямлі, уміраючы, сьцеліцца...

Апавітыя дымкай лілёваю,
У цяню журацца дрэвы кляновыя,
Пазалотай у сіняй просіні
Дар апошні складаючы восені.

Лісьце кружыцца, лісьце асеньняе,
А паветра ўсьцяж поўніцца ценямі
Ночкі змрочнай асеньняй туманнае,
Лістападавым сном калыханае.

Лісьце кружыцца, лісьце кляновае
Ды гамоніць з кустамі ліповымі
Аб праменях, пяшчотай сагрэтымі,
Прамінулымі шчаснымі летамі...

Аб тых песьнях, на скрыпцы ігранымі,
І вачамі Тваімі каханымі,
І прыгожымі яснымі кветамі,
І славамі, яшчэ недапетымі...

І сумуе за днямі маёвымі,
За вачамі наскрозь васількавымі,
За Тваёю усьмешкаю мілаю,
Пахаванай сырою магілаю...

Асыпаецца лісьце кляновае
Ды гамоніць зь лістотай дубоваю
І шарэе ў сіняй просіні
Аб дачасна прыйшоўшае восені.

## Сымон Шаўцоў

МОЙ СТАРЫ ДЗЕД

Мудрасьці простай
вучыў калісьці
мой стары дзед
зь дзён, калі быў
я яшчэ ў калысцы:
«Вучыся, унучак, жыць на сьвеце
чэсна, сумленна...
Любі бацькоўскі кут,
паважай старых людзей,
шануй іх цяжкі труд.
Беражы сваю Радзіму,
свой родны край.
Жыві тут чэсна, сумленна,
і тут памірай.
Не пакідай свой край.
У чужым краю
ня знойдзеш ты паталі,
ані спагады, ні радасьці ў жыцьці.
Хоць будзеш ты багаты,
але багацтву ня рады...
Паміж чужых ты будзеш чужы.
Заўжды будзеш успамінаць
аб сваёй Радзіме,
дзе хадзіў часта ў госьці,
сьпяваў песьні ў маладосьці.
Помні, унучак, дзедавы словы.
За свой лёс змагацца будзь гатовы.
У сваім краі
ніхто не зачыніць
перад табой дзьверы
сваёй хаты –
ці бедны, ці багаты,
бо ты тут не чужы,
а як свой хлеб у сваёй дзяжы.

## Аляксей Шыдлоўскі

НЕ ПРАСІЦЕ ЛІТАСЬЦІ...

Не прасіце літасьці, не пытайце:
«Как это вот так, мы ж народ!?»
Лепш чырвоны сьцяг свой хапайце
І – як найхутчэй – уцякайце
Па шляху з напрамкам УСХОД!



Толькі там вам будзе прывольна,
Там такіх, як вы – пруд прудзі,
Але зь беларусаў – давольна,
Помсты час прыходзіць няўмольна,
Ярасьць наша рвецца з грудзі!

Мы – не гарантуем бясьпеку,
(Я гарантаваць не бярусь),
Так што не спрабуйце ў рэку
Другі раз ўвайсьці, бо адвеку
Будзе тут цяпер – БЕЛАРУСЬ!

*2.10.98, ППК №1*

## Міхась Южык

***

Хісьнецца сьнежань, вечар пацалуе,
Жаданы госьць, пакутны іздалёк.
Ён узьляціць, рупліва адпрасуе
Зямлі памятай ненакрыты бок.

Да ёй, вятрыма некалі пабітай,
Ён мае роздум млечны і любоў,
Каб на ляту раскідаць, нібы жыта
Чарговы дар зімовых берагоў.

Яшчэ сырыя камячкі зьляцелі
З далоняў неба скарбам мітусным:
Як хтосьці сеў на белыя арэлі,
І – доўгі шлях да шэрай у цемры цэлі –
Зямлі ў аблічча ворага хмурным.

Я маю, сьнежань, да цябе павагу,
Чакаю адкрыцьцём у стоме дзён,
Уратаваньнем ад бязьлітаснага шагу
Сваёй душы ў цемрадзі палон.

***

Паглядзіце! Лясы заміраюць.
Што за ноч, што за бездань нябёс!
Незваротнай любоўю склікаюць
Галасы ў няведамы лёс.

Жыць бы, жыць у гэтай клеці марознай,
Ледзяныя пакуты шляхоў
Перадужаць. Ды поўначчу сьлёзнай
Чырвань-птушку схапіць у вякоў.

Убягае пазёмка шалёна
Ў нерухомы стэп, мары сноў.
Лапы елак – к дарозе, зялёных...
Для каханьня ня знойдзецца слоў.

Я з кары ды ігліччага рою
Нарадзіўся калісьці і зьнік, –
Белы сьнег зь сіняватай ракою,
Ды лясоў патаёмны ўскрык.

## Віталь Якшэвіч

ДЫЯГНАЗ

Нібы грыбы, паказьнікі растуць,
Краіна пяты год на ўздыме –
Чаму (хто б здолеў патлумачыць)
Народ галее з кожным тыднем?
Ня трэба нябыліцаў прыдумляць,
Тлумачыцца ўсё вельмі проста:
Інакш і не павінна быць –
Галеча ёсьць сымптомам росту.



Славамір Адамовіч

# БЫТАВУХА



## I. БЕЗНАЗОЎНАЕ

Цэнтральная лінія сталіцы — праспэкт імя беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Перасячэньне з вуліцай Камсамольскай. Гастраном «Узвышша» насупраць жоўтага будынку КГБ. Піўны бар на рагу дому, які фасадам выходзіць на праспэкт, а правым бокам захінае ад сонца сквэрык зь бюстам Дзяржынскага. Пасьля шостай вечара ў бар заходзяць вертухаі з «амэрыканкі». Заўсёды групай. Пяць-шэсьць чалавек. Заўсёды кухаль-два піва, профіль каменнага Дзяржынскага праз дзьверы, гарэлкі тут не наліваюць, можна кавалачак салёнай рыбы на 50 грамаў, не, гэта многа, грамаў на 35-45.



Пасьля адсідкі я сустрэў іх амаль усіх. «Фізкультурніка» спатыкаў аж тры разы. Някалі ён браў у мяне адбіткі пальцаў, адбіраў шнуркі, дзягу й кішэнную драбязу, першы закрыў за мной дзьверы камэры №15.

Таго, які ў чэрвені 1996-га прынёс мне некалькі нумароў газэты «Свабода» за сьнежань 1995-га, я ўбачыў у салёне гарадзкога аўтобуса. Праяжджалі плошчу Ванеева. Разьбіраўца не было калі. Я сьпяшаўся да жанчыны.

Апэратыўніка, аднаго з тых, што шманалі мой пакойчык 22 сакавіка 1996 году, убачыў на прыпынку каля Дзяржцырку. Пайшлі пехатою да Круглай. Гаворым. Ведаеш, кажу, аднойчы мне здалося, што мы не пад вамі ходзім, а пад Богам. Лёс нас вядзе, а ня вы.

Дык можа гэта толькі здалося?

Можа. Але ў той дзень вы адназначна прайгралі. Хочаш вер, хочаш не, ды вам не ў паперах трэба было рыцца, а ў ложку. Я тры гадзіны шліфаваў задніцай затвор абрэза, файны такі абрэзік, тры патрончыкі. Ну вось хоць ты што рабі: вас трох і куляў тры... А ўвогуле нам усім пашанцавала: мы жывыя.

## II. АРУБ

Не, нездарма мы гаворым пра лясы й партызанку.

У структуры ўнутраных войскаў МУС утворана новае падразьдзяленьне: аддзел разьведкі і ўласнай бясьпекі. Па ідэі арганізатараў новай баявой адзінкі, АРУБ будзе дзейнічаць супраць партызанскіх групаў і выключна ў лясной і балотнай мясцовасьці.

Рэжыму, відаць, мала ўжо існуючых «альфаў» ды «алмазаў». Рэжым баіцца. Рэжым сапраўды думае, што мы пойдзем у лясы. Ён правільна думае. Толькі ўдакладню: мы будзем УСЮДЫ.

## III. КРЫВЯНКА

Мы ўтрох: ваш пакорны служка, Паэт Правільны, які жыве ў Прэзыдэнцкім Доме і з-за гэтага перажывае маральныя згрызоты і Паэт Няправільны, які цэлымі днямі жлукціць гарэлку і не перажывае, — сядзім у рэдакцыі і расьпіваем бутэльку гарэлкі. На стале паўбохана «Барадзінскага» і колца крывянай кілбасы. Няправільны натхнёна распавядае, як ён любіць крывяную і лівэрную. Вось толькі з-за пэнсіянэраў прыходзіцца выстойваць доўгія чэргі.

Крамная крывянка — ня тое, што вясковая. Але закусваць ёю ў надзвычайных сытуацыях можна. Праўда, Правільны крывіцца.

## IV. НЯМА

Чорт яго ведае, што за краіна!

Пітной соды не магу дакупіцца ў менскіх крамах. Днямі паўкілі прывёз зь Вільні.

Насовак ня бачу ўжо каторы год — жанчыны дораць на дзень нараджэньня.

Масла зьнікла. Праўда, ёсьць «шакаляднае».

Алей ёсьць — два даляры за паўлітра.

Хіба што курам зарвала — няма яек.

Цярпеньня няма.



На Каляды паеду ў Альхоўку і ўсаджу пад левую лапатку нашага парсючка нямецкую швайку, уяўляючы, нібы гэта ЁН, для каторага ў нас заўсёды ёсьць нянавісьць.

## V. ДАНОС

Вытрымкі зь ліста настаўнікаў СШ №40 г. Віцебска, дасланага ў аддзел па рабоце з насельніцтвам віцебскага аблвыканкаму.

«Паважаны Ўладзімер Мікалаевіч!

Зьвярнуцца да Вас нас прымусілі абставіны, якія склаліся ў СШ №40 за час кіраўніцтва ёю дырэктара школы Лаўрэнава, Пятровай, Севярынец. (...) Другое пытаньне, бадай, самае галоўнае — гэта тое, што адміністрацыяй школы ўзяты курс на падтрымку палітыкі БНФ і Маладога народнага фронту. У гэтым годзе актыўна ішло разлажэньне душ навучэнцаў 10-11 клясаў, Цяпер Севярынец Т. і ейны муж у газэтах «Віцебскі кур'ер» і «Народная воля» ліюць бруд на палітыку Лукашэнкі ў сувязі са зьмяшчэньнем іх сына пад варту.

Некаторыя нашы навучэнцы таксама падтрымліваюць іх, бо Лаўрэнаў дазволіў, а Пятрова ажыцьцявіла мару маці — Тацяны Яўгенаўны — і пазнаёміла старшаклясьнікаў зь ейным сынам. Зьняла з 5-6 урокаў усе дзясятыя клясы, а Павал Севярынец і ягоная кампанія ў актавай залі школы вучылі іх беларускай мове і ўсяму астатняму.

Выкладчыкам сусьветнай мастацкай культуры быў прыняты сябра Лаўрэнава — Жалянаў, які зьяўляецца злосным ворагам палітыкі Лукашэнкі і разам з Лаўрэнавым актыўна падтрымлівае БНФ. Паняцьце пра сусьветную мастацкую культуру па праграме 10-х клясаў навучэнцы ведаюць павярхоўна, бо ўрокі СМК былі прысьвечаныя крытыцы кіраўніцтва Рэспублікі. (...) Сам Лаўрэнаў прыдумаў для сябе факультатыў па эканоміцы, і ўсе адзінаццатыя клясы бурна на працягу году абмяркоўвалі рыначную эканоміку, не падтрымліваючы курс Лукашэнкі. (...) Ён (дырэктар — С.А.) увесь у палітыцы, нездарма забараніў у школе БПСМ, хоць жадаючыя былі. (...)

Таму будзем спадзявацца, што пры Вашым садзеяньні члены камісіі (...) аддадуць належнае кожнаму (...)».

## VI. ЮБІЛЕЙ

«Я хочу тебя увидеть, поговорить. Если и у тебя есть такое желание — позвони мне».

Гэта мая былая жонка піша мне 19 кастрычніка 1998 году.

На наступны дзень я атрымаў ейны ліст і вечарам, як маладзён, пабег сустракаць з працы. Ці ня добрыя дзьве гадзіны я тэпаў каля ўваходу ў галоўнае аддзяленьне «Беларусьбанка». Было мокра й золка.

Як кіраўнік аднаго з крэдытных аддзелаў, Вольга Васільеўна пакідае працу апошняя. У натоўпе банкаўскіх клеркаў пазнаю яе адразу ж: знаёмая хада, твар... Праўда, капялюшык яна раней не насіла.

«Вечар добры, Вольга!» — кажу я і цалую ў руку.

Мы ідзем праспэктам Скарыны. Бяром смалявіцкага віна ў бутэльцы «а-ля шампанскае» (сапраўднага ўжо няма). Заходзім у Палац прафсаюзаў. Там канцэрт беларускіх бардаў. На сцэне канфэранс Мельнікаў у цюбяцейцы. Сьпявае сьмешны Шалкевіч. Ё-маё, Жэнька бегае па тэатральным гаўбцы!..

Толькі ўсеўшыся на галёрцы партэру, я заўважаю, што перад намі прымасьціўся паэт Сыс. Я ледзь пасьпяваю паказаць на яго Вользе, як ён устае і гарланіць на ўсю залю, што яму абрыдла і ён пойдзе глядзець футбол.

Потым у маім пакойчыку мы расьпіваем вінцо. Яна зачырванелася.

Божа, як соладка цалавацца з былой жонкай!

Мы едзем да яе. Спачатку на тралейбусе, потым ловім таксі.

І вось той самы маленькі пакойчык у кватэры ейных бацькоў. Той самы кілім на падлозе, ужо пацёрты. Тая самая канапа, але разьбітая, і падраная капа...

Жонка хутка сьцеліць нам пасьцелю. І кладзецца побач. І абдымае мяне, як мужа, як тое, што належыць ёй. Яна дапамагае мне так, як можа толькі яна. Незвычайна гладкая скура вялікага цела трыццаціваcьмігадовай Валянціны Васільеўны рыпіць у маіх абдымках...

... Мы разьвяліся ў 1988 годе, вясной, пражыўшы год. У загсе нам так і не ўдалося назваць прычыну разводу.

## VII. ПАРОДА

На дзень студэнта мы з маім маладзейшым таварышам гасьцявалі ў інтэрнаце ўнівэрсытэта культуры.

Віктар прыехаў да мяне з Пастаўшчыны: высокі, добрага беларускага роду, прыгожы малады правінцыял, толькі што дэмабілізаваны з войска.

Прыйшлі мы, праўду кажучы да маёй васямнаццаткі. І, як ейныя знаёмыя, трапілі за сьвяточны студэнцкі стол. Самы пасьля мяне старэйшы разьлівае гарэлку. Прыпёрся ён аж з Маладэчына, але родам зь Пінску. І сапраўды, пазнаецца пан па халявах: у «маладэчанца» характэрны паляшуцкі акцэнт, чорныя валасы і хітрыкі ў паводзінах.

Саша зь відэакамэрай быў, Віця адкаркоўвае вінныя бутэлькі, Юлька мая гарэлкі ня п'е (у яе й так баліць галава, бо крытычныя дні). Юльку я, вядома, люблю, але другакурсьніца Оля з Гарадзеншчыны сваімі вялікімі шэразялёнымі вачыма й кароткай джынсавай спаднічкай падрэзала мяне проста пад корань.

Па трэцяй чарцы Олю выклікаюць на вахту, і праз колькі хвілінаў яна прыводзіць у пакой Колю з БАТУ. «Як!? — ледзь ня ўскрыкваю я. — Няўжо гэты фігурант зь фізіяноміяй сярэдняй дэбільнасьці — ейны хлопец!?» Не, аказваецца, Коля — аднавясковец Олі. Ух, адлягло.

Аднак, самае цікавае адбываецца па пятай чарцы. «Што ты імееш процiў БПСМ?» — голасна пытаецца ў мяне Коля пасьля таго, як я выказаў меркаваньне, што, пэўна, сёньня на вахце дзяжураць бэпээсэмаўцы, паколькі ўсе нармальныя студэнты адзначаюць свой дзень.

Майму суседу за сталом справа я адказаў, што супраць БПСМ нічога ня маю «процiў». Але Коля з аграрна-тэхнічнага ўнівэрсытэту, дзе ўжо «сьвяткавалі» з паўдня, зацікавіўся мною ненажартачкі. Прыйшлося адрэкамэндавацца выкладчыкам культуралёгіі з тэхналягічнага інстытуту і пакласьці п'яненькаму бэпэсамаўцу катлетку, каб закусіў.

Пакідалі мы гасьцінных студэнтаў аб адзінаццатай вечара. Усё было нядрэнна. Адно што, наведаўшы перад дарогай прыбіральню, знайшлі мы ўнітаз у непатрэбным стане.

«Коля», — падумалі мы зь Віктарам.

«Коля», — пацьвердзіла на другі дзень Юля.

Што зробіш: якая парода, такая і ўрода.





**Напрыканцы прамінулае восені ў Варшаве адыйшоў у нябыт знакаміты пісьменьнік Марыян Брандыс. Ягонае «Каралеўства Беларусь», надрукаванае ў «Нашай Ніве» N10 за 1994 год, стала адным з знакаў постсавецкай беларускай культуры, ператварылася ў цэлы фэстываль новых паэтаў, мастакоў, музыкаў. Ягоныя эсэ й гістарычная проза сугучныя беларускаму сьветаадчуваньню і ў перакладзе ўспрымаюцца, як сваё, а не як нешта іншароднае, прыналежнае да іншай літаратуры.**

**Марыян Брандыс (нар. 1912), польскі эсэіст, гістарычны пісьменьнік. У верасьні 1939 трапіў у турму, пасьля вайны працаваў журналістам, замежным карэспандэнтам. Напісаў кнігі «Невядомы князь Панятоўскі» (1960), «Афіцэр найвялікшых надзеяў» (1964), «Клопаты з пані Валеўскай» (1969), «Казэтульскі й іншыя» (1967), «Стражнік Каралеўскага Гробу» (1984).**

18 верасьня 1972

*Разам з дажджом спаў на мяне зноў увесь цяжар маёй сытуацыі. Я ня ўпэўнены, ці Эве спадабалася кніга ці не. І так ужо будзе заўсёды. Перад мною восень, зіма, напоўненыя цяжкай, безнадзейнай працай. І зноў адчуваю прылiў змусульманьваньня.*

*А Бжэхва, калі ўжо быў моцна хворы і ведаў хіба, што памірае, казаў мне, што кожную раніцу абуджаецца з радасьцю. Чакае добрага сьняданку, хрупасткіх булачак і мяркуе, што жыцьцё прыгожае. Яно так, але гэта пытаньне псыхічных перадумоваў і жыцьцёвых досьведаў. Калі я гляджу на маё жыцьцё наскрозь і бачу тую безьліч фальшывых сытуацыяў, дык разумею, што зь мяне й мусіла вырасьці гэткая пачварка. Трэба ўзяць сябе ў рукі.*

Зь «Дзёньнікаў» М.Брандыса

# PIŚMIEŃNICA, JAKAJA NIKOHA NIE ZABIŁA

Vilenski chłapčuk ź Vialikaj Pahulanki Romyk Kasieŭ paabiacaŭ svajoj maci, kab vyvieści jaje z rospačy, vyklikanaj naciskam kredytoraŭ, što stanie vialikim piśmieńnikam. Jon stajaŭ pierad maci, raspraviŭšy plečy i ŭžniaŭšy vočy da nieba, jak jaho vučyŭ najmany za apošnija pazyčanyja hrošy nastaŭnik dobrych manieraŭ i fechtavańnia. Maci adrazu pavieryła ŭ litaraturnyja zdolnaści syna, jak try miesiacy pierad tym śviata vieryła, što jon stanie heneralam, a dva miesiacy – aktoram, nia horšym za *Keana* ci *Valentino*. Jana ŭskinuła ruku ŭ teatralnym žeście hreckaj praročycy. «Ty budzieš piśmieńnikam, vialikim jak *Racine* ci Mickievič». Raptam jana admianiłasia ŭ tvary: «Tolki abiacaj mnie, Ramanie, što ty nikoli, čuješ, nikoli nia budzieš pazyčać hrošy ŭ žančynaŭ». Paśla jana zdumałasia, što paety zaŭždy mieli trahičny los – ach, jana dobra viedała bijahrafii ŭsich hetych *Pouchkine, Lermontov, Griboiedov*. – «Tolki abiacaj mine, što ty nia budzieš paetam. Abiacaj, što budzieš prazaikam». Jana znoŭ pryniała vieličnuju pozu: «Ty budzieš pisać pa-francusku, bo heta adzinaja sapraŭdnaja mova, stanieš vialikim ramanistam i atrymaješ *Goncourt*-aŭskuju premiju».

Raman Kasieŭ, u prozie *Romain Gary*, u parušeńnie ŭsich zakonaŭ atrymaŭ *Goncourt*-a dvojčy (hetaja ŭznaharoda prysudžajecca tolki raz): spačatku jak *Gary*, a paśla jak *Emile Ajar* za bliskučuju mistyfikacyju, mily raman «Žyćcio napieradzie», jaki jon napisaŭ u całkam novym dla siabie styli.

Bijahrafija Kasieva-Gary-Ajar-a – typovaja mužčynskaja historyja. Žančynaj naradžajucca, mužčynam stajuc' – heta abumoŭlivaje asablivaści toha, što tradycyjna nazyvajuć «mužčynskaj» i «žanočaj» litaraturami. «Dakažy, što ty mužčyna; budź mužykom; ty što, nie mužyk?» — čujuć piśmieńniki. Kab stać mužčynam, čałavieku treba vykanać žyćciovy plan: pakachać, pałanić, zabić (Šydłoŭski). Sutnaść mužčynskaj litaratury ŭ tym, što jana ***dakazvaje*** («imknіecca zraŭniacca z kimś, zrabić tak, jak toj, lepš za toha; vyjaŭlaje, pakazvaje; vystaŭlaje niešta za pravilnaje, sapraŭdnaje, niesumnieŭnaje; danosić, zdradžvaje; pacviardžaje, abhruntoŭvaje»). Mužčyna, jon i ŭ Afrycy, i ŭ litaratury najpierš – mužčyna. Tak, jak na kotku inšy raz pakazvajuć: «Panaziraj: praŭdzivaja žančyna» — tak na piśmieńnika možna pakazać: «Panaziraj: praŭdzivy mužčyna». Tvorčaść žančynaŭ nie adznačanaja tak mocna «abaviazkam pieramahać».

Pryhniečanyja zołkaj rečaisnaściu, biełarusy pieściac' nadzieju na cudoŭnaje pieramianieńnie, zbaŭleńnie: nacyjanalnuju revalucyju, kulturny piaravarat, abo tryjumfalnaje viartańnie Paźniaka, abo big bang tvorčaj enerhii, u litaratury — na Nobela Razanavu, Bykavu. Voś ža:

I noč idzie, i dzień idzie,
I hałavu schapiŭšy ŭ ruki,
Dzivuješsia, čamu nia jdzie
Apostał praŭdy i navuki.

Čakajučy na henija — vialikaha palityka, abo piśmieńnika, historyka, spartoŭca-nacyjanalista, milijardera-patryjota — jaho sabie ujaŭlajuć mužčynam, taksama jak sabaku, kata, kania (u adroźnienie ad taho, jak myślać rasiejcy ci anhielcy) abo anioła (biaspołaha pavodle klasyčnaj tealohii).

Apostała niama j niama. A Nobel čakaje tolki tych, chto choča dvuch Nobelaŭ.

Voś ža ŭčytajmasia ŭ novaje pakaleńnie žančynaŭ-piśmieńnic. Idziecca ŭžo nie pra tych, što pačynali ŭ «toj» «Našaj Nivie», a pra pakaleńnie, što pryjšło ŭžo ŭ mienskuju «NN», pa viekapomnym '96. Jano pradstaŭnica sabrałasia ŭ ARCHE-1. Mania Roŭda, svojeasablivy znak hetaj heneracyi, talentam jakoj ruchaje charakternaje spałučeńnie intelektualnaj prahi j słova, paznačanaha vyzvalenčymi intencyjami; Eva Viežnaviec, sapraŭdnaje litaraturnaje adkryćcio hodu; ekspansiŭna-stylovaja Volha Karatkievič; i Natałka Babina, aŭtarka intelihentnych detektyvaŭ pa-rasiejsku, pałymianych esejaŭ pa-ukrainsku i klasyčnych navelaŭ u duchu *Pirandello* pa-biełarusku, — piśmieńnica, jakaja nikoha nidzie nie zabiła.

**Eva Sys**

# БРАТЫ КАРАМАЗАВЫ,

**Герман Гесэ**

*Нішто само па сабе не існуе звонку або ўсярэдзіне. Бо ўсё, што звонку, тое і ўсярэдзіне.*

**Я.Бёмэ. «Аўрора»**



Як мне здаецца, у сваіх творах, а перадусім у «Братах Карамазавых», Дастаеўскі вельмі дакладна прадбачыў тое, што я называю «Заняпадам Эўропы». У тым, што самога Дастаеўскага — а ня Гётэ й нават ня Ніцшэ — эўрапейская, а асабліва нямецкая моладзь успрымае як блізкага да сябе найвыдатнейшага пісьменьніка, я бачу штосьці прароцкае.

Ідэал карамазавых, гэты старадаўні азіяцкі акультны ідэал, паступова стае эўрапейскім, пачынае высмоктваць дух старой Эўропы. У гэтым я, уласна, і бачу заняпад Эўропы. Такім чынам, зварот да Азіі, да крыніцы, да фаўставых «мацярок», відавочна, як і любая сьмерць, прывядзе да новага нараджэньня. Нарэшце, заняпадам гэты працэс лічым толькі мы, ягоныя сучасьнікі.

Але што гэта за такі «азіяцкі» ідэал, які я знаходжу ў Дастаеўскага, і які, на маю думку, можа паглынуць Эўропу?

Сьцісла кажучы, гэта адмова ад усялякай нарматыўнай этыкі і маралі дзеля ўсёразумення, усеўспрыйманьня ды нейкай новай жахлівай маралі, пра якую распавядае старац Зосіма, у якой жыве Алёша, якую з максымальнай выразнасьцю фармулюе Дзьмітры, а найбольш моцна — Іван Карамазаў.

Над старцам Зосімам яшчэ вісіць ідэал справядлівасьці, прынамсі, для яго існуе дабро й зло, хоць сваю любоў ён накіроўвае перавжна на носьбітаў зла. У Алёшы гэта новая сьвятасьць выяўляецца нашмат больш жвава й адвольна, ён ідзе праз багну свайго асяродзьдзя з напалову амаральнай нявымушанасьцю. Ён нагадвае мне пра высакародны запавет Заратустры: «Я даў зарок цурацца любой пагарды».

Браты ж Алёшавы йдуць яшчэ далей. Часам здаецца, быццам суадносіны роляў братоў Карамазавых на працягу аб'ёмнай трохтомнай трылёгіі кардынальна зьмяняюцца такім чынам, што ўсё бясспрэчнае становіцца ўсё больш хісткім ды няпэўным: сьвяты Алёша робіцца ўсё больш сьвецкім, а ягоныя сьвецкія браты — усё больш сьвятымі, прычым найбольш распусны зь іх Дзьмітры — ледзь не найсьвяцейшым і найчуйным пракорам новай сьвятасьці, новай маралі, новага гуманізму.

Чым больш безаглядная карамазаўшчына, чым больш у ёй распусты ды п'янай брутальнасьці, тым больш выразна праз заслону гэтых грубых зьяваў, людзей і надзеяў сьвеціць новы ідэал, тым больш духу ды сьвятасьці зьбіраецца там усярэдзіне, і ўжо проці п'яніцы, забойцы й гвалтаўніка Дзьмітрыя ды цыніка-інтэлектуала Івана ўсе тыя бездакорна-сумленныя асобы накшталт пракурора ды іншых прадстаўнікоў мяшчанскага сьвету выглядаюць настолькі бляклыя, убогія, нікчэмныя, наколькі пнуцца трыюмфаваць вонкава. Такім чынам, «новы ідэал», які пагражае самому йснаваньню эўрапейскага духу, зьяўляецца надзвычай амаральным спосабам мысьленьня й адчуваньня, якія здольныя бачыць боскае, неабходнае ды вызначальнае і ў ім, і ў пачварнасьці, і здатныя гэтае зло ды гэтую пачварнасьць паважаць і баслаўляць. Спроба пракурора ў сваёй доўгай

Наталка Бабіна

# Сучасная назва Мідылі

*Апавяданьне*

Я амаль заўсёды прачынаюся пад трэці заклік муэдзіна. Не таму, што ён мяне будзіць – праз сон я амаль заўжды чую й першыя два – а проста таму, што трэці голас з недалёкай вежкі здаецца мне зьвязкай паміж сном і днём. У вакно я бачу мора – амаль заўжды спакойнае. На жаль, раніцай вецер з гор і пах мора, які я так люблю, не далятае.

Я выбіраю сукенку – толькі шаўковыя і толькі зялёных адценьняў – і выхожу на тэрасу, каб зварыць каву. Вуглі паступова разгараюцца, пясок у жароўні становіцца цёплым, потым гарачым, пена ў джэзьве расьце... З кубачкам у руках я сяджу пад разрослымі да немагчымасьці кірказонамі і, назіраючы за берагам, за першымі купальшчыкамі, думаю, чым заняць новы дзень. Калі ўвечары або ноччу быў шторм, то ў гэты час звычайна ўздоўж узьбярэжжа павольна плыве рыбацкая маторка, і той з рыбакоў, што малодшы, мэлядычна гукае:

– Рыба! Залата, срэбна рыба! Сьвежа рыба!

Бывае, я ўзмахваю рукой ў адказ, і тады маторка кіруецца да невялічкага прычалу, і рыбак прыносіць мне латок з рыбай –гэта заўсёды кефаль, і яна заўсёды й сапраўды залатая й срэбная. Я выбіраю рыбіну, і плачу за яе ўдвая больш, чым запрошвае рыбак. Мне падабаецца, як ён пасьміхаецца, атрымаўшы грошы. Пасьля я яшчэ прашу аднесьці рыбіну ў садок у двары, і рыбак, кланяючыся, адыходзіць.

Сонца паднімаецца высока, але на тэрасе заўжды халадок. Людзей на пляжы большае – хутка будзе ўжо натоўп.

Цяпер пайсьці ў горад – выбраць.

... Выбраць у вулічных гандляроў чарговую зялёную сукенку, мяккую й далікатную, пальцы сьлізгаюць па тканіне, яе хопіць на тры разы апрануць. Як толькі паблякне колер і пасыплюцца швы, яна паляціць у сьметніцу. Яна не пасьпее надакучыць мне, а гэта нямала.

... Выбраць нешта ў маленькіх крамах, дзе прадаюцца срэбныя пярсьцёнкі з волава, шкляныя рубіны ды сапфіры-стразы. Дзе-калі сярод развалаў шкляных рознакаляровых каменьчыкаў мільгане змрочнае вока сапраўднага смарагду ў аправе зь белага або зялёнага золата, або чарнёны бранзалет зь сямі сланоў, стары, як сам гэты горад. А то яшчэ тумановы агат або, невядома адкуль, крыжык з кітайскага жадаіду... Або залацісты тапаз, вялікі, як яйка перапёлкі, і трошкі-трошкі мутнаваты, або блакітны аквамарын, які хавае зялёнае глыбока-глыбока ў душы...

Калі я не купляю нічога у шапіках ювэліраў, дык іду на базар. Адсюль ужо немагчыма пайсьці безь нічога, бо, у адрозненьне ад рубінаў і сапфіраў, усё тут сапраўднае. Амаль чорныя смоквы, памідоры, нібы ракеты ў мініятуры, і тлустыя, сакаўныя пабегі партуляку, якія агрэсіўна тапырацца на прылаўку безьліччу лістоў. Ігрушы, салодкія перцы, сьлівы. Гронкі вінаграду, якія адной рукой не падняць, персікі пульхнатыя й гладкія, яркая салата. Кавуны, разрэзаныя надвое дыні, абрыкосы. Маладое лісьце вінаграду, далікатная бамія, артышокі. Салодкая бульба, салодкая цыбуля, яшчэ цыбуля, пранізьлівага вострага смаку. Агуркі, як коні, і маленькія, сьвежая пекінская капуста, часнык, такі й мочаны... Першы з гандляроў кавы, да якога я падыходжу, дае мне калёнскай вады, каб я асьвяжыла рукі й твар, выбавілася ад пахаў базару – каву трэба выбіраць «на чысты нос»...

Калі мне ня хочацца ў горад, я еду горнай дарогай, куды прывядзе. У мяне невялікі пэжо, канечне, пэрлямутрава-зялёны. Дарога заўсёды прыводзіць мяне ў адно месца. Да перавалу неба бясхмарнае, але варта падняцца на яго, як пачынаюць наплываць аблокі. Мора адсюль, з вышыні, здаецца сінім-сінім, толькі ля берагу, там, дзе праз слой вады бачныя камяні старога, яшчэ элінскіх часоў, порту, вада смарагдава-зялёная. Камяні аблепленыя марскімі яжамі. Зусім блізка адсюль востраў Мідылі – так цяпер мы называем Лесбас, – ён трошкі зацягнуты смугой, але ўсё адно добра відаць маленькія дамкі з чырвонымі стрэхамі й купкі дрэваў. Усё так, як і тут, у Бахрамкале, але тутэйшыя дамкі з чырвонымі стрэхамі стаяць пустыя – тут жылі грэкі, яны даўно паўцякалі адсюль, і слушна зрабілі, бо цяпер тут пустынна, і вецер вее так моцна, быццам хоча сагнаць з гары ўніз, у мора, і пустыя дамы, і пыльныя камяні, і мяне. Я адпускаю тормаз, і пэжо, падагнаны ветрам, пачынае каціцца ўніз. Калі-нікалі я еду абачліва й асцярожна, амаль не зьнімаючы нагі з пэдалю тормаза, а калі-нікалі пру вельмі хутка, звонка сьмеючыся на крутых заваротах, на якіх сустрэчныя машыны, што едуць на перавал, прыціскаюцца да скалаў. Як бы я ні ехала, урэшце дарога выносіць мяне ў маленькае мястэчка, абы-якія дамкі тут, штогод іх засыпае каменьне з гары, якая аж вісіць над самымі дахамі.

Я купаюся. Калі ехала павольна, дык плаваю ўздоўж берага, апусьціўшы вочы ў ваду, і разглядаю рыбаў. Тут няма кефалі. Жоўтыя сумныя рыбіны, стракатыя вясёлыя, ружовыя задуменныя. Вусатыя. Надзьмутыя. Рыбы, што спяшаюцца па справах. Калі ехала хутка, дык, кінуўшыся ў ваду, плыву да Мідылі. Зацята плыву, аж пакуль ня пойдзе напярэймы памежны катар. Тады павяртаю назад.

Аднойчы, не даяжджаючы да перавалу, я зьвярнула з шашы на прачышчаную бульдозэрам дарогу – такія дарогі ў гарах зазвычай вядуць до гранітных кар'ераў або да вялікіх аліўкавых плянтацыяў. Гэтая, абвіўшы некалькі невысокіх вяршыняў, вывела да жытла.

Белая хата, збудаваная яшчэ за часоў імпэрыі, у высахлай ушчэнт седлавіне. Сям-там алівы, старыя камлі, маладыя галіны. Зялёна-шэрая лістота над пажоўклай травой, усё астатняе сьпёклася на сонцы. Пануры восьлік паміж алівамі, тры пужлівыя авечкі. На ганак выйшла старая. Яна круціла галавой, азіраючыся, але не прыкрывала вачэй ад сонца. Яна выйшла на шум матору, але машыны ня бачыла. Я націснула на газ, матор зароў, і старая нарэшце сфакусавала зрок. Я заглушыла рухавік і выйшла, бразнуўшы дзьверкай, і пару разоў пакланілася, як вымагае звычай.

– А хто то? – спыталася яна.



– Мяне завуць Нэйбахат, – адказала я.

Я разглядала старую, вырашаючы, што сказаць, як растлумачыць ёй свой прыезд.

– Пабачыла дарогу й трапіла да вас.

– А хто то? – паўтарыла старая.

Тады я сказала:

– Мяне прыслаў мула з Бахрамкале. Ён пытаецца, ці ня трэба вам чаго падвезьці – прадуктаў, вопраткі, можа, трохі грошай? І казаў, што ў вас можна купіць алею.

– Нэйбі? – перапытала старая. – То ты? Які мула?

Старая, пэўна, спачатку прыняла мяне за родзічку ці знаёмую. Мне падалося, што зь ёй ужо нельга гаварыць, але праз хвіліну задуменнасьці яна прамармытала:

– А, мула, барані яго алах... – і зноў замоўкла, няўцямна разглядаючы мяне чорнымі вачыма, адно зь якіх амаль цалкам, а другое напалову зацягнутыя бельмамі.

Проці звычаю, яна не сьпяшалася запрасіць мяне ў дом. Сонца пякло мне галаву, у седлавіне ветру зусім не было. Пот –вадкасьць, якая плыве з чалавека тонкімі струменьчыкамі проці ягонай волі.

– Хадзем, уцягнеш мне нітку ў голку, – нарэшце сказала старая.

Я пайшла за ёй, уцягнула нітку ў голку, не адрываючы яе ад катушкі – так запатрабавала старая. Потым я прыяжджала яшчэ пару разоў.

На ёй заўсёды было адно: чорная хустка, цёмная сукенка, чорныя шаравары. Яна, мабыць, так і спала. Ад яе патыхала цвільлю, мочам, авечым гноем. Старая не абувалася нават у самую сьпёку, калі я не магла дакрануцца да пяску. Босай хадзіла на агарод і па ваду.

Бачыць яна амаль нічога ня бачыла, але, дзякуючы звычцы, упраўлялася вобмацкам.

Павесіўшы на бакі панурага восьліка дзьве аплеценыя пыльнай лазой вялікія бутлі й пачапіўшы на локаць вядро, яна выходзіла з дому ў самую сьпёку – чым ясьней сьвяціла сонца, тым лепш яна бачыла – і па незаўважнай у камянях і пыле сьцежцы йшла да крыніцы – струменьчыка, што выцякаў проста з каменя. Ісьці трэ было спачатку ўгору, потым уніз – з гадзіну. Доўга цурчэў струменьчык, пакуль напаўняліся бутлі. Восьлік дзе-калі падыходзіў і піў, перахопваючы яго. Тут, ля вадапою, восьлік трохі ажыўляўся і пачынаў скубсьці траву, якая расла паблізу вады. Травы было мала, і восьлік пераходзіў на поле, на агурочнік. Калі бутлі былі поўныя, старая бралася за паліваньне. Доўга-доўга струменьчык напаўняў вядро. Кожнай расьліне – па кубку, усім пароўну, незалежна ад таго, гурок гэта, памідор ці бульба. Нічога іншага старая не садзіла. Яна сказала мне, што кожны раз пасьпявае паліць толькі палову поля – трэба йсьці назад, пакуль не зьвечарэла. Яна

*Працяг на старонцы 14*

# АБО ЗАНЯПАД ЭЎРОПЫ

прамове з гіпэртрафаванай гіроніяй апісаць гэтую карамазаўшчыну ды выставіць яе на зьдзек насамрэч нічога не перабольшвае, нават выглядае занадта асьцярожнай.

У гэтай прамове ствараецца вобраз «рускага чалавека» з кансэрватыўна-буржуазнага пункту гледжаньня, вобраз гэтага небясьпечнага, уразьлівага, безадказнага, хоць і чулага, мяккага, летуценнага, лютага, часам дзяціністага рускага чалавека (якога й дагэтуль любяць так называць, хоць, на маю думку, ён даўно прагне стаць чалавекам эўрапейскім); з таго часу гэты вобраз стаў досыць папулярны. У гэтым, уласна, і ёсьць заняпад Эўропы.

На гэтым «рускім чалавеку» варта спыніцца больш падрабязна. Ён нашмат старэйшы за Дастаеўскага, хоць менавіта Дастаеўскі найбольш поўна адкрыў сьвету ўвесь спэктар ды значэньне дадзенага фэномэну. Рускі чалавек — гэта Карамазаў, гэта Фёдар Паўлавіч, Дзьмітры, Алёша, Іван, таму што гэныя чацьвёра, якімі б рознымі яны ні былі, моцна зьвязаныя паміж сабой; яны разам і ёсьць Карамазавымі, яны разам і ёсьць рускім чалавекам, яны разам і ёсьць тым будучым, ужо напалову рэальным чалавекам эўрапейскае крызы. Варта зьвярнуць увагу на адну дзіўную сытуацыю, а менавіта: як на працягу апавяданьня Іван з цывілізаванага чалавека трансфармуецца ў Карамазава, з эўрапейца — у расейца, з сфармаванага гістарычнага тыпу — у бясформавую сыравіну будучага! Гэтае ператварэньне зьдзяйсьняецца з самнамбулічнаю пасьлядоўнасьцю.

Іван зрынаецца з п'едэсталю выхаванасьці, розуму, цьвярозасьці й навуковасьці. Паступова, напружана, безнадзейна падае менавіта той з Карамазавых, хто напачатку ставарае найбольш пазытыўнае ўражаньне, ён пагружаецца ў гістэрыю, у расейскую стыхію, у карамазаўшчыну! Менавіта скептык Іван напрыканцы раману размаўляе з сатаною! Але пра гэта мы яшчэ згадаем.

Такім чынам, рускі чалавек — гэта ня толькі гістэрык, п'яніца альбо злодзей, паэт альбо сьвяты; у ім усё гэта суіснуе, у сынтэзе ўсіх гэтых якасьцяў. Рускі чалавек — Карамазаў — ёсьць адначасова забойцам і судзьдзём, бунтаром і ўразьлівай душой, счарсьцвелым эгаістам і героем безаглядняй самаахвярнасьці. Яго не падгоніш пад эўрапейскі капыл —цьвёрды, маральнаэтычны, дагматычны. У гэным чалавеку вонкавае і ўнутранае, дабро і зло, Бог і Сатана моцна перапляліся. Таму, уласна, у душы тых Карамазавых узьнікае прага найвышэйшага сымбалю — Бога, які адначасова быў бы й Сатаной. Бог, які разам з тым ёсьць і Д'яблам — гэта ж старадаўні Дэміюрг. Ён быў спачатку, ён, адзіны, сутны па-за ўсімі супярэчнасьцямі, ня ведае ні дня, ні ночы, ні дабра, ні зла. Ён — ніштo, і ён — усё.

Мы высьветлілі сутнасьць «рускага чалавека». Чалавека, які прагне вызваліцца ад супярэчнасьцяў, вызначаных уласьцівасьцяў, маралі. Чалавека, які намагаецца раскрыцца, павярнуцца назад, да principum individuationis. Гэты чалавек ёсьць несфармаванай сыравінай душэўнай плязмы. У такім выглядзе ён ня можа жыць, ён можа толькі ўспыхваць зьнічкаю й гінуць.

Рускі чалавек існуе ўжо даўно, пры гэтым існуе й па-за межамі Расеі; гэты чалавек валодае ўжо паловай Эўропы, а грукат грому, які так усіх налякаў, адгукаецца яшчэ й дагэтуль. Высьветлілася, што Эўропа стамілася, што ёй карціць павярнуць

*Працяг на старонцы 14*

# Сучасная назва Мідылі

Працяг са старонкі 13

баялася цемры. Таму на другі дзень палівала другую палову поля – усярэдзіне корчыкі выглядалі лепш, іх, выходзіць, палівалі часьцей, і вослік сюды не дабіраўся. Я не магла дапамагчы старой паліць усё – загваздка была ў крынічцы, якая занадта марудна жаўрэла...

Старая была вельмі маўклівай. Яна ні пра што ў мяне не пыталася й не адказвала.

Аднойчы адвязаліся й згубіліся авечкі. Калі, абышоўшы вакол хаты, старая гэта зразумела, яна заплакала, закрычала і ўпала на зямлю. Праз паўгадзіны я, спатнелая й задыханая, прыгнала трох худых жывёлінаў, а яна гэтаксама ляжала на пыльных камянях і крычала.

– Ана, устаньце, гляньце, вось яны, я іх знайшла! – крыкнула я.

Яна села на зямлі й стала аглядацца з тым самым выглядам, як тады, калі пачула шум маёй машыны.

– Вось яны! – крычала я, запыняючы бяздумных авечак і, папіхаючы іх каленьмі, бліжэй да старой. – Усе тутака! Ня плачце!

Адзінай ежай старой было авечае малако й сыр зь яго, ну й яшчэ аліўкі. На бульбу й агуркі ў гэтым пекле разьлічваць не прыходзілася.

Старая, дрыжучы, углядалася перад сабой. Мы загналі авечак у хлеў, поўзаючы ў гноі на каленях, старая яшчэ доўга мацала авечак, лічыла.

Потым яна ўпершыню пачаставала мяне. Я ела сухаваты салёны кавалак сыру, трохі забруджаны яе рукамі, старая ела свой кавалак побач са мной, ёй цяжка было есьці цьвёрды сыр трыма пянькамі, што засталіся ў роце, крошка сыру прыляпілася да шчакі, а кавалачкі гною – да пальцаў, і я падумала, што старая хутка памрэ.

Я вырашыла, што заўтра паспрабую прывезьці ёй смажаную залатую кефаль. Раней, што б я ні прывозіла, ёй нічога не смакавала, ежай яна цяпер лічыла толькі сыр ды аліўкі, а ўсё астатняе клала назад у торбу і засоўвала мне ў руку. Мярцьвяцкі пах стаяў у хаце, калі я прыехала наступным разам.

Старая ляжала, непазнавальная, на сьпіне, вочы яе былі закрытыя, а сківіца адвалілася. Сухія рукі са скурчанымі пальцамі ляжалі ўздоўж цела. З-пад пляскатай подушкі выступаў краёк абразка. Я й ня ведала, што яна была грачанкай. Калі тут рээалі грэкаў, яна, значыцца, была зусім дзяўчом.

Я вышла з хаты, выпусьціла з хлеву авечак, якія неспакойна турзаліся па загоне, выпусьціла й напёрла вослікa, які, аднак, адразу зноў вярнуўся пад хату.

Дома, пад кірказонамі, я вырашыла забіць Марыда. Ах, я ж яшчэ не казала, хто такі Марыд! Я яго ўтрымaнка. Ён прыяжджае сюды раз на тыдзень. Дзень я праводжу зь ім, а астатнія шэсьць –так, як хачу. Гэта прыймальная плата – мне ня трэба, як многім іншым жанчынам, бачыць свайго ўтрымальніка кожны дзень і ноччу, пакуль не засьнеш. Мне не прыходзіцца штодзённа працаваць, каб два разы на месяц атрымліваць жалю вартую купку грошай, якіх усё роўна заўсёды бракуе. Як ён пнецца выглядаць значным, і, халера, гэтае валасатае пуза... Поры на носе, пах парфумы ад вусоў. Тэк-с.

Забіць мужчыну, які агідны.

Я схадзіла па пісталет і навярнула на ствол глушыльнік. Заўтра ён прыедзе, і я яго заб'ю.



Канстанты Ільдэфанс Галчыньскі

# ЗАЧАРОВАНАЯ

*Натальлі – ліхтарыку зачараванае фурманкі*

*I*

*Allegro*

*Запытайся ў сяброў,*
*яны ў курсе таксама.*
*Шэсьць загадкавых слоў –*
*вось і ўся тэлеграма:*
*ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА*
*ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗЬНІК*
*ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ*
*Я гартаў дапаможнік*
*спадара Бэн Алі:*
*«Калі ты чарнабожнік,*
*дрожкі срэбрам залі:*

*водбліск возьніку ў вочы –*
*адмысловаю брошкай;*
*блісьні брошкаю двойчы –*
*зачаруеаш і дрожкі;*

*але конь – не!» Званю*
*Бэн Алі: – Хтосьці коні*
*чараўніцтвам супоніў!..*
*– Не паверу ў хлусьню!*

*Ноч. Паштар у дзьвярах –*
*вартаўнік і турма.*
*Валасы паднаў страх аж да столі старчма:*
*ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА?*
*ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗЬНІК?*
*ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ?*
*Шэраг вусьцішных знакаў.*

*Як спакусьнік у Баха,*
*зьзяе зваблівы Кракаў*
*срэбрам кожнага даху,*
*стаць загадвае зоркам*
*па-над лісьцем на якар.*

*Можа, я падвячоркам*
*сам замовіў фіякар?*

*Можа, прагнуў натхненьня*
*і хацеў у вандроўку,*
*мо рамізьніку сьненьні*
*зьвілі вус у вяроўку*
*і зьнячэўку прыйшлі*
*вецер, ноч, Бэн Алі,*
*ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,*
*ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗЬНІК,*
*ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ?*

*II*

*Allegro sostenuto*

*Ад Вэнэцыі аж да Суконнага рада,*
*на Артуры і Ронардзе вісьнучы, крочу.*
*Але гэта няпроста. Як даць сабе рады?*
*І глядзіць начны Кракаў на трох небаракаў*
*кожнай шыльдай зялёна-шалёнае ночы:*

*III*

*Alegretto*

*уночы ПТУШКІ-ПАТАРОЧЫ*
*уночы крама: ЎСЁ ДЛЯ ХАТЫ*

# ŽABA Z VOZU

**Časopis «ARCHE», Nr 1**

Ci jość mahčymaść skasavać prezumpcyju niecikavaści, jakaja paralizuje biełaruskuju kulturu j litaraturu?

Mužyki j baby, jakija vydali časopis «ARCHE», stvaryli ŭmovy dla vialikaj spravy: bajkotu vydańniaŭ, što kampametujuć naša słova, takich jak «Беларуская думка», «Полымя», «Маладосць», «Крыніца». Hałoŭnaje adroźnieńnie pamiž «ARCHE» j aficyjoznymi vydańniami možna subjektyŭna sfarmulavać tak: słova ŭ časopisie «ARCHE» žyvoje, a ŭ tych — miortvaje.

Usio, što padkreślivaje j ekspluatuje razryŭ z stereatypnaj miłahučnaj «biełaruskaj kulturaj i litaraturaj», takoj, jakoj joj vyznačyli być kalanizatary, siońnia jość prahresiŭnym. «ARCHE» robić heta ŭsialak. Pa-pieršaje, vybaram słohanu numaru — «parnahrafija». Pa-druhoje, składam aŭtaraŭ (Gombrovicz, Hłobus, Sloterdijk, Sys, Erocić, Mathews, Pinchasik, Brzeziński...). Pa-treciaje, rasstanoŭkaj dvuchsensoŭnych akcentaŭ («Łukašenka jak apateoz zhaleńnia», «My budziem narodnym časopisam», «vialikaja siabroŭka Biełarusi», «nastupili na biełaruskuju nahu»). Pa-čaćvierttaje, starannaj redaktaraj i karektaj (zdajecca, try pamyłki druku na ŭvieś časopis — hetkaja špilka pad bok draŭlanaj movie «Культуры», «štampoŭcy» «ЛіМ»-u j chraničnaj niepišmiennaści «Крыніцы». Narešcie, u časopisie panuje biezduchoŭnaść u piku kazionnaj duchoŭnaści, što padpiraje dziaržaŭnuju idealohiju.

Darečy, słovu «duchoŭnaść» nie znajści adnaznačnaha adpaviednika ŭ anhielskaj, francuskaj movach: jość maralnaść, charastvo, kultura, duch. Tak, jak niama tam

# БРАТЫ КАРАМАЗАВЫ,

Працяг са старонкі 13

кудысьці назад, трохі адпачыць, а потым зноў узьнясьцца, адрадзіцца (...)

Цалкам іншым пытаньнем ёсьць пытаньне аб ацэнцы заняпаду старой Эўропы (...) Для адных гэта крах, аднак для іншых — пачатак. Для адных Дастаеўскі — злачынец, для іншых — сьвяты. Для адных Эўропа й яе дух ёсьць чымсьці адназначным, нязьменным ды істотным, для іншых — гэта нешта вечна зьменлівае, бурлівае, няўстойлівае.

Карамазаўшчыну, як усё азіяцкае, хаатычнае, дзікае, злавеснае і амаральнае, можна трактаваць — як і ўсё ў гэтым сьвеце — і пазытыўна, і нэгатыўна. Тыя, што праклінаюць і баяцца такога сьвету, таго Дастаеўскага, карамазавых, расейцаў, той Азіі і тых дэміюргічных фантазіяў, асуджаныя сёньня на незайздроснае йснаваньне, бо панаваньне карамазаўшчыны зараз ёсьць больш відавочным, чым калі-кольвек. Аднак яны памыляюцца, зьвяртаючы ўвагу ўва ўсім гэтым толькі на фактычнае, відавочнае ды матэрыяльнае. Яны ўспрымаюць заняпад Эўропы як жахлівую катастрофу, як крываваю рэвалюцыю або як трыюмф злачынства, карупцыі ды забойстваў.

Сапраўды, усё гэта ўласьціва Карамазаву. Калі ты маеш справу з карамазавым, невядома, чым ён прыгаломшыць цябе ў наступны момант: можа, крываваю сцэнаю, а можа, асаннаю Богу (...). Карамазавы адрозьніваюцца ад іншых людзей, па сутнасьці, толькі тым, што жывуць столькі ж вонкавым жыцьцём, колькі і ўнутраным, ды тым, што ў іх увесь час праблемы з уласнаю душой. Карамазавы здольныя на любое злачынства, але чыняць яго толькі ў выключных выпадках, бо іх, уласна, задавальняе менавіта сама думка аб злачынстве. Злачынствы ў галаве, гульня з магчымасьцю. У гэтым іх таямніца. (...)

Усялякая культура, цывілізацыя грунтуюцца на дамоўленасьці наконт дазволенага й забароненага (...). Чалавек напоўнены жывёльнымі, зьвярынымі інстынктамі, хоць культура, канвэнцыі, цывілізацыя прыхавалі іх. Мы не паказваем свайго зародку, бо зь дзяцінства прывучаныя падаўляць і хаваць гэтыя інстынкты. Аднак кожны з гэтых інстынктаў зьвярынага эгаізму час ад часу вырываецца на волю — і тады, уласна, і зьяўляюцца карамазавы. Калі на якую-небудзь культуру як адну з спробаў упарадкаваць чалавека находзіць стомленасьць і змора, тады яшчэ больш людзей дзічэюць, упадаюць у гістэрыю й пачынаюць паводзіць сябе, няйначай падлеткі ў пэрыяд стаўленьня або цяжарныя жанчыны. Гістэрыя, нэўрастэнія, moral insanity ды іншае зло ў суме ёсьць роўнымі карамазаўшчыне. Тады душу напаўняе хваляваньне, якое, з пункту гледжаньня старой культуры й маралі мы мусілі б вызначыць як зло, але ж прамаўляе яно так гучна, натуральна ды цнатліва, што нейкія дэфініцыі дабра й зла становяцца сумнеўныя, і ўсялякія законы — хісткія.

Такімі людзьмі й ёсьць браты Карамазавы. Зь незвычайнай лёгкасьцю яны ператтвараюць усякі закон ва ўмоўнасьць і самазакахана прыслухоўваюцца да ўсялякага зруху сваёй душы (...).

Браты Карамазавы — гістэрычныя ды небясьпечныя, злачынцы й аскеты адначасова. Іх адзіная вера — скепсіс да ўсялякай веры. Найбольш цікавым у гэтым пляне ёсьць Іван. Ён паказаны сучасным, адукаваным, прыстасаваным чалавекам — крыху халодным, расчараваным, скептычным, стомленым. Але чым далей, тым ён «амаладжаецца» і «цяплее», становіцца больш

# ФУРМАНКА

*ўночы КАВА і ГАРБАТА*
*ўночы МЯСА-МАЛАКО*
*ўночы МЭБЛЯ РАКАКО*

*ўночы ЛАЗЬНЯ і ЦЫРУЛЬНЯ*
*КАЗІўНОчы КОН І ГУЛЬНІ*
*ўночы клюб: ПАНЫ, БЯЗ ПАНІКІ!*
*ўночы ЗЛУЧАНЫЯ СТАНІКІ*

*ШКОЛА ТАНЦАЎ на тры чвэрці*
*ВАЛЬС а рэшта СКОКІ СЬМЕРЦІ*

*ўночы ГУРТ «СЯБРЫ КАСЬЦЁЛА»*
*ўночы ЎСЁ-ШТО-ЁСЬЦЬ-НАЎКОЛА*

*словам, вечныя сябры –*
*ноч і ночныя вятры.*

IV

*Allegro ma non troppo*

*Мы прыйшлі да карчмы «У мурынаў»:*
*э-эх, з полымя ды ў агонь!*
*Толькі погляд на пляц я кінуў –*
*звар'яцееш ад гэткіх навінаў! –*
*ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,*
*ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗЬНІК,*
*ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ.*

*Зь вежы Мар'яцкай сьвятло цярушыць,*
*а конь, уяві, вушамі варушыць.*

V

*Allegro cantabile*

*Грыва і хвост адліваюць белым,*
*вецер у грыву і белы вэлюм.*

*Панну да шлюбу вязе фурманка,*
*панну й матроса, яе каханка.*

*Вабіў матроса морскі блакіт;*
*кінуў дзяўчыну, зьмяніў краявід –*
*і памыліўся: зьеў яго кіт.*

*Сьмерць завітала й да панны ўпотай,*
*закатаваўшы яе самотай.*

*Але каханьне – вялікая сіла –*
*нават па сконе іх зноў злучыла.*

*Зноўку трымае возьнік ляйчыны,*
*едзе жаніх зь пекнай дзяўчынай:*

*недзе ў прымескай старой капліцы*
*(песьня – прыгожым помнікам гэтага)*
*злучыць з сужанцом сужаніцу*
*стары законьнік, падобны да ветаха.*

*Гулкая ноч. З каханкам каханка.*

*Але, на жаль, праз барочную брамку,*
*што пасьвятлее зранку –*
*часу сівая скронь, –*
*ночны пакінуць хорам*
*in saecula saeculorum*
*ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,*
*ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗЬНІК,*
*ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ.*

VI

*Allegro furioso alla polacca*

*На рагу Пі́ўной і Шпаркай*
*грае вальс «Сланы пад чаркай»,*
*кнайпа ходзіць ходырам.*
*Там у слоіках гуркі*
*й па-над кухлямі дзядзькі,*
*зачараваныя водарам.*
*Прамаўляе пан Аношка:*
*покуль трошкі маем дрожкі,*
*покуль Вісла мае хвалі,*
*а мы коні захавалі*
*й не стаіць вазок парожнім,*
*застануцца ў месьце кожным,*
*хоць ня дужае цаны,*
*хоць няшмат, ну хоць адны –*
*ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,*
*ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗЬНІК,*
*ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ.*

1946

**Пераклаў з польскай Андрэй Хадановіч.**

**Адам Глёбус**

# Цяперашні час

*хоку*

* * *

*Пад самым небам*
*найсьпялейшыя вішні*
*пагойдваюцца.*

06.07.1996

* * *

*Над тэлевежай*
*кружляюць у сінечы*
*якаркі стрыжоў.*

08.07.1996

* * *

*Вечаровая*
*цішыня... Раптам муха*
*зазунзоніла.*

08.07.1996

* * *

*Наступіў на шпрыц*
*аднаразовы, які*
*валяецца ў пяску.*

14.07.1996

* * *

*Ведаеш які,*
*духмяны й тонкі водар*
*у грыбоў-смарчкоў?*

27.04.1998

* * *

*Дзень-другі счакай,*
*і ў менскіх хмурных дварах*
*закрасуе бэз.*

07.05.1998

* * *

*Выпаў першы сьнег,*
*у майстэрні мастака*
*стала больш сьвятла.*

14.11.1998

* * *

*Па замеценай*
*сьнегам дарозе вецер*
*коціць чорны ліст.*

16.11.1998

* * *

*На цёмным камлі*
*старой ліпы сьвеціцца*
*круглы сьлед сьнежкі.*

16.11.1998

* * *

*Халады. Каля*
*самага ложка стаўлю*
*абагравальнік.*

17.11.1998

* * *

*Сонечны мароз.*
*У касьцёл кіруюцца*
*футра й паліто.*

21.11.1998

* * *

*Хлопчык малюе,*
*прутком па сьнезе: зорку,*
*крыж і свастыку.*

22.11.1998

* * *

*Ноч. Сузіраю*
*пад высокім ліхтаром*
*танцы сьняжынак.*

22.11.1998

* * *

*Згубіў нататнік.*
*Прутком на чыстым сьнезе*
*запісваю верш.*

29.11.1998



rożnicy miž praŭdaj i iścinaj, a jość adna ***verity***. Ruskija prydumki — duchoŭnaść i iścina/praŭda — lusterka bizantyjska-slavianskaj safistyki.

Niajasna, praŭda, čamu pravapis «ARCHE» — narkamaŭka. Biezdakorna parnahrafičny, treba pryznać, pravapis, ale jon jość vyznačalnaj rysaj savieckaj tradycyi. Niaŭžo redakcyja taksama ličyć, što ŭ cyvilizacyjnym planie taraškievica ničoha nie mianiaje, pakidajučy svaich nośbitaŭ u cepkich abdojmach Uschodu, u adroźnieńnie ad łacinki, pierachod na jakuju taraškievica mieła b rychtavać? (Bo tak miarkuje častka rasiejskamoŭnaj publiki).

Siarhiej Jekadumaŭ, aśpirant filazofskaha fakultetu BDU, vykazaŭsia na adnoj z prezentacyjaŭ pa-svojmu: «Я не знал, на какой мове написан этот журнал, тарашкевице или наркомовке, да меня и не волнует, но в нем, в отличие от других изданий, можно читать все от начала до конца». Jaho padtrymala karespandentka gazety «Minsk News» Śviatłana Maščanka: «Мой сын-одиннадцатиклассник уже прочитал его. У них в школе экземпляр ходит по рукам».

Mahčyma, hetak padspodna novy časopis dasiahaje inšaj mety: spryjaje intehracyi rasejskamoŭnych. Jon nia tolki «maje što skazać im», ale j naŭmyśla vychodzić im nasustrač.

«ARCHE» zdolny padarvać padazronaje zdrančvieńnie, što apanavała biełaruskaje słova — ciša, nijakich kanfliktaŭ, miortvaja cišynia. Za cełу hod, dy nat za try hady była adzinaja dyskusija (nakont biełaruskaj savieckaj litaratury, spravakavanaja «Rużovym tumanom»).

Novy časopis dla ŭmiełych ludziej moža pasłužyć nadta prydatnym župiełam, kab pałochać ulady, vybivajučy datacyi dla biudžetnych vydańniau.

Biełaruskaje savieckaje słova, nierazryŭnaja tradycyja jakoha ciahniecca z 20-ch hadoŭ, stvarałasia jak instytut-amartyzatar, kab zhładžvaŭ niepryjemnyja adčuvańni na darozie kalanizacyi. «ARCHE» ž stvorany, padobna, z sutnasna pravakacyjnymi namierami, pryčym pa ŭsich azymutach.

Novy časopis — heta žaba pad kołam savieckaha vozu. Ci budzie razdušany ciapier hetym vozam časopis «ARCHE», padryŭny dazvańnia?

**Eva Sys**

# АБО ЗАНЯПАД ЭЎРОПЫ

значным пэрсанажам і ўсё больш карамазавым. Бо гэта ж ён стварыў «Вялікага Інквізытара». Бо гэта ж ён праходзіць шлях ад халоднай адчужанасьці й нават пагарды да забойцы, якім лічыць свайго брата, да глыбокага пачуцьця ўласнай віны і самаасуджэньня. Гэта ж менавіта ён найбольш выразна й асаблівым чынам перажывае канфрантацыю з падсьвядомасьцю. Іван размаўляе з д'яблам, які ёсьць сама Іванавай падсьвядомасьцю, узбурэньнем падаўленых і, здавалася б, даўно забытых перажываньняў. Іван гэта бачыць, разумее, але, тым ня менш, працягвае размаўляць з д'яблам, верыць у яго — бо тое, што ўсярэдзіне, тое і звонку. (...)

Аднак, ці маглі б тыя душэўныя катаклізмы літаратурных герояў азначаць «Заняпад Эўропы»?!

Відавочна! Як і антычнасьць загінула не з-за Нэрона, Спартака ці навалы германцаў, а праз зароджаны ў Азіі сьветапогляд — просты, сьціплы, спрадвеку жаданы, які менавіта ў той час выліўся ў форму Ісусавага вучэньня. (...)

Прынцыпова важным зьяўляецца тое, што ў рамане Карамазавы нявінныя.

Усе Карамазавы — бацька й сыны — людзі падазроныя, небясьпечныя, непрадказальныя. У іх дзіўныя забабоны, загадкавае сумленьне і ня менш загадкавая бессаромнасьць; адзін зь іх — п'яніца, іншы — распусьнік; адзін уцякае ад сьвету й жыве ў сваіх фантазіях, іншы патаемна стварае блюзьнерскія тэорыі. Вялікую небясьпеку тояць у сабе гэтыя дзіўныя браты: яны тузаюць людзей за бароды, нязвыкла лёгка разводзяць чужыя грошы, пры самай нязначнай нагодзе пагражаюць сьмерцю, але пры ўсім гэтым, ніводзін зь іх не зрабіў ніякага рэальнага злачынства. Яны — нявінныя. Адзінымі забойцамі ў гэтым даўжэзным рамане зьяўляецца пракурор ды прысяжныя — прадстаўнікі старога «добрага» й звыклага ладу, сумленныя грамадзяне, якія чыняць страшэнную несправядлівасьць, становяцца забойцамі з-за сваёй абмежаванасьці й маладушнасьці.

У Дастаеўскага бязьвіннасьць злачынцаў і віна судзьдзяў ня проста дзіўная, а жахлівая канструкцыя. Гэтая бязьвіннасьць непрыкметна паўстае з такіх археглыбіняў душы, што напрыканцы раману перад ёю апынаецца, занепакоены, быццам перад глухім мурам, быццам перад згусткам усяго людзкога болю і ўсёй бязглуздзіцай сьвету.

Дастаеўскі ёсьць ня «толькі пісьменьнікам». Я назваў бы яго прарокам. Аднак цяжка дакладна вызначыць, чым ёсьць прарок. Мне здаецца, што прарок — гэта хвароба, калі страчваецца інстынкт самазахаваньня, які ёсьць квінтэсэнцыяй усіх мяшчанскіх якасьцяў. Прарокаў ня можа быць шмат, бо інакш сьвет разьляцеўся б на кавалкі (...). Інакш кажучы, нейкі народ, эпоха, краіна ўзгадавалі ў сабе асаблівы ворган — штосьці накшталт шчупальца, якога мы называем прарокам. (...)

Тое ў душы Дастаеўскага, што мы звычайна называем гістэрыяй, гэтая хвароба, гэтая гатоўнасьць да пакутаў і сталі для чалавецтва такім шчупальцам, такім паказальнікам ці барометрам. Ужо палова Эўропы коціцца ў вір. У сьвяшчэнным і п'яным шаленстве яны імчаць над краем бездані, сьпяваючы, як Дзьмітры Карамазаў, патэтычныя гімны. Зьдзіваваны мешчанін насьміхаецца з гэтых сьпеваў, але сьвяты й прарок услухоўваюцца ў іх, і сэрцы іхныя напаўняюцца горыччу.

**Пераклад зь нямецкай Н.Р.**

